# Аляксей Пысін

*Выбраныя творы ў двух тамах*

*Том*

*I*

*Вершы*

*1948—1966*

*МІНСК*
*«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»*
*1980*

## ЛІРЫКА СЕЙБІТА І САЛДАТА

Не самы плённы, па-мойму, не самы ўдзячны клопат — абавязкова «вярстаць» паэта да таго ці іншага пакалення, шукаць і знаходзіць яму трывалае месца ў абойме. Сказана ж, і не без сур'ёзных падстаў: паэт — равеснік усім пакаленням. І ўсё ж бываюць выпадкі, калі паэта не зразумееш і не ацэніш як след, не высветліўшы яго разнастайныя сувязі з нейкай агульнай чалавечай і творчай супольнасцю. Такім, у прыватнасці, згуртаваным, моцна з'яднаным строем стаяць перад намі вельмі розныя, адзін на аднаго не падобныя паэты-воіны апошняй вайны. «Единою солдатскою судьбою нас фронт и жизнь спаяли навсегда»,— сказаў адзін з іх, рускі паэт Сяргей Нараўчатаў. Фронт і жыццё. Жыццё і смерць. І паэзія — голас іх цяжкага, суровага, але гордага лёсу.

Усімі параметрамі сваёй біяграфіі, усім яе ходам Аляксей Пысін лучыцца да іх, да старэйшых на год-два ці на столькі ж, прыкладна, маладзейшых С. Гудзенкі, М. Луконіна, С. Арлова, А. Межырава, С. Нараўчатава, Д. Самойлава.

Нарадзіўся Аляксей Пысін у 1920 годзе ў вёсцы Высокі Барок на Магілёўшчыне. Скончыў сярэднюю школу. (У вершы «Палёт», на вышыні васьмі тысяч метраў, Пысін прыпомніў далёкае пад незвычайным вуглом: «А я за восем кіламетраў... у школу з хлопцамі хадзіў». Сапраўды, як ска-

зана ў яшчэ адным вершы Пысіна: «Дол і высь — суседзі»). Вясковае маленства паэта спазнала тое ж самае, што ад веку выпадала спазнаць сялянскаму хлапчуку: радасці і ўцехі «птушынай босасці», што «за снегіром па снезе» бегла, і адначасова нялёгкую працу і праз працу рана спасцігнуты сэнс ці не самай карэннай маральнай бясспрэчнасці: «З драбнюткага зярнятка — ўсе калоссі, і толькі плуг узнімае цаліну».

Беларусь — скрыжаванне гістарычных дарог і вятроў, і няйпачай з маленства, калі «мы — босае племя падпаскаў» «з варагаў у грэкі плылі», засталося адчуванне, што тут, «на полі бацькоўскім, якое люблю, чытаю свае векавыя ўспаміны». Векавыя — гістарычныя ўспаміны народа і краю, што сталі сваімі.

У таго ж Нараўчатава чытаем пра аднагодкаў і аднапалчан: «Здаецца, толькі вочы прыжмур — і зноў над намі запалае бязлітаснае і прыгожае неба чырванасцяжных салдат рэвалюцыі». Вясковае маленства Пысіна таксама ведала гэта неба, і свет зрабіўся для яго светам тады, калі ўзнімалі «чырвоны сцяг над сельсаветам», і ў памяці дагэтуль жыве, як «вярталіся вяскоўцы з кавалерыі, дарылі хлапчукам высокі шлем», а шахцёры — «данбаскія святлячкі». Рамантыка рэвалюцыйнага сцяга, дзяцінствам узгадаваная і пранесеная праз агонь, і па сёння з паэтам: «Тугое дрэўка на плячы, працяг жыцця ў руках. Звіні, мой сцяг, і трапячы ў праменнях і вятрах...»

Пасля школы Пысін вучыўся ў Мінскім Камуністычным інстытуце журналістыкі, пазней працаваў у раённых газетах. І першыя творчыя спробы — тады ж, перад самай вайной, таксама як у Гудзенкі, Луконіна, Слуцкага.

Нарэшце вайна, франты: Калінінскі, Ленінградскі, два Прыбалтыйскія. Раненні, шпіталь — і зноў на фронт, у штурмавыя калоны і бяссонне пярэдняга краю, на пераправы і сопкі, што «дыхаюць, нібы вулкан». І тут — найважнае, найгалоўнае, што яднае Пысіна з паэтамі-франтавікамі, станавая частка іх вопыту, ядро, асяродак. І тут ужо

шчылінка, вузкі праём, праз які вызіраюць непадабенства і рознасць: яны і на вайне, сумленна і да канца несучы свае салдацкія абавязкі, адчувалі сябе паэтамі, прынамсі, рыхтавалі сябе ў паэты, пісалі вершы, перапісваліся, нават сустракаліся з майстрамі-настаўнікамі, і тыя іх горача падтрымалі (Асееў — Луконіна, Ціханаў — Нараўчатава, Эрэнбург — Гудзенку); ён, Пысін, толькі ваяваў, і наўрад ці хто-небудзь з беларускіх паэтаў ведаў, што недзе ў пяхоце пад Полацкам ці Ліепаяй ваюе той самы студэнт-«кіжавец», які так прагна, стаіўшы дыханне, слухаў іх вершы на вечарах у перадваенным Мінску і, напэўна, сам употай складаў радкі...

Свой першы зборнік «Наш дзень» Пысін выдаў у 1951 годзе, на чатыры-пяць год пазней Арлова, Луконіна, Межырава. Іх кнігі — яшчэ вайна, баі, «жестокий ветер — встречный и попутный, воронки, рвы, траншеи, блиндажи» (Межыраў). І «дні спатканняў» (так называецца верш Луконіна) абпаленага вайной юнака з мірнай радзімай, з Масквой і каханай.

Як ні дзіўна, але ў трох першых зборніках Пысіна (апроч «Нашага дня» — «Сіні ранак», 1959, і «Сонечная паводка», 1962) вайны ўжо няма. Ці лепш сказаць, яшчэ няма. У кожным разе той, што «прожгла десятки лет и стала в горле сгустком» (Межыраў). Вайна, якую Пысін раз-пораз усё-такі згадвае ў першых кніжках, аднолькава магла ўявіцца ў сваім неперажытым і безаблічным «агуле» ўсім і кожнаму: і ссівеламу герою Леадуна (жылі такія на Магілёўшчыне), і піянеру, «чырвонаму следапыту».

Дык от, вайны не было ў першых пысінскіх кніжках. А што было? Было ўвогуле пахвальнае, шчырае, але, на жаль, рэалізаванае сродкамі павярхоўна-рассеянага і разам з тым наскрозь выбарачнага рэпартажу жаданне перадаць прыкметы новага пасляваеннага дня.

Хлопчык, што «падрос ад шчасця», трымае ля сэрца бацькаў медаль; другі хлопчык пасадзіў дрэўца, і адразу «стала прыгажэй на свеце»; жанчына спраўляе наваселле,

і суседзі «чарку ўсе паднялі»; шафёр спыняе машыну, каб запрасіць у яе прыгажуню з ляснай чаромхай у руках, і г. д., і г. д.

Можа, і праўдзівыя самі па сабе, але неяк штучна вынятыя з жыццёвай плыні, без адчування сапраўднай цаны і шляху, розныя падрабязнасці і «сюжэты» то збягаліся, то разбягаліся бязважкімі кроплямі ртуці, і выходзіла прыблізна так, як у фатографа раённай газеты з паэмы Пысіна «Жураўліны бераг» (1965): «...аднатыпныя ў яго партрэты, стэрэатыпны вельмі фон і тон», хоць і злёгку ўчэплены лірызмам.

І самае важнае: першыя кнігі Пысіна не знаюць яшчэ паэта як **асобу**, як чалавека, і Пысіну трэба было адкрыць: паэзія не трывае нічога вонкавага, такога, што яшчэ не выспела ў душы паэта як моцнае пачуццё, як азарэнне і навіна, як безадкладная неабходнасць перадаць **усім** вынашаную жыццём і лёсам **тваю** істотную праўду.

Той «момант праўды», які заўсёды радуе і хвалюе ў мастацтве, менавіта тады і прыходзіў да Пысіна, калі блізкі і любы яго сэрцу вольны свет пачынаў размаўляць не выхапленымі ў журналісцкай спешцы «акругленымі» карцінкамі — цэльным і па-новаму драматызаваным пачуццём, шчодра адкрытым многім і розным праявам народнага побыту і гісторыі. І праявам прыроды таксама, але ўзятай не проста як пейзажныя замалёўкі — як душэўныя абшар і сфера.

Леднікі, «сусветныя жорны», некалі раструшчылі камень на зёрны; адзін крэмень леднікам не скарыўся. «Ён моцны,— сказалі аб ім,— сам жорнамі будзе!» («Крэмень», 1949).

Хіба гэта толькі пра крэмень? Пра гарт і ўпартасць, якія паслужаць добраму хлебу.

Рэалістычная, у духу Коласа ці Твардоўскага, сцэна з вясковай штодзённасці, як яна ёсць, без аніякіх аздоб і рэтушы: «На крутым перакаце плёснуў хваляю сом. Па бліскучым канаце павялі мы паром. І фурманку з мяшка-

мі, і каня, і гармонь. Мы бярэмся рукамі — ля далоні далонь» («Паром», 1956).

І — вайна... Так, у трэцім зборніку Пысіна «Сонечная паводка» выплывае ваенны матыў, ваенная памяць паэта, каб стойка асталявацца ў яго наступных кнігах і заняць у іх зыходную, ключавую пазіцыю.

Ляглі сябры ва ўсім паходным,
Гарматы сціхлі. Цішыня.
Што сніцца ім пад небам родным
На досвітку, ў пачатку дня?

Засяроджанае пачуццё, глыбокі сардэчны выдых, смутак, боль і віна, не скасаваныя — наадварот, прасветленыя адлегласцю ў пятнаццаць год!

Так беларускі паэт, былы франтавік, у канцы 50-х — пачатку 60-х гадоў яшчэ раз творча размінуўся са сваімі равеснікамі.

Яны ў гэты час паэты пераважна не ваеннай тэмы: Луконін піша аповесць вершам «Прызнанне ў любві», няпросты сплаў мінулага і сучаснасці; Арлоў, як слушна заўважае адзін яго крытык, пайшоў «па валагодскіх лясах, па раённых гарадках, па дамах, па хатах — шукаць тэмы»; цвярозы і дзелавы «даследчык» Слуцкі звярнуўся да востра надзённых сацыяльна-псіхалагічных праблем.

Аляксея Пысіна з нейкай неймавернай, ледзь не фатальнай сілай паклікала да сябе вайна, якая ўжо даўно «агнём і крывёю» сышла за гарызонты часу. Чаму так позна? І чаго ён чакаў?..

Адыходзяць далей батальёны —
Ад баёў, ад апошняй вайны.
І не раз, і не двойчы калоны
Абагнулі наўпрост шар зямны.

У Сяргея Арлова ёсць шырокавядомы верш пра салдата: «Положен парень в шар земной, как будто в мавзолей...» Пойдзем за дзёрзкай, неардынарнай вобразнай логікай Пы-

сіна: ён доўга чакаў, каб і гэты салдат, і многія іншыя пакінулі, як яно скрозь бывае ў класічных баладах, свае «маўзалеі»-магілы і ў задымленых шынялях, пры ўсім рыштунку і зброі, нават з паходнай кухняй у «ар'ергардзе», не раз і не два абагнулі зямлю.

І каб мы, жывыя, змаглі іх непамерную мужнасць, пакуты і мары разгледзець ужо не так, як раней (равы, варонкі, бліндажы) — ва ўсім аб'ёме, у супрацьстаянні і раўнавазе «структурных» сіл і элементаў свету, як фактар ледзь не касмічны.

І каб самі яны здалёк змаглі разгледзець (так «з арбіты глядзіць касманаўт»): якія вы там, за пераваламі часу, на выратаванай намі маленькай «планеце людзей», з памяццю аб Асвенціме і Хірасіме, у ценю злавеснай бомбы, гатовай, дай толькі волю маньякам-ворагам міру, спапяліць усё жывое? «Трывога б'е ў планету, трывога ў сэрца б'е...»

Васіль Быкаў неяк заўважыў: «Вайна — найстаражытная чалавечая трагедыя, хаця кожную вайну кожнае пакаленне, якое ваюе, успрымае па-свойму, адключана ад папярэдніх войн». Пысін чакаў, каб у яго пачуццях і думках выспеў і наліўся энергіяй найбольш пераканаўчы контрдовад супроць гэтай небяспечнай забыўлівасці. І каб варожы, у драпежных крыжах, самалёт абярнуўся крумкачом з народных галашэнняў і песень...

Ёсць у Пысіна адно прасторнае вызначэнне: «Дзень тваёй істоты». Гэты найважны для кожнага таленту дзень Пысіну якраз і дала яго і наша агульная вайна з фашызмам, угледжаная з далечыні і навылёт пранізаная сінхроннымі рытмамі многіх і розных эпох.

Не дзіва, што на першых па-сапраўднаму спелых вершах Пысіна аб вайне ляжаць касмічныя святло і водбліск, і гулы над імі — з бязмежжа: «Гучаць, нібы назвы планет — Таропа, Таржок, Селіжарава. Балота — і свет, і сусвет. Трымціць сіняватае марыва»; «і выбухі ўстаюць бязліста, як марсіянскія кусты. На тых кустах — кара зямная...»;

«гулка, грымотна прайшлі ў гімнасцёрках небам, зямлёй і вадой...»; «пярэдні край, як полюс мерзлаты. На бледны снег ляглі мерыдыяны».

Чацвёртая кніга Пысіна (яна фактычна адкрыла паэта) так і называецца — у згодзе з яе касмічным маштабам і каларытам — «Мае мерыдыяны» (1965). Праз два гады яшчэ адна кніга — «Твае далоні».

На некаторых старонках і адной, і другой — людзі, падзеі, выпадкі. У людзей нярэдка канкрэтныя прозвішчы, званні: капітан Гальпін, сяржант Ігнацьеў, камроты Весялоў. Часам яны спяваюць «пад балалайку ў тры струны», і песні іх даўнія салдацкія альбо вясковыя. Уражанне, аднак, такое: гэтыя людзі падсвечаны «нетутэйшым», на рэзкім зломе «касмічнай» матэрыі, «з полымя, выбуху і разнатраўя» і ў тых самых калонах, што навокал, навокал зямнога шара...

Сухі пясок, сухія гаці,
Сухі туман балтыйскіх вод.
На дзюны ўпаў сяржант Ігнацьеў
Пад біўні зломленых грымот.
Чарнеюць спаленыя дзюны,
Чарнее глыба валуна.
Парваныя сцякаюць струны:
Сямёнаўна,
Іванаўна...

Струны сцякаюць. Пысін вельмі любіць гэтыя дзеясловы: сцякаць, сплываць, бо «незавершаныя» і прыродныя, яшчэ не ўвабраныя цвёрдым лагічным контурам: «Сплыў за круг валун», «мінута сёмая сцякае», «агонь нябесны, вея сцюжная сцякаюць долу...», «са мною ўсё, што не сплыве ніколі...», «сузор'і сплываюць у глыб сінявы...», «агонь ці кроў сцякае па дубровах, і на зямлі сухой агонь ці кроў?»

Яшчэ ён любіць, Пысін, такія словы, як дым, гул, цень, вада, святло. Пра падобныя словы вельмі цікава піша сучасны літаратуразнавец С. Аверынцаў: яно (слова) «за-

мкнулася ў сабе і самаўладна трымае ўсю паўнату гістарычна выкрышталізаванага значэння», «непадзельная адзінка», «выява самых першасных патэнцый мовы». І — дадамо — матэрыяльнага свету, «па натуры» зменлівага, «цякучага».

Беларускі паэт дасягае значнай, як мне здаецца, і своеасаблівай выразнасці, ужываючы гэтыя словы-згусткі, і нярэдка ў паўторах, падкрэслена, з мэтай стварыць скупыя, гравюрападобныя пейзажы-настроі, часта «агучаныя»: «Дымнай паласой з пагоды дымнай збоку цень кладзецца на святло», «спіць зямля. Заснулі ў полі цені змроку і святла», «цені возера па соснах, цені соснаў па зямлі», «даляглядаў вострыя прыкметы у ружовым водбліску вады», «гул струмністы па небасхілах, пах мядовы на ўвесь небасхіл. Стогнуць пчолы...»

Пра пчол ёсць і такое: «Бярэ пчала свой горкі мёд, палынны дым, што мёдам лічаць». Спрэчная біялогія: пчала наўрад ці памыліцца, але моцная сваім трагізмам паэзія — вайна пераблытала «парадкі» свету, выбіла яго з каляін. Радкі пра дым і пчалу — з верша пра тое, як фашысцкія каты палілі дзяцей і жанок у вёсцы Баркі на магілёўскай радзіме паэта. Такое што хочаш пераблытае і саб'е...

Праймаюць пысінскія дыялогі з мёртвымі пабрацімамі... «Вунь стаіць Іван па-над кюветам...» Трава Іван-чай. «Восем куль было — крывёю сцёк». І голас Івана: «...Хочаш — пачастую нашым чаем, я ж цяпер навекі вадахлёб». І паэтаў адказ:

Не, Іване, з чаем — пачакаем,
Закурыць не лішне нам было б.

Мы цыгарку скруцім па-быломy,
Пусцім шызы дым на правады.

Рускі крытык Л. Анінскі піша пра паэтаў, якія не вярнуліся з вайны, пра Маёрава, Кульчыцкага, Когана: «Іх герой курыць. Папяросны дым, горкі, мужчынскі,— адзін са скразных элементаў іх паэтыкі». Верны **сваёй** стылістыцы непарыўных кантактаў з былым, сённяшні Пысін курыць

інакш: «...Можа, часам паходная кухня мне пакінула свой аганёк». Кухня з тых самых фантастычных маршрутаў вакол зямлі.

Плаўна круціцца наша планета
Пад наведзеным промнем касым.
Ўсё, што пройдзена,
Ўсё, што прапета,—
У вітку засталося зямным.

Памяць і перажыванне вайны, сабраўшы істоту, навучылі яе існаваць без адсекаў, злітна, усімі часамі разам, але з цвёрдай апорай на сённяшні «зямны віток». Пра гэта непасрэдная дэкларацыя: «Мой дух, мой крок пяхота гартавала агнём і ліўнем, боем нелюдскім. Вядзі, сучаснасць!»

Сучаснасць у Пысіна — спынены немітуслівым сардэчным жэстам грамадскі дынамізм жыцця, і таксама ў яго непарадных, нягучных праявах народнай працы і быту: раённы аэрапорт («ўжо стала звычайным, зусім не трывожным — вось тут адарвацца ад ціхай зямлі»); ткачыха-дзяўчо, што падводзіць да верацёнаў «праменьчык серабрысты сонца»; пажылыя жанчыны, «найпершыя ударніцы» трыццатых гадоў, што едуць на фестываль з песняю «пра лябёдачку, пра коней вараных».

За Пысіным бясспрэчная заслуга: не звонку, а з самой сярэдзіны агромністых людскіх калектываў ён здолеў у складна пабудаваных вершах-апавяданнях перадаць такую тыповую з'яву нашага часу, як масавы рух моладзі на ўсход. Ёсць сярод гэтых вершаў лепшыя і горшыя, і ўсе яны прыкметна розняцца («формы жыцця», аб'ектыўныя персанажы) ад рамантычна ўмоўнай, метафарычнай лірыкі Пысіна. (Дарэчы, гэта метафарычнасць пысінскага стылю добра відаць з пашыранага ў яго спосабу ўжываць не рэчавыя, не лагічныя, а больш пераносныя, «хісткія» значэнні і сувязі слоў: «жалезны касцёр самалёта», «дзявочы халадок бярозы», «вільготны дым пляскаўся ў вёдрах» — пажар, «кудлатае рыжае рэха» — гасцінны сабачы брэх, «ў па-

ветры пругкі цень вады», «звонкае сена мурашак і вос»
і інш.)

Аднак і сюжэтныя вершы Пысіна нясуць цэнтральную
ідэю «кораню і асновы», непарыўнасці і адзінства на-
яго
роднага лёсу і вопыту. І не выпадкова, мяркую, Пысін шле
на Ангару дзяўчат не абы з якой вёскі, а з Баркалабава,
радзімы славутага летапісу XVI — пачатку XVIII стагоддзя.
Ход паэтавай думкі і тут няпросты: едзьце, то ваша мала-
дое права, але не варта вам забываць і аб даўніх мігра-
цыях: як «року 83...лете великий жар был... люди убогия
з хлеба на Русь давалися...» І пра «дзяўчыну з Баркалаба-
ва», якую «павезлі за Дняпро», таксама забываць не след —
то ж твая прабабка, бетоншчыца з Ангары!

Апроч усяго, ад гэтых прабабак — мова. «У час калыха-
нак вы сплялі імя вясне, пчале і зорцы», і мы, часам таго
не ведаючы, «вамі знойдзенае дорым, частуем мёдам не
сваім».

На цаліне Пысін пісаў пра сапраўдных людзей — і пра
«бясшумны прывідны клубок травы, што з кораня зняла-
ся...», пра перакаці-поле.

Дзве чарговыя кніжкі Пысіна — «Да людзей ідучы»
(1972) і «Ёсць на свеце мой алень» (1978) — па сутнасці,
адно нялёгкае імкненне знайсці і ўсталяваць душой, жывым,
цяперашнім яе станам арганічную сувязь паміж часам мі-
нулым і сённяшнім, паміж «далечынёй» і «вытокам», паміж
усім, што нераздроблена цэльным і чыстым адзінствам аб-
дымае ўвесь чалавечы, грамадскі, духоўны паэтаў свет.

Лепшыя вершы Пысіна востра канфліктныя. «Канфлікт-
ныя станы для чалавека куды больш натуральныя, чым
станы ціхамірнага супакою. Драматызм жыцця закладзены
ўжо ў тым, што мы смяротныя»,— неяк сказаў лётчык-кас-
манаўт К. Феакцістаў на абмеркаванні кінафільма «Са-
лярыс».

Пысінскія вершы пра гэта спыняюць ціхай, спакойнай
мужнасцю, якой ніколі не прынялі б слепата і няведанне.
Скажам, верш на раннюю смерць земляка-паэта:

Ападае лісток на руку,
Можа, гэта і ёсць прывітанне
Вельмі блізкай нязведанай тайны,—
«Прывітанне!» — кажу я лістку.

І з большым напружаннем, крута, жорстка — у вершы пра адну «на ўсё сціхлае ляда» сірацінку-рабінку з валуном у нагах: «На апошнім прыпынку у суровай жальбе апушчу я рабінку на грудзі сабе».

Думка аб уласным існаванні ў каротка адпушчаных зямных рубяжах, імкненне зазірнуць за іх край прыводзяць паэта да думкі аб «вечным» жыцці прыроды, аб нашай еднасці з ёю і нашай адказнасці за яе, якая толькі і можа праявіцца ў неганарлівай чуйнасці, дабрыні і адчуванні прыгожага. Некаторыя пысінскія мясціны іменна з гэтага кола яго хваляванняў і разваг чаруюць (не знаходжу іншага слова) сваёй распяванай, музычна стройнай інтымнасцю і свабодай:

Ёсць па свеце мой алень,
Ёсць і гэткае маленне:
Будзь заўсёды у аленя,
Цёмны мох і светлы дзень!..

Дайце жыць майму аленю
Пад галінкай дабраты.

Гэта вяртае да лепшых мінут істоты ў Пысіна, да самых шчаслівых і гарманічна завершаных яе мелодый. Накшталт: «Дарагое, светлае прыпомню, дні пражытыя перабяру — дзень за днём — і з кожнага па промню, з кожнага па промню сабяру». Альбо такія радкі, што неяк адразу і неўпрыкмет леглі на сэрцы многім: «Забыта многае ў жыцці, з дарогі змецена і змыта. Мне ў жыта хочацца ўвайсці, мне вечнасцю здаецца жыта».

Дарэчы, пра жыта. Само гэта слова не часта сустрэнеш у Пысіна, але паняцці жыта, колас, жніво і ўсё вытвор-

ныя ад іх асацыяцыі і матывы — буйныя планы пысінскай лірыкі, яе падаснова, яе чырвоны радок. Самы далёкі, амаль дапатопны, жыццёвы пачатак для Пысіна — там, куды ўжо не дасягае яго сялянскі працоўны ўспамін: «Першае поле не ўздыбіў раллёю, першае дрэва не ссек». Два дзяды, сустрэўшыся, пытаюцца пра самае важнае, што адзіным заходам ахопіць усё: «А ці касіў яшчэ ты летам?» Рэальнае мысленне народнага чалавека, яго штодзённая практыка, за якою паэт умее бачыць багатую адценнямі, пераходамі і танамі дыялектыку няспыннага жывога быцця ва ўсёй раз настайнасці яго страт і здабыткаў, ва ўсіх яго «зменах сонечных і дажджавых», ва ўсёй гатоўнасці з кожным пакаленнем, з кожным новым чалавекам, калі хочаце, зноў пачынаць «пачаткам новым».

Вось узор іменна такой, асвоенай перажываннем, пераплаўленай у эмацыянальны вобраз жыццёвай дыялектыкі, адзінства контрастаў, зліцця і стыку «канцоў» з «пачаткамі»:

Вясна свайго нічога не згубіла,
Дзе адсвяціў лісток — успыхне два.
Вясна ваду на далягляд вяла
І мімаходзь
крыніцу
затапіла.
Зліліся далячыні і вытокі,
Ўсё даўняе сышло у глыбіню.
І светлы куст, і птушак лёт высокі
Я пазнаю, як новую радню.

Далей — навеянае маладосцю, якая на самым узлёце спазнала вайну, кроў, гібель таварышаў: «І не шкада, што на вясновай хвалі я толькі крыгі зімнія сустрэў». І вяртанне ў самы ранні досвітак жыцця, гатовага сённяшняй сівізной і з глыбінь сваёй вясны вітаць наступныя, новыя і там, пры вытоках, але на новым «вітку», з імі пераплесціся і

зліцца: «Бягуць, бягуць майго маленства коні, бягуць да той крыніцы пад вадой».

Вось так адухоўленае і ёмістае слова Пысіна стараецца зразумець быццё, перадаць яго абагульненыя, амаль да сімвалу ўзнятыя рысы. Ледзь не кожная фізічная падрабязнасць робіцца пад пяром паэта душэўнай з'явай, падзеяй значнай істотнасці для сябе і для іншых.

Разам з тым заўважаеш, што ў Пысіна апошніх год яўна вырасла цікавасць да аб'ектыўнай, «прадметнай» тэмы, у прыватнасці да верша-партрэта і псіхалагічнай характарыстыкі.

Новая кніга Пысіна «Ёсць на свеце мой алень» — цэлая галерэя людзей, і, відаць, з рэальнымі прататыпамі... «Палітрук таварыш Доўжык», што з'ехаў у Істру, бо «там франтавое поле» і «па ім ён роту вёў...». Дзядзька Дзям'ян Пятровіч, які «раненька ўстае (не спіцца)... дзень будзіць і яблыні падымаць...». Пятрусь Бядулін — «першы вядомы паэт у сваім Краснапольскім раёне» з вершамі пра буквар і трактар, пра «новы свет — аж да сонца, да зор», маладняковец, можа, і без фармальнага членства ў «Маладняку»,— якая характэрная постаць беларускай вёскі на мяжы 20—30-х гадоў!.. Ці проста безыменныя дзядзькі з Магілёўшчыны, што запомнілі мовазнаўцу Бялькевіча: «Краёвы слоўнік» разам мы збіралі...»

Лепшыя сярод пысінскіх вершаў з канкрэтнымі прысвячэннямі — тыя, дзе найбольш змястоўна і важка выступае яго лірычная тэма. Вядома, індывідуальным лірызмам афарбаваны ўсе партрэты ў Пысіна. Верш пра хлопчыка-пехацінца з «птушынымі» рукавіцамі пераліваецца і звініць «схаванымі» ў сюжэце пяшчотай і болем за скошанае вайной юнацтва. Але вось і творы, дзе стыхія лірызму выходзіць напаверх і вядзе за сабою ўсё астатняе.

Цудоўны, прыкладам, верш пра «стрыечную сардэчную сястру» Праскоўю-Проню, якая некалі «вучыла... ў пачатковай школе» і больш не вучыць, бо ўжо няма каго вучыць». (Горыч: «Няўжо й калыска сыдзе за дзяжой?») Ці

верш пра маці: «Толькі рэчанька даўно не льецца, можа, рэчка з ціхаю вадой у зямлю сышла у тое лета — за табою, маці, за табой».

Лірыка гэтых альбо падобных вершаў — зразумелае ўсім і кожнаму імкненне чалавека — не кансерватара ці рэтраграда, проста чалавека жыццёвай нормы, выхаванага зямлёй і працай,— адолець не памяць, не даць сцячы ў нябыт, стаць непатрэбным і лішнім усяму, што дарага табе з маленства і выпраўляла ў далёкі шлях на працу і барацьбу за нашы чырванасцяжныя ідэалы. Адданасць гэтага чалавека «зямлі — у воблаках і мяце», у «свячэнні крыл, і лугу, і вады», з усім, што «расце, свеціцца, пяе, свішча, красуе, стракоча, шуміць, звініць, плешча, скача, бушуе, смяецца...».

Уласна кажучы, гэта сувязь не абрывалася і на вайне. Нават больш, яна — неад'емная частка ваенных перажыванняў паэта і яго сяброў-аднапалчан. Гінучы пад агнём, салдат у Пысіна рупіцца: «Каб рунню дыхаў дол зялёны, каб град калоссе не пабіў». І сёння, прыпамінаючы «пагорак, на якім Валуеў», паэт хоча адказаць сабе і іншым: «Гамоніць з ім каса ці плуг?»

Якраз на вайне, перад яе жахлівымі сіламі вынішчэння, набылі асаблівы сэнс і вагу словы, выказаныя нядаўна: «Пакуль зямля твая жывая, і ты жывеш». І яшчэ такія: «Ўсё, што думаў я пра маці, для Радзімы паўтару»,— прыклад уласцівай Пысіну здатнасці паяднаць — і не рацыяналістычным шляхам, а ў трапяткім душэўным вопыце і адзіным цэлым — карэннае, крэўнае, выгадаванае ў абставінах «малой радзімы», на мілай зямлі бацькоў з радзімай вялікай, з тым, што праз цяжкія выпрабаванні вядзе ўсіх — народ, чалавецтва,— па шырокіх дарогах гісторыі.

*Рыгор Бярозкін*

## ВУЗЕЛ

Не ведаю, якім вузлом
Навекі я прывязан
Да старых сосен за сялом,
Да яблынь, груш і вязаў;

Да кладак гладкіх,
Валуноў,
Да траў, жытоў на ўзлесках,
Да партызанскіх курганоў
І помнікаў гвардзейскіх...

Адно я знаю: гэткі меч
На свеце не скуецца,
Каб мог ён вузел мой рассеч,
Не закрануўшы сэрца.

1958 г.

## ШЛЯХ ГАСТЭЛЫ

Я б шырачэзны
Млечны Шлях,
Які ўвесь зорамі усцелен
І ззяе ярка у вачах,
Назваў бы проста —
Шлях Гастэлы;
Каб колькі людзі ні жылі,
Увысь зірнуўшы,
Памяталі,
Як мы Радзіму бераглі,
Як мы шляхі ім
Пракладалі.

1948 г.

## КРЭМЕНЬ

Як прысак, ля Сожа пяскі
Жаўцеюць на полі:
Калісьці паўзлі леднікі
І іх намалолі.

Паўзлі, быццам горы, яны,
Сусветныя жорны,
І трушчылі тут камяні,
Як простыя зёрны.

А крэмень пад імі ўстаяў,
Ніяк не скарыўся,
Сыпучаю дзюнай не стаў,
Пяском не зрабіўся.

Яго на ўзбярэжжы усім
Прыкмецілі людзі:
— Ён моцны,— сказалі аб ім,—
Сам жорнамі будзе!

1949 г.

# ПОМНІК У ЛЯСНОЙ

Вакол няма ні гор, ні скал —
Ў сасновы бор пайшлі барозны.
Ўзляцеў на шэры п'едэстал
Арол, адліты з чыстай бронзы.

Валун звычайны, палявы
Стаў птаху гордаму гарою,
Бо аж да самай сінявы
Узнят ён славай нашай зброі.

Тут, каля шведскіх курганоў,
Знайшлі сабе пагост бясслаўны
І тыя, што з мячом ізноў
Да нас прыходзілі нядаўна.

Завораны сляды баёў —
Акопы, жоўтыя траншэі.
Разгорнуты абрус палёў
Наўсцяж усходамі рунее.

Глядзіць з гары сваёй арол.
Ўсё ахапіў ягоны позірк:
Бары, нябёсы навакол,
І нам здаецца —
Пры трывозе

Устрапянецца вартавы,
І кліч, як рэха, панясецца;
На клёкат грозны, баявы
Зляцяцца ўраз арлы-гвардзейцы.

1948 г.

# МЕДАЛЬ

У хаце пасвятлела. Ззяе хата.
Праменні сее залаты медаль,
Што ў бацькі на грудзях.
Сын просіць: — Тата,
Хоць на хвілінку патрымаць мне дай.

Ласкава бацька сыну ў вочы глянуў:
У іх, праўдзівых,
Мары ўсе пазнаў,
Душы дзіцячай ўбачыў хваляванне
І ганаровы знак з кашулі зняў.

Хлапчук у гэты міг падрос ад шчасця,
Медаль ля сэрца патрымаў —
І аддае.
Ў маленстве ён прымерыў славу бацькі.
Каб дарасці у справах да яе.

1950 г.

# НАВЫРОСТ

Усё навырост для дзіцяці:
Тая кашуля, што маці
Шые па форме марской,
Белай абносіць каймой;
Лыжка сапраўдная, міска;
Ложак, што зменіць калыску;
Сцежка, што выведзе з дому
На шлях — покуль што незнаёмы,—
Далі, якія ён пройдзе,
Доля, якую ён знойдзе
Ў нашай вялікай Радзіме.
Нават уласнае імя,
Каторым яго назвалі,
Ў загсе навырост запісалі:
Там ён пад імем дарослым
З першага дня ў жыцці.

Светлым надзелены лёсам,
Нашчадак,
Вялікі расці!

1950 г.

* * *

Па-над высокаю страхою
Пад столь блакітную нябёс
Хтось клапатліваю рукою
Птушны дом на мачце ўзнёс.

На поўдні у часіну гэту
Ужо ён бачны, як маяк.
Пакінуўшы чужое лета,
Тут заспявае хутка шпак.

Ў садах, над стрэхамі
Шпакоўні
Мы ставім, як зіма міне.
Ляціце, выраі! Бяздомных
Няма у нашай старане.

1950 г.

## НАШ ДЗЕНЬ

Абмыўшыся ў моры салёным
Паблізу курыльскіх выспаў,
Абцёршыся ветрам сцюдзёным
І сонца ўзняўшы у высі,
Дзень новы ідзе.

Усе гарады і пасёлкі,
Палі ураджайныя, горы,
Аулы, даліны і вёскі
Яго сустракаюць бадзёра:
— Дзень добры, наш дзень!

І ён апускаецца ў шахты,
Абходзіць станкі і мартэны,
Пасты замяняе і вахты,
Мяняе працоўныя змены,—
Руплівы наш дзень.

Глядзіш, дзе пустыр быў учора,
Капае ужо катлаваны
І новы закладвае горад,
Пракладвае ў стэпе каналы
Працоўны наш дзень.

І столькі надзей ён нам споўніць,
І столькі спраў добрых пакіне,
Што, ўсё падлічыўшы у поўнач,
Заўсёды праводзіць краіна
Пад слаўную музыку Гімна
Звычайны наш дзень.

1950 г.

## ЛЕТАПІС

На дзялянцы ў лясным гушчары
Пераклічку вядуць тапары.

Да зямлі снег прыбіт ля камлёў —
Жоўты дождж пілавіння прайшоў.

Пад пілой дрэва ўпарта маўчыць,
Ды для хлопцаў няма таямніц:

Летапіс падрабязна яны
Прачыталі, як кнігу, на пні;

Век мінулы і новы, другі,
Год за годам адбілі кругі...

Летапіс, што пачат у бары,
На будоўлі закончаць майстры.

1949 г.

# ПЛЫТЫ

Бярвенні голыя
Упокат
На жоўтым беразе ляглі.
Смалою цёплаю, як потам,
Пакрыліся камлі.

На прысаку вясновым пляжа,
Пад перастук сякер густы,
Лазою плытагоны вяжуць
Грабёнкі белыя — плыты.

На хвалі з берага павольна
Спусціўся першы караван.
Пад ім блакітнае прадонне —
Прастор нябёс адлюстраван.

Уніз ракі
Плытоў чароды
Пайшлі, пайшлі у добры пуць.
А ўверх вадой без перашкоды
Аблокі шэрыя плывуць —

Дымкі,
Што недзе ўзнялі домны
І вартавыя караблі,
І з вогнішчаў, што плытагоны
Па-над вадою развялі.

1948 г.

## НАВАСЕЛЛЕ

Наваселле у суседкі —
І людзей прыйшло нямала.
З імі ў госці, ці то ў сведкі,
Сонца ў хату завітала.

Перад сонцам пахваліцца
Ў новай хаце ўсё гатова.
Ажно свецяцца масніцы,
Стружкай свежаю, сасновай.

Вось і чарку ўсе паднялі,
Гаспадыні далі слова.
Сонца свеціць на медалі,
Захапляецца прамовай.

Гаспадыня жмурыць вочы
І з усмешкай да свяціла:
— Да зямлянкі неахвоча,
А тут, бач, як засвяціла!

1946 г.

# МОСТ

Узняўшы пырскі, ўброд, наўпрост
Пайшлі ракою палі.
На плечы ім шырокі мост
Будаўнікі паклалі.

Па грудзі у вадзе з бакоў
Застылі ў караvуле
Шарэнгі роўныя быкоў,
Каб крыгі не кранулі.

Кругі ўляглліся на вадзе
З аблокамі і небам.
І ўжо з сяла абоз ідзе
На элеватар
З хлебам.

1947 г.

# СНЯЖЫНКІ

На край суровай мёрзлае зямлі,
Пашырыўшы паўдня граніцы,
Шарэнгі дрэў мічурынскіх пайшлі,
Каб з полюсам далёкім парадніцца.

На снежнай тундры выставіў мароз
Заслоны ледзяныя.
Усё дарэмна:
У грунт, дзе толькі мох паўзучы рос,
Ўвап'юцца хутка яблыняў карэнні.

І расцвітуць ля стойбішчаў сады,
На след аленяў паляцяць пялёсткі.
Вятры ж падхопяць іх, сыпнуць сюды
З вітаннем поўначы на дол дняпроўскі.

Сняжынкі падаюць. Гляджу на дол,
На белізну, што асляпляе вочы.
...Пялёсткі ўсё заслалі навакол,
Пялёсткі белыя садоў паўночных.

1948 г.

# ЖАЛУДЫ

У тую восень шмат было грыбоў
І арахоў у пералесках.
А мы ішлі да векавых дубоў
Па лугавых зялёных сцежках.

Ішлі да плыні светлае туды,
Дзе ураджай на дубе выспеў;
І грукалі над Сожам жалуды
Ў тугія бубны гулкіх выспаў.

Магутны дуб дароў не шкадаваў:
— Бярыце, колькі ў кайстры ўлезе,
Я з бронзы жалуды адшліфаваў
І шапкі ім зрабіў з жалеза.

Ды нам было няцяжка несці іх:
Мы ведалі, што кожны жолуд
У стэпе недзе стане на улік
Ужо як вартавы дуб-волат.

1950 г.

## СЕРП

Спелага жыта гушчар непачаты
Песняю жніўнай віталі дзяўчаты.
Песню пачуў і зайшоўся тугою
Серп, што застаўся ў сяле пад страхою:
— Дзе ты, мая працаўніца-дзяўчынка,
Што ж не ўзяла ты мяне на зажынкі;
Можа, ты хворая, з ложка не ўстанеш,
Жыта у жменю ўзяць сілы не маеш?
Можа, ты стала спякоты баяцца,
Ніву забыла, цураешся працы?
Не! Серп па іншай сур'ёзнай прычыне
Стаў непатрэбным вясёлай дзяўчыне.
Тая рука, што серп моцна трымала,
Не апускаецца ў полі з штурвала.
Поле знаёмае, поле калгаснае
Перад камбайнам калоссямі шастае.

1951 г.

## СОЖ

Ляжыць дарога напрасткі
У Слаўгарад з Крамянкі.
Зіму ўсю палатно ракі,
Як чаўнакі,
Ткуць санкі.

На полі ледзяным
Паром
Урос у бераг правы,
Чакае, покуль першы гром
Папросіць пераправы.

Зіме ж не здаўся Сож стары,
Змагаецца без стомы.
Ламаюць шэры лёд віры
І чуюць рокат стромы:

Людзям служу я шмат вякоў,
Нашу чаўны і баржы;
Няхай хто-небудзь з землякоў
Благое слова скажа.

А зараз працы мне — па дно,
Шкада адной хвіліны —
Ўжо гнуцца берагі даўно
Ад штабялёў драўніны.

І крыўдна мне ў час залаты
Драмаць пад тоўстым лёдам:
Мне трэба гнаць уніз плыты
Без спыну,
Поўным ходам.

І Сож ваколіцы здзівіў:
На снежную раўніну
Шырокі, ўспенены разліў
З віроў глыбокіх хлынуў.

На выспах сівыя стагі
Падняліся на цыпкі;
І лазнякі і сітнягі
У светлых водах зніклі.

І знімецца вось-вось паром
З прыколу ледзянога.
Вясна ўжо блізка.
За Дняпром
Звіняць яе нарогі.

1948 г.

# ХЛОПЧЫК ДРЭЎЦА ПАСАДЗІЎ

Дрэўца пасадзіў ля школы Віця,
Дрэўца першае ў жыцці;
Чарназём з далоняў сваіх выцер:
— Ну, вялікае расці!
Даганяй вясной сяброў зялёных,—
Бачыш, тут які прастор?
І кіўнуў яму галінкай клёнік:
— Я прымаю дагавор.
З навіной панёсся лёгкі вецер
Да дубоў зарэчных,
Ніў.
Крышку стала прыгажэй на свеце:
Хлопчык дрэўца пасадзіў.

1950 г.

## ЗА РУЛЁМ

Пад праменнямі фараў наўкруг
Засцілае палетак ралля.
Аж да ранку натруджаных рук
Трактарыст не знімае з руля.

І ці ноччу арэ ён, ці днём,
Адчувае: вось гэтым рулём,
Які ў рукі яму аддалі,
Ён кіруе і лёсам зямлі.

1960 г.

# НАСЦЕННАЯ ГАЗЕТА

Так ярка, шчыра зіхацяць
Малюнкі,
                загалоўкі,
Нібы на аркушы ляглі
Вясновыя вясёлкі.

Запахлі свежыя радкі
Не фарбамі друкарскімі,
А рунню,
                цёплаю раллёй
І лугавымі краскамі;

Той газаю, што трактары
У полі запраўлялі;
Дымком кастра, што за ракой
Ззяў на начным прывале.

Чаму ж паўночнаю парой
Не ўсе ў брыгадзе спалі?
Каму лісты каля кастра
Калгаснікі пісалі?

Ў газеце сённяшняй лісты —
І думы, і дыханне
Людзей, што на прасторах ніў
Вядуць за хлеб змаганне.

І бачаць сейбіт, трактарыст —
Хто ўперадзе на працы
І на каго, як у страі,
Павінны ўсе раўняцца,

Каб на палетках напісаць
Шмат спраў выдатных, новых
Бліскучым вастрыём плугоў
І сеялак радковых.

1956 г.

## РЭХА

Мы свет нанова адкрывалі,
Калі маленькія былі.
У буйным жыцэ пражмы рвалі
І бульбу ў прысаку пяклі;
Даследвалі наліў арэхаў,
Шаптанне лоз і смак суніц,
А цуда з цудаў — гэта рэха
Ў вячэрнім лузе ля крыніц;
Каго, каго тады гукалі?
Напэўна, шлях мы свой шукалі!

Хтось невядомы, таямнічы
Выслухваў і праз нейкі час
Вяртаў здалёку нашы клічы
З паўторным водгуллем да нас.
Як быццам гукі хто запісваў
На месяцы, на курганах,
На лысінах пясчаных выспаў
І ў цёмным лесе на дубах,—
Затым шырока рэха грала,
Дакладна запіс паўтарала.

Гады, як вокліч, праляцелі.
Адкрыўся свет з усіх бакоў.
Мы самі у агні гарэлі,
Замест суніц ірдзела кроў.
Звінелі кулі — не арэхі,
Свістала не лаза — клінкі.
Падзеі адбівала рэха,
Грымелі скалы, леднікі.
Мы маладосцю баранілі
Усё, ў што верылі, любілі.

Я ведаю: не пройдзе міма
І старасць са сваім кійком,
Душы захочацца ўспамінаў,
Падыхаць ранішнім дымком.
Тады наведаць давядзецца
Вячэрні луг каля крыніц.
Мне там маленства адгукнецца,
Пачую даўні пах суніц,
Шаптанне лоз, апад арэхаў
І ўсё, што мне напомніць рэха.

1956 г.

# РУЧНІКІ

Вышывала маці... У руках,
Як вясёлкі, ніткі мільгацелі.
Клаліся на белых ручніках
Роднай нівы фарбы і адценні.

Расцвіталі ружы і ляны
Ў непаўторных веснавых узорах.
Упляталіся напевы, сны,
Промні сонца і далёкіх зорак.

Дочкі і сыны ў жыццёвы шлях
Гэты дар — благаславенне бралі;
Ў партызанскіх баравых лясах
Ручнікі на ранах абгаралі;

Тлелі пад снягамі і дажджом
На магільным помніку
Герою.
Сёння ў хатах многіх над Сажом
Ўзоры тыя ж зіхацяць зарою.

На далёкім полі цаліны
Выцірае хлопец твар спацелы,
За паўсвета ў свет,
За край лясны
Ручнікі, як птахі, заляцелі.

Крылы ільняныя... Ручнікі...
Ружы незавялыя і краскі...
Прыкладзешся вільгаццю шчакі,
Быццам матчыну адчуеш ласку.

1956 г.

# ВЯСНЯНКІ

Дагарэлі раннія заранкі,
Адцвілі чаромхі ў паплавах.
Ўпершыню блакітныя вяснянкі
Ўбачыў я ў тваіх вачах.

Ой, лугі і травы па-над Сожам,
Буйны хмель
І явар залаты!
Можа, быў і я тады прыгожым,
Як кашулю вышывала ты.

Палінялі, выцвілі узоры
Над раллёю,
Над калоссем ніў.
Не лічыў я, колькі гімнасцёрак
За гады ваенныя знасіў.

Гул баёў жыве ў маіх суставах,
Шмат хвароб знаходзяць дактары.
А ў цябе маршчынак болей стала,
Парадзелі косы без пары.

І ў жыцці бывае май і студзень,
Як гавораць мудрыя дзяды.
Хай пачуццяў нашых не астудзяць
Ні выпрабаванні, ні гады.

Вышый мне кашулю... Ў сіні ранак
Я пайду расою мыць касу,
Буду луг касіць,
Табе вяснянак
З сонцам і расою прынясу.

1957 г.

* * *

Сок бяроз і начлежны дымок...
Ногі ў цыпках і чыстыя душы.
Мы любілі суседскіх дачок
І суседскія яблыкі, грушы.

За платамі ў садах буданы
І дзядоўскія хітрыя пасткі.
А суседскія дочкі... Яны
Уцякалі ад босых падпаскаў.

Спелі яблыкі нашы ў ляску,
На галінах калючай лясоўкі,
Пакаштуеш — убачыш Маскву,
Згодна з жартам вядомай прымоўкі.

Пасталелі. Садзілі сады,
І дзяўчаты ад нас не ўцякалі.
І пабачылі мы гарады,
Як вучыліся
І ваявалі.

Маем самі сягоння дачок,
І сваты у нас будуць з гадамі.
Хай жа поіць бярозавы сок
Тых, хто нашымі ходзіць садамі.

1957 г.

# КАБАРДЗІНКА

І ўва сне не бачылі ні разу
Хлопцы сініх скал і гор Каўказа,
А прыйшлі на вечарынку —
Пакахалі кабардзінку.

Як ступала кругам, як скакала,—
Пляскалі ў далоні стары-малы.
Кабардзінка,
кабардзінка,
Стройная, нібы ялінка.

Паланіла ўсіх, зачаравала,
Паўсяла па ёй ужо ўздыхала.
Кабардзінка,
кабардзінка,—
Невядомая сцяжынка.

— Адкажы, смуглянка, калі ласка,
Ці надоўга к нам з зямлі каўказскай?
— Людцы, нейкая памылка:
Я зусім не кабардзінка.

Нарадзілася, расла дняпранкай,
Гэта ў танцы стала я гаранкай...—
Кабардзінка,
кабардзінка,
Цераз рэчаньку — сцяжынка.

Не адна дамоў дзяўчына пойдзе —
Хтосьці ёй брады і кладкі знойдзе...
Кабардзінка, кабардзінка,
Сыпле белы цвет галінка.

І, магчыма, дзесьці за Эльбрусам
Ходзіць сёння танец беларускі.
І ў «Лявонісе» гаранкі,
Як сапраўдныя дняпранкі.

1957 г.

# НАЧОЎКІ

Начоўкі вузкія, вады ў іх мала,
Ўсяго па локаць матчын глыбіні;
Ды морам
Самым першым адміралам
І першым берагам былі яны.

1956 г.

## ДЗЯВОЧЫЯ ХУСТКІ

Сонцу — высь і чыстыя нябёсы,
Кветцы — май і светлая раса.
А дзяўчыне хустачка на косы —
Лепшая аздоба і краса.

Твар дзявочы, без адной маршчынкі
І без ценю смутку і тугі...
Цень ад паркалёвае хусцінкі
Ляжа ў час паўдзённае смугі.

Хусткі над снапамі ў ніве спелай,
Хусткі над штурвалам, над рулём...
Сама лепей у хусцінцы белай,
Калі сонца надта паліць днём.

А пад росамі дзяўчына скіне
Тую белую хусцінку з плеч,
Каб не выдала ў вячэрняй сіні
Ні слядоў яе, ні месца стрэч.

1958 г.

## НАБОРШЧЫЦЫ

Працуюць ноч усю дзяўчаты,
Забыўшы пра яду і сон,
Каб не спазнілася ў раён
Газета — вырай іх крылаты.

Кагосьці трэба падбадзёрыць,
Кагосьці — сцебануць радком;
Газета з кожным земляком
На мове роднай пагаворыць.

Сяброўкі даўнія ў калгасах
Ідуць палоць
І жыта жаць;
Прад імі ж у наборных касах
Шрыфты гранёныя ляжаць.

Да знака знак — і ззяюць словы
Ў тугіх абоймачках — радках.
У фарбе рукі, пыл свінцовы
На косах русых
І шчаках.

Рэдактар часам к ім загляне,
З усмешкай слухае дакор:
— Чаму ні слова пра каханне
Нам не даеце у набор?!

1957 г.

# РАБІНЫ

Даўно язмін з чаромхай адцвілі,
Адгаманілі белым цветам;
Ні кветкі, ні пялёстка на галлі,—
Ўсё адляцела ўслед за летам.

А ў сад зайдзі узмежжам да рабін —
Гараць, ірдзеюць на марозе,
Нібы кагосьці з дальніх пуцявін
Чакаюць на сваім парозе.

1957 г.

# КРЫНІЦА

Плюскоча, калышацца, льецца,
Не замярзае ў снягах,
Як быццам магутнае сэрца
Б'е ў зрубе —
Кляновых грудзях.

1957 г.



Чаўны зімуюць над ракой
І, хоць на вышках дзесьці вёслы,
Сняць не зацішша і спакой,
А гул паводкі веснавой,
Агні рыбацкія над плёсам.

1957 г.

* * *

Снег пушысты, снег бялюткі,
Чыста вымыты сняжок!
Дзе над рэчкай дол раўнюткі,—
Абнавілі вербы хусткі
І сышліся у гурток.

Дзесьці пінькнула сініца
Ў белым марыве садоў.
Б'е пад вербамі крыніца,
Зруб падковай серабрыцца,—
Ні сцяжынкі, ні слядоў.

А дзяўчына не чакала,
Каб пакінуў хто сляды:
Сцежку тут сама пракдала,
Вёдры поўныя набрала
Звонкай ранішняй вады.

Хоць каромысел і гнецца,
Выгінаецца дугой,
Ды не плёскае вядзерца,
Цераз край на дол не льецца
Ані кропелькі адной.

І паверыш пры сустрэчы
У яе жаночы лёс:
Свайго шчасця не расплешча,
У бядзе не схіліць плечы
І дарма не ўроніць слёз.

1957 г.

## НАПРАДВЕСНІ

Дарогу асядлаў сумёт,
Машына а ні з месца.
Рыдлёўку ўзяў шафёр,
І пот
З яго гарачы льецца.

Смяецца сонца: «Скінь кажух,
Іду я на падмогу;
Хутчэй мы згонім снег удвух
І вызвалім дарогу».

1956 г.

* * *

На лузе кветкі
Веснавыя,
Нібы замочкі
Залатыя;

Над імі звон
І гул вясёлы —
Замочкі адмыкаюць
Пчолы.

1956 г.

## УСМЕШКА

Лугі, пералескі,
Дубы і сасняк
З бакоў ахінаюць
Пясчаны бальшак.

Уецца дарога
У дальні раён,
Нібы разматаў хто
Бясконцы рулон.

Накатваюць шыны
Манішкавы ўзор.
Машыну спыняе
Раптоўна шафёр.

Мо аўтаінспектар
Ускінуў сцяжок
Або ненадзейны
Сустрэўся масток?

Няма перашкоды,
Шлях вольны зусім.
І толькі чароўная
Ўсмешка прад ім.

Лясная чаромха
Дыміцца ў руках,
І цёмныя косы
Ляжаць на плячах.

Аб'ехаць, праехаць
Не можна ніяк,—

Яе запрашае
Ў кабіну юнак.

Дзявочая ўсмешка,
Чаромхавы цвет...
Шляхі і дарогі
Ў нязведаны свет...

1956 г.



Нізка над вадой схіліўся явар,
На вадзе лілея расцвіла.
Я не помню: сон то быў ці ява
І якая сцежка нас вяла.

На якім чаўне пераплывалі
Мы на бераг той, дзе белы цвет,
Хто смяяўся — маладзік ці хвалі,
Колькі зор глядзела нам услед...

Пойдзем, пройдзем светла-сінім маем;
Можа, знойдзем даўнія сляды,
Можа, сцежку нашу адшукаем —
І дакладна высветлім тады,

На якім чаўне пераплывалі
Маладымі ў сённяшні наш свет,
Хто смяяўся — маладзік ці хвалі,
Колькі зор глядзела нам услед.

1958 г.

## НАД ВОЗЕРАМ

На жоўтым дне ляжаць нябёсы,
Каменьчыкі і валуны.
Дзяўчына папраўляе косы,
Што ў люстры возера відны.

Ёй хочацца спяваць, смяяцца —
Адна перад люстэркам вод...
...А за плячмі ўсяго семнаццаць
Нічым не замутнёных год.

1957 г.

* * *

Шумяць бары, і шэпчуць травы,
І гнуцца ў полі каласы,
Галубіць вецярок ласкавы
Зямлю у росквіце красы.

Зямля такая маладая,
Ў ёй столькі свежасці, святла.
З падстрэшша ластаўка ўзлятае —
І бачыш цень яе крыла.

1957 г.

## СЛАНЕЧНІК

З двара на ганак вынеслі дзяўчаты
Сланечнік круглы, быццам круглы стол.
Вылушчваюць даспелыя зярняты
І шалупінне кідаюць на дол.

Дыхне зіма, завыюць завірухі,
Але ідуць на вуліцу й тады
Дзяўчаты без пальчатак — грэюць рукі
Сланечнікам са жнівеньскай грады.

1957 г.

# ДРАЧ У ВЫРАЙ ПАЙШОЎ

Яшчэ святла і сонца многа,
Мільгаюць ластаўкі там-тут,
А ён, цыбаты, даўганогі,
Пакінуў луг і свежы куст;
Ён чараціну ўзяў на ўзлужжы,
Зрабіў яе сваім кійком,
І проста ў Афрыку — пяшком,
Каб не засталі часам сцюжы.

Вясной адтуль дарога ж тая
Ў начной вільготнай цішыні.
Хоць крылы мае,—
Не лятае,—
Баіцца, мусіць, вышыні.

1957 г.

# ДОЧКІ

Дочкі, дочкі ў сяброў і ў мяне;
Як бярозкі ў гаёчку, дзяўчаты.
Хтось гвардзейскія вусы кране:
Моў, а хто ж вам, браткі, вінаваты?..

У мяне, моў, сыны.
Хай растуць,
Хай дужэюць, як дуб каля дуба;
Нечых весніц яны не мінуць,
Дочкі нечыя будуць ім любы.

Нам жа, нам быць таксама радней,
Быць сватамі, піць поўную чарку,
Пачастунак дзяліць і цыгарку,
Толькі б мір і не пахла вайной.

Толькі б хлопцам не класці галоў,
Толькі бурай не здзьмула б калыскі...
Я сабой засланіць іх гатоў,
Як мяне засланялі калісьці.

Шмат бацькоў на нядаўняй вайне
Ў жвір лягло ў шынялях і ў анучках.
Дочкі, дочкі ў сяброў і ў мяне —
Гэта ж іхнія родныя ўнучкі.

1957 г.

# БУДЗІЛЬНІК

Ты сама гадзіннік завяла,
Не праспаць каб лішняга і трошкі.
Пад акном бярозка, як мятла,
Хоць бяры ды размятай дарожкі.

Не гарадь, не свецяцца агні,
Нібы ўсё заснула, дагарэла.
Цікае гадзіннік ў цішыні,
Сіні змрок стрыгуць нажніцы стрэлак.

Напярэймы сну твайму і снам —
Звонкі плач будзільніка жывога.
Толькі хай міне цябе трывога,
Ля калыскі я пабуду сам.

Хутка і будзільнік зазвініць,
Гул і звон рассыпаўшы ў пакоі.
Ды цябе яму не разбудзіць,
Бо прыдумаў штосьці я такое.

Ты даруй, што крышку перавёў
У напрамку іншым стрэлку тую.
Хай звініць, калі ўнясу я дроў,
Калі чай духмяны прыгатую.

1956 г.

## ТВАЕ ПРЫКМЕТЫ

Любому з нас прыкметы дадзены,
Ў нас згоды не пытаючы.
Калісь лясы валілі прадзеды
Агнём, сякер не маючы.

Да рэк, азёраў прабіваліся,
На берагах сяліліся.
Агонь з вадой тады спляталіся
І на людзях адбіліся.

І вось каса твая дзявочая —
Як белы дым, як полымя;
А вочы — пагляджу у вочы я —
Азёрнай сіні поўныя.

1958 г.

# МАГІЛЁЎСКІЯ ДЗЯЎЧАТЫ

Жыццё дарэмна іх не песціць,
Яны не ў кветніку цвітуць:
Дамы будуюць, гліну месяць,
Вучыцца вечарам ідуць.

Ў красе — без лішняе прыкрасы,
Ў бядзе — без лішняе нуды.
Калі разлюбяць — то адразу,
Калі палюбяць — наўсягды.

Машэку часам я шкадую,
Што ён не здолеў у жыцці
На ўсім Дняпры адну такую
Сяброўку верную знайсці.

1958 г.

## ПЕРШАМАЙСКАЯ ВУЛІЦА

Гэта кожнаму даецца —
Родны кут, свая сям'я:
Першамайскаю завецца
Вуліца мая.

Вучыцца, жыве, працуе
На праспекце маладосць.
Ад знаёмых клёнаў чую,
Што і я не госць.

Пад гарою хваля плешча,
Над гарой шумяць сады.
І смялей бярэш на плечы
З ношаю гады.

1958 г.

# ДА СОНЦА

Зямля, Зямля, любімая планета,
Такога ты не ведала яшчэ:
Тваё дзіця — касмічная ракета
Прасторы міжпланетныя сячэ.

Не крыўдзі, Сонца, нашу расіянку,
Ў тваю сям'ю прыйшла яна дачкой,
Падобная на зорачку-заранку,
Што ўсходзіць над стагамі за ракой.

Імчыся, любая, сваёй дарогай,
Нясі наш Серп і Молат між планет.
А мы ўжо бачым новыя парогі,
Адкрыўшы дзверы зорныя ў Сусвет.

Нам люба ўсё зямное, люба праца,
У росах травы, жытнія палі,
І не таму на Марс пара збірацца,
Што не хапае месца на Зямлі.

Зямля, Зямля, любімая планета,
Такога ты не ведала яшчэ:
Тваё дзіця — імклівая ракета
Прасторы міжпланетныя сячэ.

1959 г.

## ВЫНОСЛІВАСЦЬ

Дуб нават вобмацкам адрозніш,
Адчуеш дотыкам рукі
Рубцы, глыбокія барозны,
Кары шурпатай вузлякі.

Дажджы асеннія мачылі,
Паліў сухмень,
Сціскаў мароз,
І прадубілася да шчылін
Кара дубовая наскрозь.

Калі гляджу на рукі бацькі
У рубцах, вузлах,—
Здаецца мне,
Што можна з дубам параўнаць іх
Моц і вынослівасць.
Ды не!

Яны ж не толькі спёку знали,
Дубелі ў холадзе зімой,
А дол варочалі,
Аралі,
Драбілі вугаль пад зямлёй;
Кавалі сталь,
Граніт крышылі,
Трымалі зброю на вайне
І, хоць гулі,
Ад стомы нылі,
Малога няньчылі мяне.

1956 г.

# КРЭМЛЬ

Стагоддзі Крэмль стаіць,
І захавае вечнасць
Крутыя вежы,
Сцен зубчасты ўзор.
І ўсё ж, калі б не гэты сцяг,
Які трапеча,
І не святло,
Не промні гэтых зор,—
Не давялося б хлопцу
З дальняй ціхай вёскі,
Дзе нават паравоз
Не кожны бачыў дзед,
Ступаць сягоння
Плошчаю крамлёўскай
І бачыць прад сабою
Цэлы свет.

1956 г.

## ГВАРДЗЕЙСКАЙ ДАРОГАЙ

Дарога згубілася ў топкім бяздонні,
Ў асеннім карыце гразі.
Гарматы заргазлі,
І топяцца коні,
Хоць сам у хамут — і вязі.

Загад батальёнам: «Сюды на плячах
Прынесці з дзялянак дарогу!»
І неслі мы сосен ствалы
Па карчах,
Як зброю для перамогі.

Запахлі кілометры свежай смалой,
Бруснічнікам, мохам і потам.
Па гулкай ляжнёўцы пакрочылі ў бой
Гвардзейскія дружныя роты.

І з ротай гвардзейскай я ў сталасць ішоў,
Крутыя пазнаў далячыні.
Таму не шукаю спакойных шляхоў —
Масціць іх мяне навучылі.

1957 г.

# ПРОНЯ

Трымалі чужынцы яе у палоне:
— Ты наша навекі, прызнайся нам, Проня!

— Я вольная рэчка на вольнай зямлі,
І чыстымі хвалі заўсёды былі...

Прыгналі чужынцы і танкі, і коней,
Ваду ўсё муцілі ды кпілі над Проняй:

— Цяпер ты павінна згадзіцца сама,
Што чыстае плыні няма ўжо, няма!

— Няпраўда, ёсць многа крыніц пада мною
З празрыстай, чысцюткай, як слёзы, вадою.

Кідалі чужынцы на плёсы і тоні
І бомбы, і толу грымучага тоны;

Фантаны ўзляталі з пяском і жалезам
Над полем счарнелым, над лугам і лесам.

...Ішлі мы паходам на захад тады,
І Проня дала нам напіцца вады.

Была яна светлай да самага дна,
І сонца, і неба адбіла яна.

1958 г.

# СЯБРУ

Прайшоўшы ўсе баі, франты,
І ўнукаў можна б дачакацца.
Знайшоў прывал апошні ты
Між сосен вечных і акацый.

Насіў ты шмат асколкаў, ран,
Як многія дагэтуль носім.
Трава прабіла твой курган,
Расце мяцёлкамі — калоссем.

Не зняў я шапкі з галавы,
Даруй і не лічы віною;
Заплюшчу вочы — ты жывы
З'яўляешся перада мною.

Здаецца, чую голас твой,
Здаецца, бачу твае ўсмешкі.
Зялёныя іголкі хвой
Праз сэрца падаюць на ўзмежкі.

Прайсці мы шмат з табой змаглі,
Ішлі праз полымя і дым мы,
Каб болей людзі на зямлі
Не паміралі маладымі.

1958 г.

## ЦЕПЛАХОД «ІСАЧАНКА»

Сказалі хлопцы так перад скананнем:
«Не расстаёмся, не!
І хоць дубамі, а з магіл устанем
У роднай старане;

Абнімем дол карэннем і ускінем
Аж да нябёс чубы...»
Гудуць з вятрамі па-над Сожам сінім
І тут і там дубы.

Імя знаёмае на цеплаходзе,
Што ў рэйс ідзе з зарой:
«Ісачанка» па хвалях абыходзіць
Дубоў надрэчных строй.

Сціхае ў маладых дубровах гоман
На некаторы час.
І чуе Слаўгарад, і чуе Гомель
Вітальны зычны бас.

Спяваюць у каютах маткі дзецям
Пра славу дзён былых.
І цеплаход калыскаю здаецца,
Якую гойдае само бяссмерце
На хвалях веснавых.

1954 г.

## ДУБ

Здрыгануўся дуб стары ў даліне,
Дзе акопы зараслі травой:
Гэта незнарок ў асколак міны
Грукнуў дзяцел дзюбаю сваёй.

1957 г.

## ГАРНІСТ

Хлапец падносіць медзь да губ
І будзіць лагер піянерскі.
Каля палатак пералескі
Раўняюцца на стройны дуб.

Бярозы, сосны і дубы
Адбілі рэха медзяное.
Плыве над лугам, над вадою
Кліч галасістае трубы.

Ідуць касцы — дзядзькі, дзяды
На луг, на поплаў прыазёрны
І ўспамінаюць свае горны,
Свае далёкія гады.

Памаладзее барадач,
Kaccё ў руцэ мацней сціскае,
Бо здасца: конніцу склікае
Ліхі будзёнаўскі трубач.

1958 г.

* * *

Перад фатографам жанчына
Хавае рукі пад фартук,
Нібы ёсць нейкая прычына
Сароміцца уласных рук.

Фатограф і суседкі раяць
— Без фартука лепш зняць бы Вас...
Але не ведае старая,
Што ў рукі ўзяць на гэты час.

Палола лён... Снапы вязала...
Дзяцей люляла па начах...
Часіны ж гэткае не знала,
Каб не трымаць чаго ў руках.

1958 г.

## У РАЗВЕДЦЫ

У зямлянцы сушылі анучы,
І, сваёй дачакаўшы пары,
Шлі ў разведку за дрот калючы
Ўсе у белым,
Нібы дактары.

Вецер снегам паўночным загортваў
След нячутны
Туды і назад.
Камандзір наш вяртаўся мёртвым,
Не патрэбен ні ўрач,
Ні санбат.

Кроў на белым халаце гарэла,
Гаслі сініх вачэй васількі...
Апускалі халоднае цела,
У акопах маўчалі палкі.

Быццам слухалі строгі допыт
Языка, што ў палон мы ўзялі,
На варожыя норы і доты
Ўсе ствалы раніцой навялі.

Ў мёрзлы грунт ля пярэдняга краю
Лёг разведчык пад грукат гармат.
...Сівізна ужо ў многіх такая,
Як той белы салдацкі халат.

1957 г.

## СТАНЦЫЯ МЕТРО «БЕЛАРУСКАЯ»

На жалеза рэек пад дамамі
У метро нанізаны тунель.
Паравозы гарам і дымамі
Не капцяць панель.

Ездзіў я па свеце, крочыў пешшу —
Станцый прыгажэй нідзе няма;
Беларуская — адной з найлепшых
Дадзена імя.

З мармуровых пліт вакзал падземны,
На каменнях выткан слуцкі ўзор.
Ў светлых паяздах — рабочых змены,
Госці з ніў і гор.

Не ідуць, не едуць толькі трое:
Дзед з унукам і дачкой сваёй,
У руках — замест білетаў зброя,
Што насілі ў бой.

Пасля бою ў пушчы Налібоцкай
Іх слязой аплакаў родны кут,
А яны прайшлі праз пласт глыбокі,
Сталі ў бронзе тут.

...Ездзіў я па свеце, крочыў пешшу —
Станцый прыгажэй нідзе няма;
Беларуская — адной з найлепшых
Дадзена імя.

1957 г.

# ПАРОМ

Левы бераг пакаты,
Правы ўзняўся скалой.
Пахне сенам і мятай,
Пахне рыбнай луской.

На крутым перакаце
Плёснуў хваляю сом.
Па бліскучым канаце
Павялі мы паром.

І фурманку з мяшкамі,
І каня,
І гармонь,
Мы бярэмся рукамі —
Ля далоні далонь.

Напярэймы-пярэймы
Сталь каната бярэм мы,
На паром наш плывучы
Цягнем бераг і кручы.

Каму трэба к нявесце,
Каму — з дому
Ці ў дом.
Рэйсаў, можа, са дзвесце
Зробіць зранку паром.

Камарыным стазвонам
Выйдзе вечар на луг,—
На канат глянь з адхону,
І ты здзівішся, друг:
Ад зары ён чырвоны
Ці нагрэўся ад рук?

1957 г.

## САРАКТАШ

Не дзённіка скупы радок,
А сэрца адрас захавала.
Ёсць невялікі гарадок
Дзесь пасярэдзіне Урала.

У тыл глыбокі
Ў лістапад
Прыехаў я пасля ранення.
Ты мне давала пераклад:
— Сарык — авечкі,
Таш — каменне.

Перадала паданне мне,
Што з калыханкаю пачула:
Паміж каменця, ў кургане,
Каханне юнака заснула;

Пастух дзяўчыну пакахаў,
А даць не мог калым багаты.
Пастух каменным з гора стаў,
І скамянеў навокал статак...

Мяне ты звала да грады
Каменняў, што імхом пакрыты,
Як воўнай сівай... Ды тады
Быў я не здатны да хады,
Бінтамі белымі спавіты.

Пра зруйнаваны Магілёў
І пра Машэку я расказваў.
І ты ўяўляла шлях баёў
Да нашых станцый,

Сосен,
Вязаў.

Калі ж я да сяброў сваіх
Вяртаўся ў родны полк стралковы,
Ты ўдач жадала баявых
На рускай і татарскай мовах.

Не раз выходзіў я на марш,
Не раз я штурмаваў акопы.
І Магілёў,
І Саракташ
Былі заўжды са мною поплеч...

Хай маладосцю і красой
Цвіце другое пакаленне,—
Часамі чую голас твой:
— Сарык — авечкі,
Таш — каменне.

1955 г.

# БАРОМЕТР

Вучоныя прадказваюць надвор'е,
Прыбораў маюць шмат яны.
А я барометрам у іншай форме
Зрабіўся ў час вайны.

Метал ва мне — варожых мін асколкі,
Якіх хірург не мог дастаць.
Я ведаю: заныюць раны толькі,—
І трэба змен чакаць;

Надвор'е зменіцца не сёння — заўтра,
І будзе слота, дождж ліне.
Сусед часамі з жартам і без жарту
Прагноз бярэ ў мяне.

1955 г.

## ДАРОГА

Выносяць гарачыя коні
Хлапцоў з пералеску на шлях.
Паехалі бубны, гармоні
На развітальных вазах.

Далёка, далёка яны ўжо,
А маці глядзіць з-пад рукі.
Маністы чырвоныя ніжа
Каліна ля ціхай ракі.

Каліна вясны дачакае
І цветам сыпне па вадзе.
Дарога, дарога якая
Ў свет сына далей павядзе?

Ці будзе лятаць ён ля зорак,
Ці будзе ён морам плысці?
Ёсць шмат каляін у прасторах,
Ёсць шмат каляін у жыцці.

Дарога салдата крутая,
Нялёгка яе пракладаць.
А доля ўсіх матак такая —
Дарогам сыноў аддаваць.

1958 г.

# ЖОРНЫ

Хай вятры
У полі плачуць,
Жорны граюць,
Жорны скачуць.

Гнуцца на шляхах
Бярозы,
А на млын
Ідуць абозы.

Нельга жорнам
І часінку
Атрымаць
Для адпачынку.

Мелюць, мелюць
Суткі ў суткі,
Сеюць, сеюць
Дар бялюткі.

Самі граюць,
Самі скачуць;
Хай вятры
У полі плачуць.

1958 г.

## ХЛЕБАСОЛЬСТВА

Старадаўні звычай паважаем:
Хлебам-соллю госця сустракаем,
Пі ды еж і будзь у нас, як дома —
Хлебасольства наша ўсім вядома,
А каму наш дом і стол не любы,—
Соль у вочы і маланка ў зубы.

1958 г.

## ВЫБУХІ НАД РАКОЙ

Нібы ад ветру, лазнякі
Зашасталі галінкамі.
На правым беразе ракі
У вокнах шыбы дзынкнулі.

Як першы гром, вясновы гром,
Грымяць над поймай выбухі.
З-за векавых вапняных стром
Па сцежках дзеці выбеглі.

Рака і лёдам, і вадой
Ўзлятае над самой сабой
І падае ўніз ліўнямі
Ў палонкі-прорвы сінія.

Так у суровыя гады
Грымелі поймы Сожавы,
Ўзляталі, падалі масты
І цягнікі варожыя.

Ўзрываюць хлопцы тоўсты лёд,
Цвярдыню ледніковую,
Каб не скрышылі крыгі мост,
Бацькамі адбудованы.

1957 г.

* * *

За палямі лугі і лясы,
Ў полі жыта, а ў лесе чарніцы.
Дружным статкам выходзяць ласі
Выпіць зоры і месяц з крыніцы.

Добры вечар, ласі і бабры,
Добры вечар, заранка над дубам!
Хто народжаны тут, на Дняпры,
Той усюды слыве жыццялюбам.

Прыгадай, Магілёўшчына, гром,
Што грымеў з партызанскай засады...
І тады пад сасновым шатром
Былі школы з сваім букваром
І раёны Савецкай улады.

Магілёўшчына — маці, сястра,
Сінявокая наша дняпранка.
У шаўку тваім ззяе зара,
І вясёлка цвіце,
І заранка.

Твае рукі ў пахучай смале,
Твае рукі у змазцы машыннай;
І Расія прывет табе шле,
Плынь адна
У цябе
З Украінай.

Плынь дняпроўская... Бераг круты,
Як плячо твайго сына Машэкі.
На успененай хвалі плыты —

Клён,
Сасна
Баравой лесасекі.

За палямі лясы і лугі,
Ў полі лён, а ў лугах медуніцы.
Магілёўшчына, край дарагі,
На ўсход сонца твае аканіцы.

1958 г.

# МОЙ ЗЯЛЁНЫ ГОРАД

На кварталы роўныя разбіты,
Просекі, як вуліцы, ляглі.
Ліўнямі і росамі абмыты
Мой зялёны горад на зямлі.

Сто паверхаў тут займаюць птахі,
Кожны сук тут песняю звініць.
Дуб і сосны — векавыя гмахі,
Не баяцца бур і навальніц.

Навальніц і бур... У час той грозны,
Калі вораг напіраў сцяной,
Баранілі нас дубы і сосны
І прымалі разам з намі бой.

На дамы, на новыя цымбалы
Звонкіх дрэў нямала мы ўзялі.
Высцілаюць баравыя шпалы
Не адну дарогу на зямлі.

Мне ж мілей за ўсё дарога тая,
Што вядзе ў зялёны горад мой,
Дзе сяброўства з кожным дубам маю
І знаёмы з кожнаю сасной;

Дзе з крыніцы б'е настой зуброўкі,
Дзе чарніцы, быццам вінаград.
Без пуцёўкі, без камандзіроўкі
Прыязджай сюды — і будзеш рад.

Толькі не! Не дачнікам сюды я
У экспрэсе мчуся праз палі,

А наведаць дрэўцы маладыя,
Пажадаць, каб дужымі былі.

...На кварталы роўныя разбіты,
Просекі, як вуліцы, ляглі...
Углядаецца ў прастор блакітны
Мой зялёны горад на зямлі.

1957 г.

## ПОБАЧ З РАСІЯЙ

Пойдзеш сцежкай на ўсход — зямля руская.
Там такія ж лугі ля ракі,
І такія ў дзяўчат косы русыя,
Вочы — сінія васількі.

Зямля руская, зямля бранская,
Побач сёлы, крыніцы, палі,
Ў песнях слава жыве партызанская,
Што ў сумесных баях здабылі.
Ў добрай дружбе жывём па-харошаму:
Свята ў нас — к нам Расія ідзе.
Свята ў іх — беларусы запрошаны,
Ўсюды разам — у шчасці, ў бядзе.
Пабялее зара, сонца ранняе
З таго боку для нас паўстае.
І здаецца заўжды — зямля братняя
З рук уласных яго падае.
...Пойдзеш лугам на ўсход — зямля руская,
Разам сеем, будуем і жнём.
Гэтым болей за ўсё ганаруся я,
Што мы побач з Расіяй жывём.

1957 г.

# РОЗДУМ

Кватэра — ўласнасць камунгаса,
А ні канап, ні дываноў.
Тут Сож, а можа, ў хуткім часе
Мне быць над Волгай ці Дзвіной.

Каб не адстаць, не прамарудзіць
І там, дзе трэба, стаць у строй,
Заўжды маім дэвізам будзе:
«Нічога лішняга з сабой!»

Калісь вытрэсваў на паверцы
Паходны рэчавы мяшок.
Вось так часамі ў сваё сэрца
Заглядваеш з кутка ў куток:

Мо' завялася пацяруха
Ці плесня — лішні супакой?
Ці ўсё раблю, што могуць рукі,
Што можа розум мой?

1955 г.

## ПАДМАСКОЎЕ

У дарозе заўважыць не мог,
Ў краявіды ўглядаюся зноў я:
Дзе ж застаўся нябачны парог
І насустрач пайшло Падмаскоўе?

Сосны, белых бярозак рады,
І такія ў лугах пералескі,
Нібы з месца на месца сюды
Іх з-за Сожа, Дняпра перанеслі.

Не прыкмеціў бярозкі, сасны,
За якою ў людскім шматгалоссі
Наша «дзе», быццам водгук струны,
З мовай рускай, маскоўскай злілося.

Мачт у полі, як дрэў у бары.
Правады. Семафоры і рэйкі.
Старадаўнія манастыры
Апусцілі старэчыя вейкі.

Роднай стала мне гэта зямля;
Пад Мажайскам
І ў пушчы ля Слуцка
З масквічамі агульнай была
І зямлянка,
І хлебная луста.

Вось Масква... Уваходжу, як свой
Да сваіх. Б'е сустрэчы гадзіна.
Беларускі вакзал прада мной —
Па-зямляцку вітае гасцінна.

1957 г.

## КРАСНАПОЛЛЕ

Расступаюцца сосны, і поле
Мне прыносіць жытнёвы паклон.
Добры дзень, добры дзень, Краснаполле,
Салаўіны, глыбінны раён.

Бачу нівы, лугі і лясы я,
Чую песню дзяўчат на зары.
Тут гукні — адгукнецца Расія,
Рэха вернецца з Краснай Гары.

Помню сам, яккацілася рэха
З гулам, звонам да нас напрасткі.
Ўслед за рэхам у вёску прыехаў
Першы трактар
Адтуль,
З-за ракі.

Перасыпана гліна пяскамі,
З гэтай гліны збаны,
Як званы.
На прасторах збанкамі-званкамі
Залацістыя звоняць ільны.

Добры дзень, землякі — аграномы,
Трактарысты, будаўнікі!..
Добры дзень! Адчуваю знаёмы
Аж да слёз — моцны поціск рукі.

Край бацькоўскі, раўнінна-гарысты,
Аніколі цябе не мінеш.
Ты лістком, ты расінкаю чыстай
І дымком сваім сэрца кранеш.

А даведнік часамі чытаю:
Краснаполлі — іх больш дзесяці.
І пад Полацкам, і на Алтаі
Краснаполле магчыма знайсці.

Што ж, на назвы няма манаполій,
І сказаць я па праўдзе хачу:
Ураджэнцаў усіх Краснаполляў
Землякамі сваімі лічу.

1958 г.

* * *

Шчасце так не даецца,
І яго не купіць;
Шчасце сеецца, жнецца,
Шчасце ў кузнях куецца,
У мартэнах кіпіць.

1960 г.

# АДПАЧЫНАК

А на поўдзень, хлопцы, не паеду,—
Пад любым кустом улетку рай.
Цягніком па мулкаму білету
Сёння мчуся ў наш бацькоўскі край.

Землякі без лішняе гаворкі
Пэўна прымуць да сваёй сям'і.
Каля млына ходзяць краснапёркі,
Спяць пад млынам тлустыя самы.

Кола гоніць рэчку... Успаміны
Паплылі пад светлаю вадой.
Не глядзі у люстра, млын мой мілы,
Мы зусім не юныя з табой.

На заўвагі — хоць не вельмі мудра —
Так адкажам іншым і сабе:

Пабяліла крыху тая пудра,
Што з дарог крутых,
З-пад жорнаў б'е.

А цяпер хутчэй за грэблю к людзям,
Станем смутак радасцю лячыць:
Працаваць з усімі ў полі будзем,
Хай на скроні лёгкі пыл ляціць.

Паслужыце, граблі ці матор, мне,—
Мазалям — не ўпершыню пячы.
А ты, млын, круці над вірам жорны,
А ты, млын, за рыбкаю сачы!

На кашулі ўзор не змые потым,
І не выесць вочы жытні пыл.
Млечны Шлях
Тым пылам здасца потым
І напомніць родны небасхіл.

1960 г.

* * *

Была бранёю гімнасцёрка,
Такога ж колеру, як танк.
Па мне з-пад кожнага узгорка
Гарматы білі ў час атак.

Асколак дастаюць з-пад плуга
Там, дзе былі мае сляды.
І, можа, не мая заслуга,
Што сам у дол не лёг тады.

Так гналі ворагаў, што легчы
Хутчэй спяшаліся яны.
Не я адзін узяў на плечы
Яшчэ з акопаў груз вайны.

Нясу за тых, з кім развітаўся,
Нясу за тых, хто прыйдзе ў свет,
І не жадаю, каб застаўся
Пад прысакам наступны след.

Хачу без каскі, без пагонаў
Хадзіць з сябрамі па зямлі
І каб у чашах палігонаў
Жывыя кветкі расцвілі.

1960 г.

* * *

Базар наладзілі гракі —
Аж пошчак грае ў наваколлі.
Чаму трывожны грай такі?
Чаму хістаюцца таполі?

Спякота. Лівень. Сіні гром.
Раскрыла лета ўсе вароты,
І хоча кожны жаўтароты
Дастаць да гэтых дзіў крылом.

З гнязда на розныя бакі
Зрываюцца ў густое лісце.
— Вяртайцеся,— крычаць бацькі,—
Яшчэ хоць крышку падрасціце!

Ды бачу я: не быць бядзе,
Няхай крыло сваё праверадь:
Магчыма хтосьці упадзе,
Усе іншыя
ў сябе паверадь.

1960 г.

## КАРАБЕЛЬНЫЯ СОСНЫ

Дзень добры, берагі крутыя,
Дзень добры, сосны над Дняпром.
Эх, сосны, мачты залатыя,
Давайце разам паплывём.

Нам наўздагон бяроза кіне
Лісток абпалены —
Бывай!
І лета на гусіным кліне
Плыць будзе
Ў нейкі
Дальні
Край.

Гуляюць хвалі, млеюць мелі,
І самалёцікі стракоз
Ужо над плёсам зашумелі,
Стартуючы
З лілей
І лоз.

Трымай жа, плынь, жывое цела,
Кідай у вір, на стромы скал,
Каб кроў, душа не іржавела
І малады не знік запал.

Няхай паслужыць мне імкненне,
Як сонцу ласкавы прамень,
Прайсці святое ачышчэнне
Перад табой, наступны дзень.

Каб хваляваццa па-быломy
Ад паху траў, ад звону кос

І не цурацца часам дому,
Дзе на сялянскім хлебе
Рос;

Не быць у чэрствасці ў палоне
І даражыць на ўсе часы
І крошкай хлеба на далоні,
І нават кропляю расы.

Хацеў бы зноў я сіл набрацца
Ад гэтых сосен, грэбняў хваль,
Каб па плячы была любая праца,
Любы узлёт, любая даль.

1960 г.



Раскінуў пляж дрымотныя пасцелі,
Падушкі-схілы над Дняпром.
Стрыжы пад самы космас паляцелі,
Туды, дзе рэактыўны гром.

Зямля пад клёнамі яшчэ сырая,
Цень падымаецца ледзь-ледзь.
А чмель абход пачаў і мёд збірае,
Згінае кветку, як мядзведзь.

Дзе маеш, чмель, гняздо сваё і соты,—
Ні купін тут, ні траў густых?
Каб клумбы не пажоўклі ад спякоты,
Дзяўчаты сыплюць дождж на іх.

Вясёлкі б'юць з бляшаных палівачак
У пялёсткавы чмяліны рай...
Так блізка ўсё, як на далоні мячык,
І ўсё, што хочаш, выбірай.

Зямныя і нябесныя сцяжынкі,
І што звініць, і што цвіце —
Усё маё да дробнай парушынкі,
Што ў вока часам пападзе.

1960 г.

## АРТЫЛЕРЫСТ СІРАЦІНІН

*Памяці радавога Сірацініна Мікалая Уладзіміравіча, які ў першыя дні вайны пад Крычавам прыняў бой з варожай танкавай дывізіяй і загінуў смерцю героя*

Аглушан Крычаў, і маўчаць паўстанкі,
Над Сожам дым,
Над Сожам пыл руін.
Паўзуць гудэрыянаўскія танкі,
І ты павінен іх
Стрымаць
Адзін.

Сябры далей на ўсход панеслі раны,
А перапёлкі клічуць жаць-касіць...
Страляй хутчэй, баец!
Ты кажаш — рана?
Ты хочаш бліжай танкі падпусціць?

Глядзі пільней,
каб стрэл не быў твой познім,
Каб не падмяў іхтыязаўр стальны.
І ўдарыў ты па першым,
Па апошнім,
І ўдарыў так, што ўспыхнулі яны.

Прыгнулася ад выбухаў калоссе,
І пацяклі зярняты на зямлю.
Над Волгай дзесьці рэха аддалося:
— Расія, маці! Я не адступлю...
Жаўцеюць над гарматаю бярозкі,
Такая спёка — шчыт агнём гарыць.

Дастаць была б секунда папяроскі,
І без запалкі можна прыкурыць.

Шкада секунды тут — яна падпаліць
Наступны танк, каб быў ярчэй касцёр.
Не ўваскрашай цяпер нічога, памяць,
Ні салаўёў з чаромхаю,
Ні зор.

Не спыніш ворага ліловым бэзам,
І салаўі бяду не адвядуць.
Апошні стрэл... над травамі, над лесам...
І ўжо не танкі,
А чмялі гудуць.

Ніводнага снарада, медзь пустая
Ледзь-ледзь звініць, кранутая дымком.
Байца назад прысяга не пускае,
І ён ідзе
Ў атаку
Са штыком.
Тупы прыклад і востры штык гранёны
Ў апошні раз служылі, як маглі...

1960 г.

## РАБІНАВАЯ НОЧ

О, як паліла, як паліла,
Агонь каціўся па зямлі.
У лузе рэчку затапіла,
І гнёзды чаек паплылі.

А нас пад хмараю засталі
І перуны і той патоп,
І сховішчам трывожным сталі
Зялёныя бярэмы коп.

Я чуў удары твайго сэрца,
Калі бабахнуў блізка гром,—
Ў час небяспекі гэтак б'ецца
Яно у птушкі пад пяром.

Мая ты чаіца, не бойся,
Даверся скошанай траве;
Няхай хоць падаюць нябёсы,—
Тваё гняздо не паплыве.

І нейкі гімн дажджы спявалі,
І штосьці гром нам паўтараў.

Замест іголкі адшукалі
Мы цэлы свет у стозе траў.

Не будзе цесна ў ім маланкам,
Грымучым ліўням, кроплям рос,
Зямлі, што з лазні выйшла ранкам
З пажоўклым венікам бяроз.

1960 г.



Ляглі сябры ва ўсім паходным,
Гарматы сціхлі. Цішыня.
Што сніцца ім пад небам родным
На досвітку, ў пачатку дня?

Над імі жаўранак цвіркоча,
Трапеча, долу дастае.
Нібы падняць забітых хоча,
Ды толькі сілы не стае.

1960 г.

# КРЫЛЫ

Нашчадкі, крыху пачакайце,
На Марс мы самі паляцім!
...Хоць буслу беламу, і чайцы,
І нават жаўранкам малым
Пярынкі лёгкія і крылы
Даў невядомы чарадзей,
Ад нас жа доўга небасхілы
Ўцякалі, быццам ад дзяцей.
Мы самі крылы набывалі
У цяжкай працы векавой,
Для ўзлёту гарт ім надавалі
Агнём і ўласнаю крывёй.
Таму такім барвовым цветам
Гарадь і свецяцца яны
У вышыні над цэлым светам,
Дзе зоры плаваюць адны.
Двары манетныя чаканяць
Наш вымпел з гербам залатым.
Няхай нашчадкі пачакаюць,—
На Марс мы самі паляцім.

1960 г.

* * *

Як быццам камякі блакіту
На пурпуровых тонкіх лапках,
Упалі галубы на пліты,
На плошчу ў сонечных накрапах.

А плошча — гэта стол бяседны;
Тут хлеб і залатое проса.
Дзяўбіце, птушкі, мы не бедны,
Нічога у чужых не просім.

Наш хлеб сумленны — не прыманка,
Хоць ён нялёгка нам даецца,
Хоць нам самім з нябёсаў манка
Не сыплецца і па дыеце.

Дарогу не ўсцілаюць ружы,
І часам горыч мы каштуем,
Але нікому дзеля дружбы
Свайго мы хлеба не шкадуем.

1960 г.

## УДЗЯЧНАСЦЬ

— Вось так, вось так трымай, унук,
Хлеб дарам не даецца,—
Дзед перадаў з уласных рук.
Мне
Баразну і лейцы.

Насілі плач свой кулікі
Над жоўтым курасле́пам:
За мною дзед,
За ім гракі
Йшлі баразною следам.

Грудзьмі
Я налягаў на плуг,
Расхрыстаны ды босы,
Ўваччу палаў зялёны круг
І падалі нябёсы.

Зямля качілася з-пад ног,
Пякла да слёз жарствою,
А жаўранак, нібы званок,
Вісеў над галавою.

Ды крокі ўсё цвярдзей былі,
І вось мае барозны
З пяском і глінай паплылі
Пад сосны і бярозы.

І колас мой на полі рос,
Нібы далонь, шурпаты.
Зямля, зямля! Шчаслівы лёс
Таго, хто твой араты;

Хто есць твой хлеб, хто п'е ваду,
Тваім паветрам дыша...
Няхай хоць сто зямель прайду —
Зямлі не трэба іншай.

Цябе араў, цябе капаў
Штыком, лапатай, ломам,
Ў табе сяброў сваіх хаваў
Пад тым ваенным громам.

Я пазнаю цябе, зямля,
Па тым, як пласт кладзецца,
Як пахне свежая ралля;
Па тым, як колас гнецца,

Па тым, як сэрца б'ецца.

1960 г.

# СЯБРЫ, З ЯКІМІ РАЗВІТАЎСЯ

*Памяці Івана Сіўцова*

Сейбіты — зялёныя таполі
Сыплюць белы пух на цёмны роў.
Часам сэрца спіснецца ад болю,
Часам бачу я у сне сяброў.

...Дзе лягчэй ісці — не выбіралі,
Пераваллаў цяжкіх не клялі,
Без барод дзядоўскіх паміралі,
Бо набыць іх не было калі.

Не таўкліся з рэчамі ў абозе,
Не былі за нечаю спіной.
І гудзелі сэрцы у знямозе
Пад кашуляй, быццам пад бранёй.

Дагаралі не ў шпітальнай цішы,
А ў людзях, на самым скразняку,
Галаву павольна апусціўшы,
А затым занятую руку;

Каб заўжды такімі памяталі:
З кулямётам, кельмаю,
З пяром,
Каб для іх на свята пакідалі
Нават чарку, месца за сталом.

Шмат прайсці, зрабіць яшчэ хацелі,
І з сабой нічога не ўзялі;
Можа, два ці тры асколкі ў целе
Пад дзірван панеслі ў глыб зямлі.

Ведай, праўнук, гэтыя асколкі
Пагражалі і табе тады,
Бо без сонца не гараць вясёлкі,
Не растуць без дуба жалуды.

І зусім не страшна, дзе я лягу,
Пад кустом ці камнем палявым;
Аднаму мы прысягалі сцягу,
І дыханне наша — будзе ў ім.

1960 г.

* * *

Кажуць, што арэхі не абпалены
Ўспышкамі рабінавых начэй.
Кажуць, што грыбамі лес завалены,—
Ну, збірайся, пойдзем жа хутчэй.
І, напэўна, мы з табой не лодары:
Дзве сцяжынкі побач паплылі...
Цэлы дзень мы пушчаю валодалі,
І ўсе дзівы нашымі былі.
І сама была ты дзіўнай казкаю,
Не знайсці, не выдумаць другой,
З нейкай невядомаю апаскаю
Дакранаўся да цябе рукой.
Столькі маю, што часамі боязна:
Ці не надта шмат, ці зберагу?
Хтосьці гне ад полюса да полюса
Ў небе рэактыўную дугу.
Дзякуй, лес! З тваёй выходзім брамы мы,
Дзякуй за арэхі-спарышы.
А груздоў і рыжыкаў не бралі мы:
Ты збірай, вавёрка, і сушы!

1960 г.

## МАГІЛЁЎСКАЯ ШАША

Калісьці тут усё палала:
Метал, паветра, валуны,
Пад соснамі магіл нямала
Чужых і нашых —
З той вайны.

Шуміць, гудзе рака дарогі
Паміж адхонаў і лясоў.
Алень на ўзлессе вынес рогі,
Прыйшоўшы ў госці да ласёў.

Тут да машын усе прывыклі.
Ты тут — шафёр
Ці пасажыр.
Усцяж адхона хтосьці выклаў
З каменьчыкаў ружовых —
«МІР».

Ляжыць на перавале неба,
Машыну — хоць ў блакіт гані...
Аб тым, за што змагацца трэба,
Гавораць нават камяні.

1960 г.

## КУРГАНЫ

Ля Горак, ля Горак
Не ўбачыш ні пнёў, ні лясоў.
За ўзгоркам узгорак
Яшчэ старажытных часоў.

І побач курганы
Без доўгай травы-барады.
У іх пахаваны
Не продкі, а нашы браты.

Над нівамі птушкі,
Ў лугах цымбалісты-чмялі.
Пад сцягам Касцюшкі
Палякі на Захад ішлі.

У полымі-дыме
Дарогі, масты перапраў,
Чакала Радзіма,
Якую чужынец распяў.

Пяскі Прыдняпроўя
Над плынню рачной сінявы...
Славянскаю кроўю
Не раз арасіліся вы.

Чакалі матулі
Дадому жаўнераў сваіх:
Пад дзёрнам заснулі,
І ўжо не разбудзіце іх.

За братнюю дружбу
Галовы злажылі сыны.

Вяргіню і ружу
Дзяўчаты кладуць ім на сны.

— Вы спіце, вы спіце! —
Чуваць у жытах над ракой,—
І ў лузе, і ў жыце,
На ўсход і на захад спакой.

Ў жытах перапёлкі
Прамылі расой галасы.
Над імі вясёлкі
Павіслі, нібы паясы.

З азёраў бяруцца,
Як светлы уток ільняны,
Ў сем колераў ткуцца
Высока, шырока яны.

Узгоркі... Курганы...
І дзесьці над Віслай мой брат...
Не, гэта вулканы
Ад Волгі да самых Карпат.

Хай вораг кранецца,
Зачэпіць хоць ценем сваім,—
Зямля уздрыгнецца
І вогненнай стане пад ім.

1960 г.

* * *

Маленства. Пыл ганялі крэглямі.
Над намі ластаўкі лялалі.
За вёску адвячоркам беглі мы
І ўгору палкі падкідалі.

Усе лясы былі наведаны,
І — палка кожнаму па сіле,
Як булаву калісьці гетманы,
Яе мы з гонарам насілі.

І вось далёкае мінулае,
Што наўсягды ў душу запала:
Нячутна палка мільганула —
І з ёю ластаўка упала.

З чырвонай плямкай белагрудая,
Сама ж, здаецца, наляцела,
Не скажаш ёй, што больш не буду я.
Не ажыве, каб і хацела.

Грахі ацэньваем па-рознаму,
Мы многае забылі змалку.
А я кажу сабе, даросламу:
Не падымай дарэмна палку —

Над намі ластаўкі лятаюць.

1960 г.

* * *

Не пялёсткі ганак усцілаюць.
Стружкі, стружкі — белыя вянкі.
Малаткі няўмольныя ўбіваюць
У сасну гранёныя цвікі.

І навошта, добрыя суседзі,
Змайстравалі гэты вы дамок?
Міма саду маці ў ім паедзе
У сасоннік, дзе сухі пясок.

Там не сеюць жыта, луг не косяць,
Ні расы, ні белых палацён;
У брыгаду бабы не папросяць
Рассцілаць з туманам жоўты лён.

Як хацеў бы тут застацца зноў я,
Дзе глыбокі корань радавы,
Толькі часам старае гняздоўе
Пакідаюць нават журавы.

Мусіць, не ў сасну цвікі ўбівалі,
Як пялёсткі белыя плылі...
О, калі б мы матак не хавалі,
Слёзы б не патрэбны нам былі.

1960 г.

* * *

Яшчэ мне верыцца, яшчэ мне верыцца...
Сяджу, чакаю ля акна.
А толькі не! Ужо не вернецца
Ні днём, ні вечарам яна.

А рушнікі тут тыя самыя
Ў куце, які багоў не знаў.
Даруй ты мне, што рэдка мамаю
Цябе дарослы называў.

Паклічу да сябе суседзяў я,
Каб не пусцеў бацькоўскі дом,
Сваёй няшумнаю бяседаю
Жывых і мёртвых памянём.

Кацiся, яблыка асенняе,
Ў сцюдзёнай ранішняй імжы.
Не мела хата пяцісценная
Сабачай будкі на мяжы.

Была і клубам і чытальняю,
Без шыльд і вонкавых прыкмет,
Глядзелі шыбы ў далі дальнія,
У сённяшні вялікі свет.

Бывай, журба! Хоць многа страчана,
Хоць многіх блізкіх не стае,
Са мной душа і мова матчына
І песня вечная яе.

1960 г.



Не сумаваў я аб пярыне,
Калі трымаў дасвеццем плуг.
Курыўся на маёй чупрыне
Туман бялявы, а не пух.

Я начаваў у чыстым полі,
Мяне дзірван халодны пёк,
Але не клаў сабе ніколі
Я тое воблака пад бок,

Якое пухам лебядзіным
Набіта туга да краёў;
Ні разу я пад небам сінім
Стралу на крылы не навёў.

І ты ляцела без пасагу
Ка мне, як птушка на скалу.
Табе такой складаю сагу,
Табе такой нясу хвалу.

1960 г.

## ПІСЬМО НА РЫЖСКАЕ ЎЗМОР'Е

Там сосны, там белыя пляжы,
Там ходзіць стагрывы прыбой,
Янтарнае сонца там ляжа,
І ўстане, і пойдзе з табой.

Дыхне табе пенай салёнай
Бог мора, суровы ў любві.
Стань часам над хвояй зялёнай
І —
    імя маё назаві.

Пачуеш ты шолах нязвонкі
І рокат над вежай лясной:
«Ён быў тут,— адкажуць сасонкі,—
Ён быў тут зімой і вясной;

Маўклівы і крыху суровы,
З сябрамі кастры тут паліў,
Ішоў ён, і гул перуновы
Прад ім то спыняўся, то плыў;

Пасля —
            ён над морам схіліўся,
Аж стаў на калені тады;
Магчыма камусьці маліўся
Ці проста зачэрпнуў вады».

Аб іншым не станеш пытацца,
Усё соснам раскажаш сама
І будзеш, напэўна, ўглядацца
Туды, дзе нікога няма.

1960 г.



У лесе знайшоў я ласіныя рогі;
Нібыта з слановае чыстае косці
Хтосьці выпіліў сем рагачоў галінастых.

Не! Ад малога сучка адрасталі
Усе атажылкі — вясна за вясною —
І сталі, нарэшце, каронай асілка.

Быў лес яму светлым і дзіўным палацам
З калонамі бронзавых сосен высокіх
І дыванамі, што з моху сатканы.

Калі ж ён вяртаўся на золку дрымотным
Па сцежцы знаёмай ад плёхаўкі-рэчкі,
То недзе спыняўся пад чуйнаю хвояй,

Свае капыты аціраў сухадолам
Ад коўзкага глею і вязкае гліны,
Каб аксаміт дываноў не запляміць.

Як горда насіў баявую карону
Перад ласіхай, сваёю каханай,
Ў трывожныя трубныя шлюбныя ночы!

Ігліца, якую сасна церушыла,
І кожная ветка дрыготкай асіны —
Ўсё дыхала, пахла, хмяліла любоўю.

1960 г.

# ЦЫГАНКА

Замёрлі кусты каля ганка,
Цярушаць з галінак імжу.
Ка мне падыходзіць цыганка:
— Ці хочаш — ўсю праўду скажу,
Ці хочаш — паваражу...
Каціся з кішэні, капейка,
Даражай мне праўда ў сто крат.
— А што ты, а што, чарадзейка,
Мне скажаш над веерам карт?
Што ведаў турботы, трывогі,
Што ведаў баі і дарогі,
Ў галовах стаяла труна?
Што ж, гэта зусім не мана;
Што страціў я родных і блізкіх?
І гэта няцяжка згадаць:
Іх прозвішчы на абелісках
Магчыма заўжды прачытаць;
Што маю ля сэрца кагосьці,
Што шчасцем сваім даражу?
Будзь лепей, цыганка, за госцю,—
Дармова табе варажу.
Былі ў мяне й будуць дарогі,
Былі ў мяне й будуць трывогі,
І радасць і смутак да слёз...
Кранае мяне і твой лёс.
З такімі вачамі, брывамі,
З індыйскаю смугласцю шчок
Бадзяцца чужымі дварамі,
Абкрадваць наіўных знарок...
Цыганскае сонца і неба —
Ва ўсім ёсць сваё хараство,
А толькі сумленнага хлеба

Няварта тваё рамяство.
Сустрэчы з людзьмі,
Падарожжы
Інакшыя ёсць у жыцці.
Я першы паверу, што зможаш
Ты сталае шчасце знайсці.

1960 г.

# НАДПІС НА ПЛОЦЕ

«У доме — злы сабака!»
*Надпіс на плоце*

Я назіраў любыя дзівы,
Згадзіцца ж з гэтым не магу:
Зубчаты плот вакол сядзібы,
Кудлаты звер на ланцугу.

Даўно не чуў я злога рэха,
Што калыхала цёмны лес.
Адкуль ты, хутар, пераехаў,
Ты нарадзіўся ці ўваскрэс?

На жабракоў, як на дзічыну,
Калісь сабак ты напускаў,
І на забаву меў прычыну,
Калі стараўся ваўкадаў.

Якія мілыя забавы!
А павярну экран падзей,
І чую, бачу — ваўкадавы
Шматуюць матак і дзяцей.

Гараць рубцы на белым целе,
Нібы на плоце надпіс той;
Мяне рабом зрабіць хацелі,
Зямлю — сядзібаю чужой.

Сягоння я згінаў бы карак,
І дзеці б з торбаю пайшлі,
Калі б не выгналі аўчарак
Двухногіх
З нашае зямлі.

Яны далёка дзесьці брэшуць
Ад лютай злосці і тугі...
І гэты плот... Мне сэрца рэжуць
Платы, драты і ланцугі.

Адгарадзіўся ад каго ты,
Сабачай будкі ўладар?
Хацеў бы грукнуць я ў вароты,
Каб пахіснуў іх мой удар:

Нічога мне, сусед, не трэба,
Я не палезу цераз плот,
І нават з мёдам скібку хлеба
Я ад цябе не ўзяў бы ў рот.

Не мёду, а вады ў спякоту
Ты пашкадуеш, мой сусед.
Не бачыш з-за глухога плота,
Які ў нас дзень,
Які ў нас свет!

1961 г.

* * *

Балота патушыла аганькі
На сініх газавых ражках.
І вось над лугам плачуць кнігаўкі
Ў крухмальна-белых фартушках.

Яшчэ здалёку чую енкі я
Адтуль, дзе свеціцца вада:
О дзеткі дробныя, маленькія,
Бяда чакае вас, бяда...

То долу прыпадаюць грудкамі,
То след у жыта адвядуць;
А луг красуе незабудкамі,
І нават купіны цвітуць.

Чаго ты б'ешся гэтак, чаіца,
Нібы ўдавіца аб парог?
Відаць, там шчасце не канчаецца,
Дзе ёсць прычыны для трывог.

1961 г.

* * *

Надыходзіць часамі такое жаданне:
Пакланіўшыся родным дубам і стаўкам,
З горнай рэчкай Сакмар
зноў наладзіць спатканне,
Паглядзець, што пакінуў калісьці я там.

Можа, сохне яшчэ на скале гімнасцёрка,
Што туды прывяла, пабываўшы ў агні,
І гукае дзяўчына — мая краснапёрка
З грэбня ўздыбленых хваль:
— Паспрабуй дагані!

З ёй касілі пшаніцу мы ў стэпе спякотным,
З ёй кідалі каменьчыкі з белай гары;
І каханне прыйшло, у юнацтве грымотным
Не чакала яно спакайнейшай пары.

Я хачу, каб з гаранкай дружыла удача,
Няхай шчасце яе ані ў чым не міне.
Ну, а ты, што са мной, быць павінна удзячна
За ўсё лепшае ёй, што знайшла ты ва мне.

Надыходзіць часамі такое жаданне:
Пакланіўшыся родным дубам і стаўкам,
З маладосцю сваёй зноў наладзіць спатканне,
Паглядзець, што пакінуў калісьці я там.

1961 г.

* * *

У мяне аж мільён адрасоў
Родных сцежак, палян і лясоў;
Прада мною ляжаць дываны,
Ступіш — след падымаюць яны.
Не па мяккіх хадзіў верасах,
Дым і попел нашу ў валасах,
Верасы вы мае, верасы.
Хто сказаў, што вясна адцвіла?
Вунь звініць над узяткам пчала;
Жаркі цвет на мяцёлцы гарыць,
Значыць, ёсць чым пчалу адарыць,
І пакуль той зазімак ды лёд,
Яшчэ будзе ў нас цвет, будзе мёд,
Верасы вы мае, верасы.

1961 г.

## БАЛКОН СУСЕДКІ

Заўжды здавалася мне гэтак:
Смяяўся і сяпяваў балкон,
На плошчу плыў з пажарам кветак,
З дзвярыма, з рамамі акон.

Яе чакалі ўнізе птушкі,
І шчодра сыпала яна
Такое проса, як вяснушкі,
Што падарыла ёй вясна.

У хвартушку на лаўцы нізкай,
Раскрытым кінуўшы пакой,
Аб чымсьці думала над кніжкай,
Пялёсткі кратала рукой.

На выбітай пліце бетона
Лёг на пялёсткі нечы след,
Не ўгледзеў я, калі з балкона
Суседка пырхнула у свет.

Шчаслівага жадаю лёту,
Памчаўся б за табой любы!
Адчую часам я самоту,
Калі вуркочуць галубы.

Чакаюць адвячоркам птушкі,
Каб зноў пасыпала яна
Такога проса, як вяснушкі,
Што падарыла ёй вясна.

1961 г.

## СНЫ

Каб падушка стаць магла экранам,
Неспакойныя адбіла б сны;
Прачынаюся заўсёды раннем
З адчуваннем
Ўсіх трывог вайны.

А калі было наяве гэта,
То не бачыў аніякіх сноў.
Сны цяпер, як белая ракета,
Ўсё былое асвятляюць зноў.

Бачу не маленства і не казкі,
Не пялёсткаў снегавую бель:
Засланяе вочы купал каскі
І сціскае грудзі мне шынель.

Не магу з сябе нічога скінуць,
Не магу абмотку падматаць,
Мне даводзіцца з сябрамі гінуць
І сябе самога падымаць.

І заўсёды — мабілізаваны,
Даганяю свой знаёмы полк...
Пачынаюць ныць былыя раны,
Быццам зноў метал мяне абпёк.

Сны мае, ракетныя успышкі,
Помню ўсё і да ўсяго гатоў,
Дайце ж мне хоць крыху перадышкі
І сыпніце квецені садоў.

1961 г.

* * *

Ты спытала: хто пяском зярністым
Тут пасыпаў сцежкі між сасён.
Я хацеў, каб шлях не быў цярністым,
Каб адбіў твае сляды ўсе ён.

Я збіраў ламачча і каменні,
Падмятаў ігліцу і лісты.
Залаты пясок насіў па жмені,
Адчуваючы, што прыйдзеш ты.

Я спавіў паляны дзеразою,
Падпаліў чабор і верасы,
Кожную травінку ўмыў расою,
Даў пявучым птушкам адрасы.

Каб да гэтых сцежак прыляталі,
Гнёзды цёплыя вілі
Ў галлі,
З ранку да змяркання шчабяталі.
Што жывеш,
Што ёсць ты на зямлі.

1961 г.

* * *

Я зноў іду у свет мне мілы:
Трымціць над берагам сасна,
Нібы чатыры небасхілы
Трымае на плячах адна.

Відаць, самотна ў дзень пагожы
Сасонкам на касе крутой,
Калі ў рамонкавым падножжы
Такі грымучы цветабой.

Спускайцеся
                    на луг
                              з падхмар'я,
Уброд па травах пабяжым:
Брат і сястра — Іван ды Мар'я
Раскажуць, як жывецца ім;

Падбел гандлюе цёртым мелам,
Б'е ў медныя званкі званец,
І ганарыцца, што ён смелы,
Ссівелы ўжо хвалько-сівец.

Вунь адуванчык — белы мячык,
Здаецца, просіцца ў руку;
Пазнаем ласку маці, мачых
Па цеплыні, па халадку,
Хоць на адным яны лістку.

Вады ў рачулцы па калені,
А гэтак б'е, пячэ, як лёд.
Памыю ногі на каменні,
Каб весялейшы быў паход.

Каб не пякла жарства зямная,
Каб след на сцежцы не згараў,
Прымі букет, рака лясная,
Хоць не табе яго збіраў.

1961 г.

* * *

*А. К.*

На ўзлессі дуб, нібыта манумент,
Ні жалудоў над ім, ні лісця.
Хавае тайну навакольны свет
Таго, што тут было калісьці.

Самотна часам над звычайным пнём,
Што пакідаюць дрывасекі.
Якім жа, дуб, цябе пяклі агнём,
Якім цябе жалезам секлі?

Відаць, не тайна гэта для жывых:
Стаіць на зломе белы бусел,
Счарнелы дуб і ён — з вясны ўдваіх,
Агульны ў іх нябачны вузел.

Ужо даўно гнязда не мае птах,
Не мае буслянят цыбатых.
Буслы... Буслы на ссечаных дубах
Як напамін, як боль па стратах;

Па тых, хто ссечан, хто ў баях згарэў,
Над кім карэнні траў спляліся.
Глядзяць у сэрца з-пад зялёных дрэў
Дубы без жалудоў і лісця.

1961 г.

* * *

Перуны у сто гармат ударылі
Ў гонар юнака, што зняў пагоны.
Звычай на сяле: вярнуўся з арміі —
Ладзь гняздо, вядзі, ў каго ўлюбёны.

Аднагодкі рукавы закасваюць,
Самі — цесляры, майстры, прарабы;
Звоняць пілы, і сякеры ляскаюць,
Сем дзядоў даюць свае парады:

— З мілай і пад дубам — доля райская,
Толькі лепш фундамент мураваны...—
Тры вайны, паходы партызанскія
Ўспамінаюць потым ветэраны.

Грукаюць сякеры, дружна грукаюць,
(Маладое свята тут — не будні),
А дзяўчаты каля клуба слухаюць:
«Быццам на вяселлі б'юць у бубны».

1961 г.

* * *

Зноў у зямлі ўзарвалася граната,
Плыве ў вянках дзіцячая труна.
Хлапчук вайны не бачыў: вінавата
Яшчэ непахаваная вайна.

1961 г.

## ЛЮБУЖ

Пахне хвояй, дзеразою,
Над ядлоўцам — сіні дым.
Добра сцежкаю лясною
Днём прайсціся выхадным.
Новае ў дзяўчыны плацце,
Ўсё ў пялёсткі, ўсё у мак.
Раптам — шчасце ці няшчасце —
Перад ёю стаў юнак.
Ой, сасновы бор Любуж!
— Мо правесці?
— Тут не глуш.

І адкуль такі з'явіўся:
Не знаёмы, не сусед;
Быццам з Месяца зваліўся,
Трэба ж ведаць этыкет.
Хоць ты статны, хоць ты бравы,—
З заляцаннямі не лезь,
Хоць ты нават кучаравы,—
Ды не твой жа гэта лес.
Ой, сасновы бор Любуж!
— Дуб я вырву...
— А ці дуж?

Паспяшалася дзяўчына
Слова незнарок сказаць.
Ну, а ў хлопца ёсць прычына
Сілу, дужасць паказаць.
Падхапіў, нібы пярынку,
Вось падкіне да нябёс:
Дай аддыхацца часінку,
Ураніла стужку з кос.

Ой, сасновы бор Любуж!
— Пацалую?
— Не, не руш...

Галасы вясёлых птушак
У сутоннях баравых.
Не шкадуй, дзяўчына, стужак
І пялёсткаў агнявых;
Ўжо даўно такой сустрэчы
Ўпатайкі чакала ты;
Нават дуб шыракаплечы
Б'е ад радасці ў лісты.
Ой, сасновы бор Любуж!
— Любіш ты мяне?
— Люблю ж.

1961 г.

* * *

Рухавічок туркоча.
Усе пайшлі ў кіно.
Да самае паўночы
Экранам мне — акно.

Сасна над сцежкай. Бусел.
Срабрысты маладзік.
Кажан на сіняй нітцы
Пагойдаўся і знік.

Ідуць кудысьці двое,
Схаваліся за плот;
Бялее там хусцінка...
Знаёмы эпізод.

Чаго ж, чаго самотна?
Я ведаю сама:
Галоўнага героя
Усё няма, няма.

1961 г.



Хто бачыў, як дубы цвітуць
На ранняй зорцы сарамліва?
Затое ўсе чаромху гнуць:
Такую замець заварыла!

1961 г.

* * *

Каму агнямі свеціш, вуліца?
Даўно ўсе спяць, даўно ўсе спяць;
У парках цені не варушацца
І дрэвы не рыпяць.

У небе непрыкметна зоркі ўсходзяць
І ціха патухаюць наўсягды.
А па зямлі мае ўспаміны ходзяць,
Трывожачы дарожныя сляды.

І памяць неадступным следапытам
Схіляецца над бітаю зямлёй,
І часам у забытым, перажытым
Прымае след чужы за ўласны мой.

Гляджу цяпер на юную адвагу,
На першы бой... І верыць зноў гатоў,
Што падымаўся некалі ў атаку
І быў на маршы некалькі гадоў.

Не будзем, памяць, грэцца каля славы,
Не будзем прымяраць з аглядкай крок.
Хай па слядах маіх гусцеюць травы
І вугалькамі тлее чабарок.

Хай позні чмель гудзе мажорным басам,
Разбуджаны расінкаю ўначы.
Ты на яго не наступі абцасам,
Юнак,
з сваёй любоўю ідучы.

1962 г.

# БАЙЦАМ НЕ СНЯЦЦА ПАНТЭОНЫ...

На абелісках — толькі даты,
Імёнаў многіх не знайсці.
І невядомыя салдаты
Маўчаць у сціплым забыцці.

Байцам не сняцца пантэоны,
У іх з маленства клопат быў,
Каб рунню дыхаў дол зялёны,
Каб град калоссе не пабіў.

1962 г.

# АСВЕЙСКІЯ РУЧНІКІ

Зямля нязжатымі снапамі
Падпёрла бледны небакрай.
Вайна жалезнымі цапамі
Малоціць наш пярэдні край.

З павевам рогату і свісту
Снарады ўвінчвае ў пласты,
І выбухі ўстаюць бязліста,
Як марсіянскія кусты.

На тых кустах — кара зямная,
Цагліны, трэскі, сашнікі,
На тых кустах — бель ільняная:
Ў чырвоных пеўнях ручнікі.

Дзяўчаты ў час мяцеліц ткалі,
Бялілі белаю вясной
І да пары прыберагалі
Пасажны скарб, як гонар свой.

Байцоў на фронт паслалі сёлы,
І — закапалі сундукі:
Свой добры хлеб, гасціннасць солі
І вышытыя ручнікі.

Таму чужынец азвярэлы
Снарады ўвінчвае ў пласты.
І выбухі ўстаюць, як дрэвы,
Як марсіянскія кусты.

1962 г.

## ВЫШЫНЯ КАПІТАНА ГАЛЬПІНА

Даўно збіраюся маўкліва
Ступіць на сцёртыя сляды.
Пайду да самага абрыва
Велікалуцкае грады,—

Дзе трое сутак бралі сопку,
Што дыхала, нібы вулкан,
Дзе паміралі паасобку
І ўзводамі — ад немых ран;

Дзе да вясны ляжалі хлопцы
У маўзалеі снегавым,
Дзе веюць шызыя ядлоўцы
Яшчэ дымком парахавым.

І хоць у памяці ўсё меней
Знаёмых твараў і
імён,
Ты застаешся ў наступленні,
Наш вечна юны батальён.

— Па колькі, хлопцы, вам? — Па дваццаць.
А камандзіру — дваццаць шэсць.
Прыйшоў да вас я прывітацца,—
І — аддаю маўкліва чэсць.

1962 г.

## КАЛІНІНСКІЯ СОПКІ

Гучаць, нібы назвы планет,—
Таропа, Таржок, Селіжарава.
Балота — і свет, і сусвет.
Трымціць сiняватае марыва.

Пад ботам, пад сопкай вада,
Аж сосны ад вільгаці п'яныя.
І нас, нехацінцаў, вайна
Зрабіла амаль вадаплаўнымі.

А сопак — як зорак вясной,
Па сопцы на кожнага выпала.
І кожны ішоў да сваёй,
Нёс сэрца сваё — замест вымпела.

А сопкі — без дрэў і без траў,
А сопкі — амаль недаступныя.
А вымпел пярэдні згараў,—
На змену ўставалі наступныя...

1962 г.

* * *

Не ўсе бацькі забіты на вайне
У тых, хто нарадзіўся ў час ваенны.
Жанчына часам толькі уздыхне
Ды паглядзіць самотліва на сцены.

Не засталося фота на ўспамін,
Як у другіх, што па закону ўдовы.
А сын расце, яе адзіны сын,—
Пушок прабіўся і гусцеюць бровы.

Цяпер ён кожнай рыскаю сваёй
Той незабыўны воблік дапаўняе.
І — здасца дом кватэрай франтавой,
І — кананаду гром напамінае.

Няхай жа сын не ведае трывог,
Хай верыць сын, што бацька пахаваны;
Нямала ёсць узгоркаў ля дарог,
Што берагуць дасюль людскія тайны.

1962 г.

## ЗНОЙДЗЕНЫ ПАТРОН

Даўно ўжо вылаўлены міны
Сапёрным гнуткім вудзільном.
Чакаў патрон сваёй часіны
То пад аўсом, то пад ільном.

Мяняліся пасевы, травы,
Дажджы і колеры вясны;
Патрон — іржавы і каравы,
Не баявы, не запасны.

Відаць, дваццатае ўжо лета
Плыве ў баразнах цёплых ён.
Ты апусці руку, кабета,
Пад свой даспелы, чысты лён.

І вось запіска прад вачыма,
Аж скалыхнуліся ў жальбе
Збанкі ільну:
МАЯ РАДЗІМА,
Я ПАМІРАЮ ЗА ЦЯБЕ.

Тугіх збанкоў-званкоў мільёны
Звінелі ў палявой цішы,—
Нібы хтось новыя патроны
Перабіраў каля шашы.

1962 г.

* * *

Вятры і дождж — такая блытаніна,
Нібы вясна забыла каляндар.
У небе сонца — рэдкая даніна,
Баяцца промні выбліснуць з-за хмар.
Прамень аблепіць машкара лясная.
У хмару ён хаваецца хутчэй.
Адкрыла шлюзы прорва навясная,
І краявіды адплылі з вачэй.
Дажджы халодныя, дажджы, як рэкі,
Нядаўні ручаёк — шырэй ракі.
Ржавеюць нават пад кур'ерскім рэйкі,
На паплавах пасуцца шчупакі.
У глебе захлынаюцца зярняты,
З іх не адно — тапелец нежывы.
Відаць, аб многім думае араты
У гэты дзень, размыты, дажджавы.
Смуткуюць па блакіту птушкі, сосны,
Азёры, што згубілі колер свой.
Дажджы, дажджы... А можа смертаносны,
Атрутны дождж упасці над зямлёй.
Прыкрыцца нельга будзе парасонам,
Няхай ён хоць з бетону — парасон;
Дажджы, дажджы над Тэмзай, над Гудзонам,
Дажджы, з якімі наплывае сон.
Не спіце, людзі! Ўзніме хтось ракету,—
Не кінешся за ёю наўздагон;
Не дождж, не дождж,— трывога б'е ў планету,
Трывога ў сэрца б'е, нібыта ў гонг.

1962 г.

* * *

Рук няма. Пэўна, маланка скрышыла...
*М. Танк*

Нямала на планеце ёсць Венер Мілоскіх,
Што захавалі прыгажосць у муках.
Мы сустракалі ў гарадах і ціхіх вёсках
Жанчын знявечаных, жанчын бязрукіх.

Яны спынялі на шляхах чужыя танкі,
Яны трымалі у руках гранаты.
З тых дзён ніколі іх не бачылі у танцы
І рэдка бачылі з вінам у святы.

Імёны сціплыя не часта ўспамінаем
І подзвігам здзіўляцца перасталі.
Чаргу і месца са спагадай уступаем,—
А трэба б уступіць ім п'едэсталы.

1962 г.



Аддавалі мы маткам бушлаты,
Як вярталіся з поля вайны.
У зялёным, нібыта салдаты,
І касілі і жалі яны.

І падобны былі на ракіты,
На бярозкі, што йдуць за сяло.
Вось і новыя латкі прышыты,
Быццам круглае лісце лягло.

Пабялелі і косы і латкі
Ад туманаў, завей снегавых.
Ды зайздросцілі ўдовы-салдаткі,
Што чакалі бушлатаў сваіх.

— Хоць бы цёплы бушлат той прымерадь
Пасля ўсіх халадоў і трывог,—
І сягоння яны яшчэ вераць,
Не спяшаюцца рана вячэраць,
Ўсё з надзеяй глядзяць на парог.

1962 г.

## ПЯРО ФАЗАНА

Тут не зацішша
Лясных палян.
Спякотай дыша
Пракатны стан.

Густыя бровы
Абпаліш ты,
Бо не з дубровы
Грымяць лісты.

Будзь асцярожны
Без рукавіц:
Лягло на кожны
Сто бліскавіц.

Вясёлкі граюць —
Краса лісту —
І дагараюць
Вось на ляту.

Пагас барвовы
Скразны прамень
І знік ліловы,
Ёсць толькі цень.

Адны мігценні,
Як водсвет зор;
Паклалі цені
Свой шызы ўзор.

Ужо не рана:
Бяры на дах.

Пяро фазана
На ўсіх лістах.

І ведай, дружа,
Пад тым пяром
Да першай сцюжы
Стаіўся гром.

1962 г.

## САРБАЙСКІ РУДНІК

Тут самалёты прыцішаюць лёт,
І стрэлка компаса свой курс мяняе,
Нібы у стэпе новы полюс лёг,
Нібы паблізу —
Вось зямная.

Гавораць гарнякі: няма чысцей,
Глыбей
Пласта жалезнага, чым гэты,
І можна не адну, а шмат асей
Скаваць з яго для нашае планеты.

Ударыш ломам, і адскочыць лом,
А грымне выбух — коўш руду збірае.
Тут зоры — быццам іскры над катлом
Суровага казахскага Сарбая.

Зімой гудуць марозы. А ўпадзе
Дажджынка летам — чуецца сіпенне.
У ботах ходзяць хлопцы па рудзе,
Цвікамі адчуваюць прыцяжэнне.

1962 г.

# МОСТ НАД ТАБОЛАМ

Ён цвёрда стаў на ўздыбленыя кручы,
Узнёс над безданю хрыбет спіны;
Прымае мост, як працавіты грузчык,
Цяжэрны груз — ад цаліны.

Гудзе спіна счарнелая ў натузе,
І гэты гул чуваць на многа вёрст...
Хто за спіной нясе парожні вузел,—
Няхай лепш абміне табольскі мост.

1962 г.

* * *

Паклонімся калодзежу вядром,
Ужо сыходзім сёння
Потам сёмым;
Павеяла вільготным вецярком,
Запахла глінай,
Прэсным чарназёмам.
Палае стэп, нібы скаварада,
А сонца ўсё пячэ.
А сонцу — мала;
Углыбіню схавалася вада,
Ледзь з-пад зямлі
Вядро
Яе
Дастала.
Яе шукалі мы, як свой лісток
З расінкаю шукае птушка каня.
І вось да губ плыве вады глыток,
Як пацалунак першага спаткання.
На беразе вядра, ля губ сухіх
Расплёскаўся струменьчык неглыбокі.
У ім — затоены нячутны ўздых
Азёр, якія высахлі ад спёкі.

1962 г.

# НАД ВОЗЕРАМ САРКУЛЬ

Над возерам Саркуль
Мяцёлкі ўзняў чарот.
На возеры Саркуль
Ўсё малады народ.

Не бачыў я нідзе
Кудзелі-барады.
Ну дзе, скажыце, дзе
Вы, мудрыя дзяды?

Вада ўскіпае днём
Да самае гразі.
І ходзяць табуном
Ляшчы і карасі.

Цягалі б вы, дзяды,
Таптухамі улоў
Для ўсіх пяці брыгад,
Для ўсіх пяці катлоў.

Варылі б юшку ўсмак
Да сіняе начы.
Чаго маўчыце вы,
Дзяды-барадачы?

Не, ў гэты дальні край
Не ехалі яны.
Жывуць, працуюць тут
Унукі і сыны.

І гэткі іхні лёс:
Усё самім рабіць,

І сеяць, і касіць,
І — карасёў лавіць.

Над возерам Саркуль
Мяцёлкі ўзняў чарот.
На возеры Саркуль
Ўсё малады народ.

1962 г.

## ГАСЦІНІЦА Ў САЎГАСЕ «МІНСКІ»

Не век жыць пры цешчах —
Вось дом для прыезджых.
Палтаўчанка Маша —
Гаспадыня наша.

Паказала вугал,
Адпусціла вугаль
І вады вядзерца:
— Памыйцеся, чэрці!

З папярэдняй «знаці» —
Жылі глебазнаўцы
З бітымі гаршкамі,
Спальнымі мяшкамі.

Як ішлі з работы,
То няслі на ботах
Пуды чарназёму
Да гэтага дома.

Хлопцы вы з вусамі,
Гаспадарце самі;
Не шукайце служкі
Папраўляць падушкі.

Часам мне ў канторы
Дырэктар гаворыць:
«Памыла б графіны,
Ходзіш, як графіня».

А ён з рабачкомам
П'е там чай, як дома.

От жа завядзёнка,—
Хай памые жонка!

Часта з імі сварышся:
Я ж электразваршчыца,
Зрабілі тэхнічкай,
У бочку — затычкай.

Злосці набяруся,
Да іх дабяруся.
Будзе як нікому
Таму рабачкому.

Носіць, быццам лыжку,
За халявай кніжку,
Без кніжкі ні разу
Не дае адказу.

Май уласны розум,
Калі ты цвярозы.
Плюну на ўсё чыста,
Стану трактарысткай.

— Ты куды, Маруся?
— Пайду пасваруся!

1962 г.

* * *

Каля мора спее жыта,
Янтарамі ў бераг б'е.
Ліяніта, Ліяніта,
Не сустрэў я там цябе.

Мора ў белай дымцы стыне,
Быццам коціцца з гары.
— Ліяніта? — гаспадыня
Стэпу і Джатыгары.

Звон янтараў і арэхаў,
Водар мяты, палыну.
Не здзіўляйся, што прыехаў
Да цябе на цаліну.

Золата усё да кроплі
Раздала Джатыгара.
Можна сеяць тут каноплі,
Каб прывабіць снегіра.

Я і сам той канаплянік,
Што сілка не абміне.
Ліяніта, дзе твой ганак,
Ці чакала ты мяне?

Ты пастаў дарожны чайнік,
Рутай-мятай завары.
Замест золата маўчанне
Аддадзім Джатыгары.

1962 г.

* * *

З Карпат і Случчыны прыехалі
І ставілі палаткі.
А над стаўкамі і над рэкамі
Журыліся іх маткі.

Сказалі хлопцы: «Мы не вернемся
І жыць у стэпе будзем.
Няма ні лесу тут, ні верасу,
Ды свой мы хлеб здабудзем».

Была для ўсіх сястрой увішнаю
Гуцулка-удавіца,
Спявала, як пад белай вішняю
Прабілася крыніца.

Яна варыла ім і мыла ім —
Хіба такое грэшна?
І хтось назваў яе любімаю,
Ой, вішня ты, чарэшня!

Пісьмо паехала на Случчыну,
Пад грушавае лісце:
«З прыгожай доляй я заручаны;
Ты, маці, не журыся.

Пасёлак з бэзам і калоссямі
Назвалі мы Вішнёвым.
Прыедзем восенню у госці мы
З унукам чарнабровым».

1962 г.

# ПЕРАКАЦІ-ПОЛЕ

Стэп уздыхне — і зябка дрогне
Ў стаўку хмурынка-паплавок.
Выкатваецца на дарогу
Бясшумны прывідны клубок.

Травы, што з кораня знялася,
Травы, што высахла ад спёк;
Саломінка перапляпася,
Ўчапіўся з зернем каласок.

Не абысці, не змераць поле
Вятрам у самы доўгі дзень.
У полі перакаці-поле
Уласны даганяе цень.

Зямлі не чуючы пад бокам,
Не маючы для ўзлёту крыл,
Ляціць і коціцца з падскокам
Туды, туды, дзе небасхіл.

Куды спяшаецца так зранпя,
Ўцякае ад якой бяды?
Ці чутна конскае іржанне,
Ці стэп малоцяць капыты?

Не выбіраючы дарогі,
Бягуць ў тургайскія пяскі
Неразгаданыя трывогі,
Неразматаныя клубкі.

1963 г.

## СОСНЫ

Табол паказвае нямала дзіў,
За нашых землякоў яму не сорам.
Я бачыў шчодры хлеб і соль. Хадзіў
У той лясок, што стаць імкнецца борам.
Бягуць сасонкі — за сястрой сястра —
Пад небасхіл у спішаныя далі;
Напэўна, ўгледзець хочуць сінь Дняпра,
Дзе іх вятры пад хмарамі гайдалі.

1963 г.

## МАГІЛЁЎСКАЯ ГАВОРКА

Не пазнаю вас у маўчанні,
Сябры мае — магіляўчане.

Ды ўсюды з вамі ў звонкім ззянні
Ёсць слова дарагое — сянні.

— Куды сусед, хадзіў ты сянні?
— Мядзведзя пасвіў на аўсянні.

Не раз былі з табой спатканні,
Як полаз, выгнутае — сянні.

І часам нават генерала
Яно ў бяседзе выдавала.

Ці ж дзіва, што каля Тургаю
Сваіх зямлячак сустракаю.

Тут стэп напоўнен галасамі:
— Камбайны выязджаюць сянні!

1963 г.

* * *

Над ракой казахскаю Табол —
Разнамоўны рэстаран «Табол».
А няма сухога ў ім закона,
Можна піць віно усім законна,
Можна нават болей, чым дазволена,—
Паднясе з паклонам Ніна Злобіна.
На падносе тонка звоняць чарачкі,
Чары ў Ніны, быццам у шынкарачкі,
У яе пярэднік накрухмалены,
Шчокі, вусны густа нарумянены.
Дэзерціры, летуны, бадзягі
Сыплюць камплімепты і падзякі.
— Палюбі нас, Ніначка, бяздомных,
Прыплылі мы на сваіх пад'ёмных.
— Думалі мы: цаліна —
Залаты Кландайк,
Дзе зусім не трэба — на,
Ведай толькі — дай!
Ім не трэба ліўняў і маланкі,
Хопіць берагоў звычайнай шклянкі,
Што адбіла ў сіняй глыбіні
Рэстарана белыя агні.
І — здаецца палубай падлога,
І — здаецца, хваля б'е пад ногі,
Раўнавагі пругкай не стае,
Хтосьці ўжо сігналы падае.
Выплывае ўсё з няцвёрдых рук,
І — патрэбен ратавальны круг.
Не ўратуе, хлопцы, круг вас пробкавы,
Больш надзейны плуг, што дадзен продкамі;
Ён у стэпе самы моцны якар,
Зрушыць з месца можа толькі трактар.

Там няма бязважкасці, гайданкі.
Я ж са змовай да сваёй бялянкі:
— Па табе у стэпе я сумую,
І цябе украду, не святую.
Стэп калоссе спелае калыша,
А Табол — клінковую лазу.
А цябе украду без калыма,
На Табол сапраўдны павязу.

1963 г.

* * *

Гул вентылятараў чмяліны,
Станкоў суладны перастук.
Паходка лёгкая ў дзяўчыны,
Абцасікаў нячутны стук.

Праменьчык серабрысты сонца
Майстрыха юная ўзяла,
І той праменьчык-валаконца
Да верацёнаў падвяла.

Круціся, сонейка, круціся,
Праменьчык з-пад рукі не ўцёк;
Свяціся, нітачка, свяціся
І на аснову і на ўток.

Як ніткі — тоненькія бровы,
І кудзерцы — бялюткі лён.
Пашые дзеўчына абновы
На ўсю вясну, на ўвесь сезон.

Захоча — ў сіненькі гарошак,
Захоча — ў ружах палатно;
І пойдзе ў туфельках харошых
Ў бібліятэку, у кіно

Па ўсёй вячэрняй Першамайскай
З сяброўкамі плячо ў плячо;
Няхай не кажа часам майстра,
Што — легкадумнае дзяўчо.

1963 г.

* * *

Бачыў у Мінску,
Бачу у Львове
Факел трывожны,
Факел барвовы.

Факел рванецца
Пад абеліскам,
Думы абпаліць
Вогненным, блізкім.

Бы з шалясценнем
Веюць снарады;
Выдых падземны —
Гул кананады.

Факел трапеча,
Факел ракоча,
З вечнага каменя
Выбіцца хоча.

Славы салдацкай
Полымя б'ецца.
Хто там з рукамі
Лезе
      пагрэцца?

1963 г.

* * *

Адчыняйце вокны — гром пялёснуў,
Маладая свежасць наплыла.
І няма ні сушы, ні нябёсаў,
І няма ні змроку, ні святла.

Перакатным валам б'е стыхія,
Круціць валуны і пер'е траў.
Ну, а хіба мы былі сухія
На любой з бяздонных пераправ!

Недарма цыганкі варажылі,
Гаварылі штосьці пра віры;
Хвалі, як дзяцей малых, кружылі,
Закалыхваючы без пары.

А няма ні лодкі, ні парома,
Ні абломка слізкага вясла.
Толькі быстрыні адной вядома,
Куды столькі юных панясла.

Абдымалі хлопцы не русалак,
Абдымалі чорныя дубы.
Ты, вада, учора паласкала
Асаку ці шорсткія чубы?

Пераправы тыя бачыць будзем
Кожны раз у бляску грамавым.
Сціхні, навальніца! — не разбудзім
Тых, хто лёг пад ліўнем агнявым.

1963 г.

* * *

Байцам спявае рэквіем сасоннік,
Карэннем дол сплятаючы гусцей.
А я іх помню юнымі... І сёння
Па нейкіх рысках пазнаю дзяцей.

Малыя хлапчукі... Ды гэта ўнукі,
Сыны сыноў тых колішніх сяброў.
Ужо ў калене трэцім
вочы, рукі
І ў жылы перададзеная кроў.

Вітаю вас, пазнаных і падобных,
Без запаветаў гучных і прамоў.
Касмічны век на купінах балотных
Пакажа дапатопных
Журавоў.

Пад выраем вясною лёгка бегчы:
Мо чарадзейнае пяро ўпадзе?
Ракету некалі ў смузе-сінечы
Лягчэй пушынкі хтосьці павядзе.

Якую б даль пазнаць ні давялося,—
А ўсё ж навуку пройдзеце адну:
З драбнюткага зярнятка — ўсе калоссі,
І толькі плуг
узніме цаліну.

1963 г.

* * *

Пяць патронаў у абойме,
Пяць патронаў.
Падымаемся у бой мы
Ў полі роўным.

У патроне кожным — куля,
Дзевяць грамаў.
Не чакай, мая матуля,
Тэлеграмы.

Ні з санбата палявога,
Ні з пагоста.
Ходзіць ціха (бо дарога!..)
Наша пошта.

Цэлы месяц будзе везці
Праз краіну
Спавяшчэнне у канверце,
Быццам міну.

Цэлы месяц будзеш верыць,
Што жыву я,
Скажаш яблыням і вербам:
Ён ваюе...

1963 г.

* * *

Зямля
усё глыбей
вайну хавае,—
Ступіў касец, і — каска хруснула:
Тут затапіла зелень лугавая
Былы акоп — са дна
да бруствера.

1963 г.

## У СМУЗЕ АСЯДАЛІ ДУБРОВЫ...

Так стаміўся, прысесці ўжо нехаць,
Да парома ішоў тры гады,
Каб на бераг другі пераехаць,
Каб напіцца без дыму вады.

А дзяўчо — табунок белых вішняў,
Як гусей, падганяла рукой.
Для таго я, напэўна, і выжыў,
Каб сустрэцца з вясною такой.

У смузе асядалі дубровы,
Калыхаўся паром на рацэ.
Я запомніў і вусны, і бровы,
І галінку у тонкай руцэ.

1963 г.

* * *

Яшчэ не скончана дарога,
І хочаш думаць аб зямным.
Не пакідай мяне, трывога,
Будзь спадарожнікам маім.

Ты дай адчуць дыханне хмары,
З якою едзе градабой,
Пазнаць між радасных па твары
І тых,
хто з смуткам і журбой.

Каб без разліку і без платы
Падаць руку таму,
хто брат,
Бо незваротныя ёсць страты,
І сам я ў чымсьці вінават.

Былі б сягоння мы намнога
І прыгажэй,
і маладзей,
Каб паважалі больш, чым бога,
Для нас народжаных людзей.

Трымаю споведзь, не маленне,
Бо і сябе я не бярог.
І мой суддзя — маё сумленне
Прад даллю будучых дарог.

Не папрашу ў яго амністый,
Ні парушынкі не ўтаю,
Хачу абноўленай і чыстай
Аддаць людзям любоў сваю.

1963 г.

## ЦІШЫНЯ БРЭСЦКАЙ КРЭПАСЦІ

Замрыце перад гэтай цішынёй
І не трывожце тых, што сну не мелі.
Ў мурах, што сталі грудаю адной,
Магчыма, ўжо грымоты анямелі.

Б'е ў грудзі цішыня, як шквал агню,
Цяжкі абвал кладзе на плечы.
І ў сэрцы, не закутым у браню,
Я адчуваю боль нечалавечы.

Сустрэла каля брамы цішыня
Пяском улежаным, травой кароткай.
А бэз — як прывід белага каня,
Што ашалеў перад прамой наводкай.

1963 г.

## КОЛЕРЫ ГРАНІЦЫ

Два колеры — чырвоны і зялёны —
На пагранічных вартавых слупах.
Зялёны лес. Зялёныя пагоны.
Густы зялёны вецер на губах.
Зялёны сон зялёных краявідаў...
Ды толькі помняць на любой з застаў
І колер той, што Аляксандр Завідаў *
Па белым снезе з сэрца пакідаў.

1963 г.

---

* А. Завідаў — герой-пагранічнік. Загінуў зімой 1945 года ў баі з парушальнікамі нашай дзяржаўнай граніцы.

# АЛЁШКА

Хлопцы паднялі аленя —
Сірату ў дзень нараджэння.
З соскі малаком паілі
І Алёшкам ахрысцілі.
У Алёшкі, у Алёшкі
Няма шапкі — толькі рожкі.
Ля граніцы лесам, борам
След у след ідзе з дазорам.
Чарнатроп а ці парошка —
Службу ведае Алёшка.
Хлеба луста, цукру трошкі
Ёсць у хлопцаў для Алёшкі.
На заставу пад бярозку
Я прыйшоў наведаць цёзку.
Погляд у яго суровы:
«А чаму ты не вайсковы?»
І дае адчуць Алёшка,
Што ў яго — свая дарожка.

1963 г.

# НАД БУГАМ

А там, на левым беразе, палякі;
У свята цёткі ходзяць да радні.
Дарожныя пабеленыя знакі
Спыніліся ля чуткай глыбіні.

«Варшаўскі мост» вітаю, быццам друга,
З давер'ем падаю яму руку.
Плыве пад намі паўнаводдзе Буга,
Плыве граніца, што лягла ў раку.

Даўно з братамі хлеб і соль мы дзелім,
І вось вада — таксама папалам.
Спавіты берагі лазой і хмелем,
І тут было б не цесна паплаўкам

І добрым вудам. Ды не тым заняты
Дазоры ўсцяж маўклівых рубяжоў;
Два берагі — два на масту салдаты,
Каб хтось з-за Эльбы вудзіць не прыйшоў.

1963 г.

* * *

У вёсцы непрыкметнай дзве заставы:
Адна з баёў былых вядома ўсім,
І па суседству з ёю школа стала
Заставаю
ў сасонніку густым.

На ёй
Свае байцы і камандзіры,
Хоць зброя ў іх — пяро і карандаш;
Умеюць прачытаць слядоў пункціры,
Умеюць распазнаць, дзе след — не наш.

З маленства ведаюць мяжу дзяржавы,
З маленства — пагранічнікі усе;
Даюць сябрам сваім урок цікавы
Сержанты на кантрольнай паласе.

Сюды бягуць алені ад пагоні,
Сляды казуль сплятаюцца гусцей.

У вартавых зялёныя пагоны,
І палымнеюць гальштукі ў дзяцей.

Рабяты ў госці ходзяць да маёра,
Вітаюцца з бацькамі кожны дзень
І бачаць, як ля самага дазора
Скубе свой мох даверлівы алень.

1963 г.

# ЯБЛЫНІ НА ЗАСТАВЕ

Белыя, нібы нявесты,
Ціхія, нібы нявесты,
Яблыні ля вышкі вартавой.
І спяшае кожны бляск навесці
Перад тым, як стаць у строй.

Ну глядзіце, яблыні, глядзіце
На чубатых, статных, маладых,
На пагоны рукі пакладзіце,
Бо няма паблізу тых,

Што не вельмі часта шлюць пасланні
З хмельным пахам веснавых садоў
І скупяцца часам на прызнанні
Без пасрэднікаў-сватоў.

Дык няхай раўнуюць і бядуюць
З строгім кодэксам сваіх правоў:
Кожны трапяткую, маладую
Яблыню ў дазор павёў.

1963 г.

* * *

На граніцы паласу
Барануюць, нібы ў полі.
Ды ні жыта, ні аўсу
Тут не сеялі ніколі.

Козы ўціснуць капыткі,
Як абцасікі двайныя,
А двухногім знак такі:
Не вароты прахадныя!

Хтосьці след пакінуў свой,
Кожны цвік адбіт яскрава.
У трывозе баявой
І застава, і дзяржава.

Не, не пройдзе: к паласе
След прыбіт цвікамі тымі,
Не патоне у расе,
Не рассеецца у дыме.

Не, не пройдзе: выдасць хруст
Непрыкметнае галінкі,
Напярэймы ўстане куст,
Звяжуць па руках ялінкі.

З пагранічча я нясу
Строгасць, прагу абнаўлення.
Правяраю паласу
Свайго сэрца і сумлення.

1963 г.

* * *

І чаму не стаў я лесніком,
Лес мой, брат мой...
Быў бы я тваім замком
І тваёю брамай.

Ходзяць многія на твой парог
Па вясну, па радасць, па маліну.
Дрэва кожнае — маўклівы бог,
Што праклён прымае і малітву.

«Пад арэшынай — любімай быць,
Пад вярбінаю — ліць слёзы,
Пад рабінаю — чужых любіць,
Удавой застацца — лёс бярозы».

Гаварыла маці гэтак мне,
Калі сад скідаў ліству сырую.
Я глядзеў на дрэвы ў акне,
Я глядзеў на маці не старую.

І чаго журылася яна:
Можа, лісце тое шкадавала
Ці яе дзявочая вясна
Белаю вярбою ашукала?

Зноў дзяўчат з бярозамі сустрэў,—
Паняслі пад вокны паўдубровы...
Хтосьці ж з помстаю ідзе да дрэў
І сячэ без літасці на дровы.

1963 г.



Вятры мае,
Сябры мае!

Шуміце, вейце на ўсю сілу,
Каб толькі гул,
Каб толькі свіст;
Зрывайце шэрасць з небасхілу,
Змятайце з дрэў пажоўклы ліст,

Каб больш было ў вачах блакіту,
Каб насцеж свет — пад скразняком;
А я насустрач лавам выйду
Не флюгерам, не ветраком.

Няхай на катарзе бяссоннай
Былое мелюць ветракі,—
Хачу адчуць, як дышуць сёння
Скуластыя мацерыкі.

Па ўсіх,
Па ўсіх шляхах хадзілі
Са мной вы, добрыя вятры,
Раздзьмухваючы не кадзілы,
Не самавары, а кастры.

Кастроў і лісцяў калыханне,
Наплыў азёрнай сінявы...
Маё апошняе дыханне
З сабою панясіце вы,

Вятры мае,
Сябры мае!

1963 г.

## ІВАН-ЧАЙ

Вабіць незнаёмая дарога,
І сабе ты скажаш: прыкмячай.
А калі дарог на свеце многа,
Друг мой, Іван-чай?
Ды тваіх, смаленскіх, не забуду
У снягах, дажджах і сіняве.
Тройчы адбівалі вёску Буду,
Тройчы паміралі за яе.
А пад Будай — хлопцы пахаваны,
А пад Будай — многія сябры.
Аляксеі, Віктары, Іваны...
Гліна коўзкая. Падзол сыры.
Узышлі травой і гарыцветам,
Узышлі на радасць ці жальбу?
Вунь Іван стаіць па-над кюветам,
Галавой ківае: «Вось жыву.
Не здзіўляйцеся, што ўвесь чырвоны;
Восем куль было — крывёю сцёк.
Скора восень. Каркаюць вароны.
Жоўты каля ног маіх лісток.
Хочаш — пачастую нашым чаем,
Я ж цяпер навекі вадахлёб».
Не, Іване, з чаем — пачакаем,
Закурыць не лішне нам было б.
Мы цыгарку скруцім па-быламу,
Пусцім шызы дым на правады.
Першая зацяжка — мне, жывому,
Бо занадта ў сэрцы гаркаты.
. . . . . . . . . . . . . . . .
Чырвань, чырвань, колер праваты...

1964 г.

* * *

У акне маім пятнаццаць зорак
Юных, веснавых.
Ім яшчэ не скора будзе сорак,
Век дзявочы ў іх.
Не адно адыдзе пакаленне, —
Зоркі тыя ж будуць у акне.
І якое можна суцяшэнне
У паўночны час прыдумаць мне?
Дарагое, светлае прыпомню,
Дні пражытыя перабяру —
Дзень за днём — і з кожнага па промню,
З кожнага па промню сабяру.
У аконным сцішаным квадраце
Падыму бяссоннае святло.
Паспрабуйце, зоркі, адгадайце,
Сонца ці жыццё маё ўзышло?
Гэтых дум не ведаць вам, суседкі,
Як не ведаць ісціны такой,
Што люблю ваду, дубы і кветкі,
Цёплую пушынку пад рукой;
Даражу давер'ем і сяброўствам
Светлабровай зорачкі зямной;
Непрыкметная, ва ўборы простым
Праз трывогі ўсе ідзе са мной.
Да сустрэчы, зоркі, да спаткання,
У акно б'юць ластаўкі мае.
Белае высокае світанне
Ў яснасці цвярозай паўстае.

1964 г.

* * *

Дала мне маці гэту мову,
Каб не нямым прыйшоў у свет,
Дала мне маці гэту мову
Як спадчыну і запавет.

Была яна не белаdensручкай
І на жніве і на сяўбе;
На глебе добрай беларускай
Здабыты словы ўсе яе.

Прапахлі сонцам і падзолам,
Дажджамі, сокамі раслін,
Пад знак рукам яе мазольным,
Што мелі толькі ў сне спачын.

Дачка мая! Ў жыццёвай прозе
У буднях і святочным днём
Не пакідай яе ў парозе,
Калі у нечы ўвойдзеш дом.

1964 г.

* * *

Пярэдні край. Чужы. Неразгаданы.
Пярэдні край, як полюс мерзлаты.
На бледны снег ляглі мерыдыяны,
Армейскія прамыя правады.

У іх — франтоў няроўнае дыханне,
Бяссонных камандармаў галасы,
Імклівасць слова, што на золку стане
Дыханнем ураганнай паласы.

Нябёсам горача... У наступленні
Вясна і мы — ў калонах штурмавых.
На даляглядзе ўздыбленыя цені
Ўчарашніх катаў — мёртвых і жывых...

Снег раставаў. Звінелі ў небе птушкі,
І зелянеў абпалены дзірван.
І сувязіст з напоўненай катушкі
Надтачваў на хаду мерыдыян.

1964 г.

## ЦЕНЬ МАТЫЛЬКА

З-пад самых рук,
З-пад самых рук
Узняўся,
паляцеў
Жаўрук.

З-пад купіны,
Дзе чабарок,
За нітку
пацягнуў
Званок.

Званок у лузе
Коціцца,
Схапіць
званочак
Хочацца.

То не званок,
То не званок —
Трапеча
сіні
Матылёк.

Вось апусцілася
Рука,
Ды — толькі цень
Ад матылька.

Бяжыць дзяўчынка
Наўздагон

І ловіць
          цень —
Знікае ён.

Ты не сумуй, мая дачка,—
Рамонкі свецяцца тває;
Хай толькі ценю матылька
Табе для шчасця не стае.

1964 г.

## РАБЕРЦІНА ЛАРЭЦІ

Над шарам зямным,
Над шарамі антонавак
Па арбітах раскалыханых
Плылі спадарожнікі.
Чуліся нам галасочкі тоненькія,
Быццам з калысак дзіцячых.

Немаўляты скідалі пялёнкі,
Прарэзвалася юная песня,
Падрастала яна
І мацнела.

Маці-планета войкнула,—
Што нарабіла?
Маці-планету палохае
Уласнае дзіва.
Боязна ёй становіцца:
Так звонка спявае хлапчук італьянскі,
Што могуць атамныя бомбы
Ўзарвацца ад дэтанацыі.

1964 г.

7 Зак. 117

* * *

Калі зара на досвітку залоціць
Бярэзнік голы, ельніку асцё,
У сто цапоў цецерукі малоцяць,—
І абуджаецца жывое ўсё.

Прачнецца кропля, што была ільдзінкай,
І варухнецца: зімавала дзе?
І развітаецца з сваёй галінкай,
І без аглядкі з дрэва ўпадзе.

Зляжалы снег і лёд ёй паддадуцца,
І праз мінулагоднія лісты
Падземныя крыніцы адзавуцца
І паварушаць мёрзлыя пласты.

1964 г.

* * *

Калі рачулкі абмялеюць
(Дасць спёка стопрацэнтны план),
Калі густыя травы млеюць
І луг — суцэльны дурнап'ян,

Тады ў бязлесіцы турбота —
З-пад лугу ўзяць даспелы торф.
Дзяўчаты зранку на балота
Ідуць, як на святочны торг.

Замест нейлонавых пальчатак —
Па локці
устойлівы загар.
Буслы адмерваюць участак,
Для самых смелых — хоць гектар.

Алешыны перамясілі
Пялёсткі траў і лісце дрэў.
А горача так на масіве,
Што ў поўдзень нават цень згарэў.

Высакавольтная спякота
Б'е ў скроні, бы электраток.
Ці ёсць там дзе на дне балота
Вады глыток?

1964 г.

## ЖУРАЎЛІНЫЯ ТРУБЫ

Нялёгка даўся — не вярнуць адсталых —
Скразны кантынентальны пералёт.
Наклон вітальны — купінам адталым
І журавінам, што не ўмёрзлі ў лёд.

Нізоўе ў ельніку — палацам шлюбным,
Вясна дурманіць — подых лабавы.
Спяваць хрыпатым жураўліным трубам
На карнавале баравой любві.

І пачынаюцца на ўлоннях скокі —
Курлыканне, стамлёных крылаў змрок.
Панёсся нецярплівы птах высокі,
Усё шырэй, шырэй з падскокам крок.

На цэлым свеце ён адзін нібыта,
А хіба з гэтым зміры́цца другі?
Сыходзяцца сустрэчныя арбіты
І раздаюцца ўшыр кругі, кругі...

1964 г.

* * *

У тралейбусаў кароткі сон,
У тралейбусаў і ў свята — будзень.
Не будзільнікаў пажарны звон
Іх на золку будзіць.

Самі, як будзільнікі, яны —
Белыя,
з абводкай сіняю.
Чутна з-за любой глухой сцяны —
Выйшлі ўжо на лінію.

Падымайцеся хутчэй, хто спіць,
Падымайся, мой сусед цыбаты,
Бо тралейбус можа наступіць
Коламі на пяты.

Дзеўчына размотвае рулон,
Прадае шчаслівыя білеты:
Інстытут,
Завод,
Мікрараён —
За капеечкі-манеты.

А ў вачах дзявочых цэлы свет:
Маладосць,
Краса,
Любоў, што не старэе.
Выдай, чарадзейка, мне білет
З гэтай латарэі...

1964 г.

* * *

*Міколу Айрамчыку*

Я ў Плёсах быў. Там клуб двухпавярховы
На востраве зялёным, як маяк.
Сказалі мне, што водпуск свой чарговы
На мілі ў моры разменяў зямляк.

Калісь вясёлым прыязджаў студэнтам,
Спяшаўся ў сад, нібы у літгурток.
І наліваўся сонцам, звонам летнім,
Як яблыка, крамяны твой радок.

Ляцелі жураўлі ад цёплых плёсаў,
Раняючы то крыкі, то пяро.
Агонь на крылы маладыя плёснуў
І выпаліў нязмыўнае таўро.

А лепей не трывожыць успаміны,
На ўсё жыццё ў нас кожны імі сыт.
Дзяўчаты рэжуць чорныя цагліны
З адлівам шызым, быццам антрацыт.

Над поплавам, над штабялямі тымі
Звіняць праменні: сонца ці чмялі?
А можа, дзесьці ў дальняй Варатыні
Даіць кароў даяркі пачалі.

Дуб лугавы. Сланечнік з лісцем шорсткім.
І ластаўка з-пад матчынай страхі.
Ты парадніў іх з лямпачкай шахцёрскай,
Каб больш святла упала на шляхі.

1964 г.

* * *

Не прадавалі ў нас ніколі
Рамонкі з белых паплавоў
І не трымалі у няволі
Пяюх з Канарскіх астравоў.

Навошта кенары? Ў Дуброве
На кожным дрэве — салавей;
Прыйдзі і слухай на здароўе,
Ад шчасця хоць асалавей.

І крыўдна мне, калі букеты
Хтось носіць на кірмашны рад,
З пялёсткаў круглыя манеты
Чаканіць і — бясконца рад.

Мы упляталі ружы ў аркі
Насустрач сонцу і дажджу.
На кветкі, што ў руках гандляркі,
Як на нявольнікаў, гляджу.

Відаць мне між платоў закутак,
Дзе нават чмель не праляціць,
Дзе тужаць вочы незабудак:
Хто мог бы выкуп заплаціць?

1964 г.

* * *

Танцуюць недарэмна ўсё ж ад печы!
Пячнік свяшчэннадзейнічаў, як бог;
Адзін ён ведаў, дзе цагліне легчы,
Падводзіў шнур, ён лінію бярог.
Тут дым уедлівы ўніз не пакоціць,
А полымя уздыбіцца, як конь,
Заржэ пад комінам. І так выходзіць —
Ну, быццам сам ён выдумаў агонь.
Святая цішыня у новым доме,
І ўжо затойваюць дыханне ўсе,
Калі агонь на яравой саломе
Вясковы чарадзей у печ нясе.
Як ззяе печ! Пад фарбамі густымі
Яшчэ мы рэч не ўбачылі адну.
О, гэта падарунак гаспадыні —
Люстэрка, ўмураванае ў сцяну.
Між самых пільных спраў яно падкажа:
Ты паглядзі на бровы і загар,
Каб не лягла зняважлівая сажа,
Каб без хмурынкі быў вясёлы твар.

1964 г.

* * *

У лузе скошаным плыве дуга,
У лузе скошаным рыпіць смуга.

Над поймай ціхай, дзе трысцё ў лазе,
Стаіць бусліха на адной назе.

Жабулька скокнула пад куст вярбы,
У лісце сохлае, дзе цень рабы.

Ад корня явару цямнее плёс,
Зжаўцелы ліст альховы трэ алёс,—

Закурыць у вячэрняй сіняве,
І белы дым над лугам паплыве.

1964 г.

* * *

І чаму не ў пашане асіна?
Асіна — без гнёздаў асіных,
Асіна — без пыхі яловай,
Без абмежаванасці дубовай,
Без хітрай сукаватасці,
Без лішняй сухаватасці,
Без ліпавай паказухі,
Яна — як дзеўка-векавуха.
Ногі ў яе каравыя,
Вусны ў яе гаркавыя.
Кажуць, нейкай часінай чорнай
Саграшыла асіна з чортам.
І суджана ёй праклёнам
Гарэць на агні павольным.
Трапеча яна ў чаканні
Непазбежнага пакарання,
Кожным лісточкам дробным
Б'ецца і ў спёку ў азнобе,—
Вятрамі абсвістаная,
Нерэабілітаваная.

1964 г.

## БАРКАЛАБАЎСКІЯ САЛАЎІ

«Цячэ рэчанька,
Цячэ быстрая,
Скочу — пераскочу.
Аддай мяне, мая мамачка,
За каго я хочу».

Красуня белазубая
Йдзе да сваёй ракі,
Нялюбаму ці любаму
Ў ёй мые ручнікі?

Ля чорнай кладкі плавала
Гусінае пяро.
Дзяўчыну з Баркалабава
Павезлі за Дняпро.

Палонам ёй і згубаю
Той род чужы і дом:
Лепш кукаваць зязюляю
Ў матулі пад акном.

«Борам ляцела —
Сучча ламала
Шызымі крыламі,
Полем ляцела —
Поле драбіла
Дробнымі слязамі».

І, мусіць, старарэчышча —
Улонне гэтых слёз.
Вядуць бабулі «Рэчаньку» —
Пра свой жаночы лёс.

А ўнучкі самападзейныя
Іх песню не бяруць;
Салісткі самадзейныя
Пра Ангару пяюць.

Над крапівой пякотнаю,
З якой хоць пугі ві,
Рулады дапатопныя
Ўсё круцяць салаўі.

Пласцінка даўгавечная,
Адзін і той жа бок:
Цыган, цыган вечарам
Сала пёк, пёк, пёк...

Не цыгана — вярбоўшчыка б
Дзяўчатам
з Ангары,—
Пад зеленню вярбоваю
Ўздыхаюць да зары.

Будзь, рэчанька, раўніваю,
Не помсці ты, а ўсё ж
Паджгай, паджгай крапіваю,
Як выйдуць басанож.

1964 г.

* * *

Чагосьці ў вёсцы роднай не знаходзіш,
Хоць прымірыўся з стратай не адной.
Ага, вось тут засыпаны калодзеж,
Што хваляваў трывожнай глыбінёй.

Ён слухаў споведзь самай ціхай жонкі,
Хаваў сузор'е днём на глухім дне.
На белых зорах выраслі рамонкі,
Вясною кожны топча іх і мне.

Відаць, калодзеж хтосьці апаганіў
І людзі адракліся наўсягды,
Засыпалі зямлёю без ваганняў,
Каб больш ніхто не піў з яго вады.

Нялёгкая работа земляная:
Праз сто пластоў далонь падаць вадзе...
Вас, землякі, я вельмі добра знаю,
Вы шчодрыя і цвёрдыя ў бядзе.

Нічога вы гатовага не бралі,
Ўсё здабывалі ўласным мазалём;
Але яшчэ ніколі не трымалі
Ваду
        і ўсё святое
                        пад замком.

1964 г.

## ДА ПАРТРЭТА ЯНКІ КУПАЛЫ

Між самых крэўных, самых блізкіх
Яго партрэт, знаёмы ўсім.
І дзеці з самае калыскі
Паэта прызнаюць сваім.

Такім і быў ён... Задуменны,
Даступны і негаваркі;
Ўвайшоў у дом, у круг сямейны,
Як уваходзяць сваякі.

1964 г.

* * *

Гул вакзалаў у шкляным блакіце,
Бесканечнасць рэск пазнаю.
Паязды начныя, пакажыце
Станцыю маленькую маю...

Кружыцца бяроз густое кола
З дымам, з грукатам углыбіні.
Ў густаце ляснога частакола
Гулкія праносяцца агні.

І мяне рыкастаю вясною
Падхапіла з сцежкай карусель.
Тысяча зямель перада мною,
І за мною тысяча зямель.

Разумею са сваёй аглядкі
На дажджы, на дрэвы пад дажджом:
Шмат гадоў забралі перасадкі
З нейкім непатрэбным багажом.

Зноў бы мне туды, дзе восень паліць
Успамінаў жоўты лістапад.
Грэюцца ў тваіх кішэнях, памяць,
Дзве далоні, што глядзяць назад.

Аж да белых зор чагось чакаю,
Аж да белых зор кагось малю...
Пад шчакой, здаецца, адчуваю
Станцыю маленькую маю.

1964

* * *

Праз шчыліны
Уздыбленай панелі
Прабіліся
Галоўкі клёнаў залатых.
Відаць, было нялёгка ім
Падняць па-над сабой пліту асфальту
І ўсе сляды,
Што кожны тут пакінуў,
Калі ступаў у роздуме павольна
Або спяшаўся на спатканне так,
Што мог Зямлі парушыць раўнавагу.
Яшчэ падняць ім давялося
І цені хмар густых,
Пялёсткі растаптаныя,
Чыесьці слёзы
І ўсё, што на пліту лягло.

1964 г.

* * *

На волатаўскі луг прыходзь не вялым,
Каб звонкіх рос вятры не ўкралі,
Каб травы кладіся дзевятым валам,
Каб сталь і мускулыігралі.

Не грэх спіну гнуць нізка на аблонях
І загарэць, як афрыканец.
Затое — ўся крыніца у далонях
З крамянай ядранасцю раніц.

1964 г.

# ЗНАЁМСТВА З МОРАМ

Даўно-даўно гукалі птушкі белыя
Да ўспененай вады.
Плылі над лесам хмаркі недаспелыя
Туды, туды...

Пад вербамі мая рачулка плёскала,
Калышучы гусіны рэдкі пух.
Было ў спякоту дно — з глухога попелу,
Нібы агонь у берагах патух.

Згарэлі рыбы ўсе з падводным воблакам,
Абвуглены спляценні каранёў.
Дажджам асеннім давядзецца волакам
Цягнуць на мель і плёс, і акунёў...

Ды вось вада, як полымя, высокая,—
Ёй вечна ракатаць, свяціць, звінець.
І ўспомняцца рачулкі перасохлыя,
Што навучылі мора зразумець.

1964 г.

* * *

Свяцілася зялёнае акно,
І трапяталі цені пад ліствой.
Я слухаў штось забытае даўно,
Што ажывала ў музыцы тваёй.

Мажорна гукі пругкія плылі,
Як лава сінявы пасля грымот,
Пасля дажджу... Ў мелодыі былі
І высь і даль, жыцця кругаварот.

Сябе я зноў убачыў юнаком,
Упэўненым, што вельмі шчодры свет;
Рабіна даспявае над стаўком,
І — шлях прамы да сэрцаў і планет,

І ёсць любімая з святлом акон,
І з ёю пойдзеш хоць на край зямлі,
І гэты край — не цесны мой акоп
(Тады акоп мы бачыць не маглі)...

Замкнуліся глыбокія пласты
Над пройдзеным. І ведаю адно —
Што шчодры свет. Ёсць музыка і ты,
І ёсць тваё зялёнае акно.

1964 г.

## ДОМСКІ АРГАН

Расступаецца насцеж пад вечар
Старадаўні гатычны сабор.
І ўрываюцца мора і вецер,
Б'е галінамі пругкімі бор.

Гэта грае прыбой ракатлівы,
Гэта буру ўзнімае арган.
І звіняць пералівы, прылівы,
Сум і радасць нясуць берагам.

Абыдзённасць губляе уладу,
І — няма нейкіх дробных турбот;
Чуеш вечнасці гулкай баладу,
Дум няздзейсненых чуеш палёт.

Хай трывогі шчымлівыя спеюць,
Хай над летам рыдаюць бары...
Толькі ж вочы заўсёды яснеюць,
Калі іх абмываюць вятры.

1964 г.

* * *

Зямля Лачплесіса. Зямля рыбацкіх ніў.
Вадою, дзюнамі і небам грэйся!
Ды нас не пляж курортны парадніў;
Здаўна тут ведаюць мяне,
Балткрэўса.

Імя кранае, свеціць, як бурштын,
І ўдзячны пералівістаму слову.
Зямное, крэўнае знаходжу ў тым,
Што вызначае корань і аснову.

Філолагам вядома сутнасць слоў
І залежы ўсіх моўных анамалій.
А я зноў бачу глыбіню пластоў,
Што мы лапатай і штыком ламалі.

Зноў бачу твары тых, хто пад зямлёй
З адным пытаннем вечным — без адказу;
Не скажаш ім,
куды пайшлі зімой
І дзе абмыў вясновы лівень каску.

І — бачу дзень. Блакіт, як сінь акон.
Балотна-мінны пояс Ліепаі.
Рабаўнікі здаваліся ў палон,
Гадзіннікі і компасы збывалі.

Ў кюветы пад ахову хітрых мін,
Пад дрот калючы, ў хмызнякі густыя...
Праз дваццаць год стаю ля каляін:
Стракочуць конікі ці стрэлкі тыя?

Праз дваццаць год, за дваццаць год
Адзіны тыдзень выбраў я — пагрэцца
Ля вогнішчаў былых, ля пенных вод...
А памяць незабытым плешча ў сэрца.

1964 г.

* * *

Прывітанне тваім каравелам,
Што гайдае на хвалі вада.
І на правым баку і на левым
Каравел, каравел чарада.

І — з такім нетрывожным спакоем,
Бы пад імі няма глыбіні.
І так лёгка ляглі над прыбоем,
Узляцяць — толькі хусткай махні.

Што кажу! Гэта чайкі прыселі
З першым промнем на грэбень вады.
А сама ты, напэўна, ў пасцелі,
Маладая, сніш сон малады.

Зноў не тое, і словы не тыя,
Мора ўсё перайначыць змагло.
Што ж, паверым, што мы маладыя
І між намі яшчэ не лягло

Многіх год. І жыццё мы спачатку
Пачынаем — рука ля рукі,
Ўпершыню бачым першую чайку
І сцюдзёны прыбой гаваркі.

1964 г.

* * *

На схіле дня святла яшчэ даволі,
Вільготны цень кладзе дубоў сям'я.
О, як патрэбны мне твае далоні,
Любоў мая.

Калі стамлюся некалі праз меру,
Адчуць бы мне падтрымку рук тваіх;
І я ў прыліў магутных сіл паверу,
Бо мы ўдваіх.

Прыкмеціш, што ўскіпаю недарэчы
І слова крыўднае сказаць хачу,—
Ты апусці далоні мне на плечы,
І я змаўчу.

Дубы на позні дол ссыпаюць лісце,
І ў кожнага зямны кароткі век.
Ў мой лістапад няшумны дакраніся
Маіх павек.

І я адчую, ўбачу, невідушчы,
Далонямі тваімі ўбачу я
Ў палёце ластаўку, рабіну ў пушчы,
Любоў мая.

1964 г.



О сэрца адчувальнейшая памяць,
Ты захавай да рысачкі адной
Любімы вобраз ад вятроў, што паляць,
Ад ліўняў, што высушваюць вадой.

У вочы паглядзім мы недарэмна
(Пад іхнім позіркам усё жыццё),
І хараство былое узаемна
Праявіцца праз наша пачуццё.

1964 г.

* * *

Звіні, прыбой, і ў грудзі бі,
Напоўні свежасцю сцюдзёнай
І адчуваннем глыбіні
І непаўторнасці штодзённай.

1964 г.

* * *

Бывай, прыморскі светлы гарадок!
Агні ў вадзе, як радавалі нас вы;
Яшчэ мы пройдземся з кутка ў куток
І ўспомнім вуліцы, запомнім назвы.
Запомнім? Не, прыдумаем свае,
Такія, каб аб многім гаварылі.
Хай кожны раз паўстане, ажыве
Усё, што мне са шчодрасцю дарылі.
Маё тут сэрца білася часцей,
Адчуўшы гул і радасць напаўнення;
Я ў чымсьці стаў чысцей і багацей
І памаладзеў імкненнямі напэўна.
Адсюль дарога не адна вядзе,
У небе — самалёты, ў моры — судны...
Пераліваюцца агні ў вадзе,
Перад вачмі яны, і — недаступны.

1964 г.

* * *

Напэўна, буду сумаваць па Латвіі.
Янтарны край, любіць цябе дазволь!
А нашы мовы ўжо даўно паладзілі,
І зразумела ўсё, як хлеб і соль.

Уступ аб дружбе прагучыць банальна
Перад пачуццем, што не ацаніць.
У прадаўшчыц вітальна-развітальна
Грудное слова paldies * звініць.

Калісь прыйшоў не госцем, а салдатам
Я да цябе, латвійская зямля.
Ды невядома шмат чаго дзяўчатам,
Што нарадзіліся на свет пасля.

Магчыма, кнігу я не прачытаю,
Магчыма, песню вашу не спяю,
Але стаіць падзяка прад вачамі
Дзяўчынай з круглымі вачамі,
І ў чымсь віну сваю
Я прызнаю.

І паўтару не раз, як пажаданне:
Давай людзям і дзякуй ім кажы!
Таму і веру ў новае спатканне,
Вам paldies за шчодрасць, латышы.

1964 г.

---

* Paldies *(латышскае)* — дзякуй.

* * *

Асенні лес, асенні лес,
Густых рабін бяздомнае святло.
Усё вышэй па дрэву дзяцел лез,
А больш нікога ў лесе не было.

Чаго ж, чаго прыходзіў я сюды,
Пад звонкі ліст, пад хвойны сіні дым,
Шукаў чые нябачныя сляды
І думаў аб усім і аб адным?..

Шчыльней лісты кладуцца на зямлю,
Дарогу сцелюць будучай вясне.
Сказаў бы дзятлу, як цябе люблю.
Сказаў бы дзятлу, як нялёгка мне.

Ды ён, адзіны субяседнік мой,
Выстуквае, выслухвае свой бор;
Тут столькі дрэў са скрухаю нямой,
Што лішнім здаўся б нейкі мой дакор.

1964 г.

# СЦЯГ

Тугое дрэўка на плячы,
Працяг жыцця ў руках.
Звіні, мой сцяг, і трапячы
У праменнях і вятрах.
Мой сцяг вышэй усіх няўдач,
Вышэй усіх няпраўд.
Я сам загорнуты ў кумач
Ад галавы да пят.
Паверкі
кулямі
былі,
І бачыў я тады:
Густою чырванню цвілі
На мне
мае
бінты.
Ты будзеш неўміручы, сцяг,
Бо мы цябе нясём
У сваёй крыві, ў сваіх касцях
Перадаём — з жыццём.

1965 г.

* * *

Я веру, быццам сваякам:
Дарозе — цётцы гаманлівай,
Дубам — задумлівым дзядзькам,
Пчале над белаю галінай.

Пчалу праводжу ў далягляд,
Ледзь заўважаю след пявучы.
Нясе пчала свой мёд і яд
І мудраму чамусьці вучыць.

Не ўсё яшчэ вядома мне,
Не ўсё вядомае адкрыта.
Хтось бачыць музыку ў сасне,
А хтосьці — новае карыта.

Не веру ўяўнай вышыні,
Што змерана сляпым аршынам.
Пайшлі ў густых вяснушках дні,
Пайшлі абозам мурашыным.

Вясна лавінаю святла
Змывае цені ад парога;
Вясна гукнула, павяла,
І адгукнулася дарога.

Бы ўпершыню гляджу на свет,
Бы назаўсёды пакідаю;
Вясну вітаю,
Абдымаю
Ў цішы пялёсткаў і ракет.

1965 г.



Птушыныя гнёзды пад снегам заснулі,
Дрымотную пражу завеі прадуць.
А хочаш — зімой закукуюць зязюлі,
Мядовыя росы на дол упадуць.

Я сам пажадаў сёння гэткага раю.
На беразе казкі зімовай стаю;
Прыгожае імя тваё паўтараю,
Насустрач любоў выклікаю тваю.

Дыханнем качу тваё імя па снезе,
Качу, нібы сонца, па белых лясах;
І падымаюць галовы мядзведзі,
Што спалі ў мядова-малінавых снах.

Дыхніце, мядзведзі, на просінь, што свеціцца;
Замёрзлае неба ужо адтае,
Ступае Вялікая ваша Мядзведзіца
У светлы маліннік на сцежкі свае.

Чаго не стае нам? Звычайнай зязюлі.
Звычайнай зязюлі? Наш свет не збяднеў:
Я выпушчу зараз яе з-пад кашулі —
Гукай, мая птушка, ў сутоенасць дрэў.

1965 г.



Над полем, над стаўком крапіўным,
Палоззе выгнуўшы ў бары,
Прайшліся з свістам рэактыўным
Паўночна-ўсходнія вятры.
І пабялела, што чарнела,
І ўсё няроўнае — раўней,
І ўсё прыціхла, анямела,
Што непакоіла раней.
Не абдае гразёю лужа —
Разбітых каляін журба.
Нібы вясной, бялее груша,
І стала грушаю вярба.

1965 г.



На лугах зіма туманы сушыць,
Ў садзе злёт паўночных снегіроў.
Над пагостам чорны воран кружыць,
Той, што помніць трох багатыроў.
Першабытны іней. Снег няталы.
Ў белых правадах стаіўся час;
Быццам людзі ў космас не ляталі,
Быццам сам іду у першы клас...
Вось вярнуся з школы. Без абеда
Пабягу да птушак пад абрыў.
Кружыць воран — папрашу суседа,
Каб з бярданкі ворана забіў.

1965 г.

## ВАРАЖСКАЯ БАЛАДА

Паўночныя воблакі ў леце,
Свіст рыжых разбойных вятроў.
Пад ворсам мурожнага ўзлесся
Падземнае царства кратоў.

Мы — босае племя падпаскаў —
Рабілі ў тым царстве падкоп
І ставілі чуйныя пасткі
Ў хадах першабытных эпох.

Пушніну з-пад дрэў здабывалі,
З-пад быстрых звярыных слядоў.
А неба звінела дубамі
І сыпала медзь жалудоў.

Хоць футры — без іскры пясцовай,
Па звонкасці — не сабалі,
Мы з гэтай валютай мясцовай
З варагаў у грэкі плылі.

1965 г.

* * *

У дубах салаўі адсвісталі,
Адзвінеў над плугамі жаўрук.
Я гляджу у сцюдзёныя далі —
Сорак выраяў выпусціў з рук.

Сорак тых саракоў белапёрых,
Што адчуць мне далі вышыню.
І не ведаю — сонца ці порах
Апалілі мяне ўпершыню.

А ні сёння, ні ў часе наступным
Не шкадую, што стрэўся з агнём.
Мы дарогу крылатым уступім,
Па-сяброўску рукою махнём.

1965 г.

* * *

Куды спяшаюцца дажджоў калоны,
Не зведаўшы дарог і пераправ?
Даўно ўжо сціхнуў гром — трубач натхнёны,
Што ўсім жывым і мёртвым збор іграў.

Тады зрываліся з карэннем дрэвы,
Каціліся са схілаў валуны,
Рачулкі пасмялеўшыя дурэлі
І дзікім мёдам пахлі палыны.

І ты прыйшла —
з маланкамі і ліўнем,
З вільготнай глыбінёй смяшлівых воч.
І, можа, для таго, каб быў шчаслівым,
Сляпіла ўсіх рабінавая ноч.

Мільярды вольт палалі і свяцілі,
Свяцілі і грымелі капяжы...
Прыгнуўшыся, ідуць пад небасхілы
Асеннія маўклівыя дажджы.

І я прымкну да іхняе калоны,
Кароткаму даверыўшыся дню;
І зноў ступлю на бераг той салёны,
Твае сляды на дзюнах даганю.

1965 г.

* * *

Навошта нам гарлачыкі былі,
Асеннія бясплодныя лілеі?
А мы на бераг малады плылі,
Ад радасці святлелі і смялелі.
Вада глушыла сэрцаў перастук,
Кругамі замыкала аддаленне.
Была вада, усплёскі, дотык рук,
Лілей зялёна-белае сплячэнне.
Ля берага ў дрыготкім лазняку
Раскалыханая цямнела кладка.
Маглі б мы лёгка пераплыць раку,
Але чакала кладка — як аглядка.

1965 г.

* * *

Мы верылі ў жалезныя масты,
А ноччу развялі масты.
Два берагі паўночнай нематы,
На левым я, на правым ты.

Не працягнуць насустрач мне рукі
І не адчуць тваёй рукі.
Ідзе высокі гул і стогн ракі,
Калыша зоры і вякі.

Я бачыў дно ўскіпелых пераправ,
Знікненне армій і дзяржаў.
Магчыма, я адну цябе шукаў,
Гукаў з жывых лясоў і траў.

Агні чытаю на нябачным дне:
Калона караблёў міне,
Жалезныя далоні мост самкне,
І зноў падыдзеш ты ка мне

І скажаш: толькі усяе бяды,
Спалохаўся начной вады.
Не ведаю, ці разумееш ты,—
Разводзіць час свае масты.

1965 г.

* * *

Адцвітае і нямее мова,
Што калісьці нас з табой звяла.
Не парушыць позняя размова
Ўстойлівасць драўлянага стала.

Стол драўляны, стол чацвераногі,
Я табе не раб, не гаспадар,
За тваім парогам ёсць дарогі,
А над імі зорны каляндар.

Я хачу, каб праляталі суткі
З іскраметнай хуткасцю свяціл,
Каб лугоў стаптаных незабудкі
Зоркамі ўпляліся ў небасхіл.

Я вялікаму заўсёды верыў,
Бачыў лепшае, чым бачыць мог,
Нават там, дзе лёс жалезам мераў
Тры аршыны ўзбоч маіх дарог.

Я шукаў не зваблівую кветку,
А таго таварыша, з якім
Без аглядкі ходзяць у разведку,
Дышуць, грэюцца дымком адным.

1965 г.

* * *

Прырода — скульптар.
Вечна лепіць,
Не даспадобы, ўсё не так,
Пад ногі кіне, зноў замесіць
І возьме месіва ў кулак.
Даўно пад ёю бесканечнасць,
Але шэдэўраў тых —
Няма.
І часам гэткае скамечыць,
Што потым журыцца сама.

1965 г.

* * *

Помняцца барозны і світанні,
Гліна і пясок ля асакі.
Хтосьці з нас жыве на ўзносах даўніх,
Падбірае з поля каласкі.

Ды пакуль аддаць нямое цела
І на ўсё глядзець ужо здаля,—
Трэба зразумець, чаго хацела
І чакала добрая зямля;

Трэба зразумець яе трывогу,
Прачытаць хмурынкі, што ляглі...
Узнімайце цвёрдую аблогу,
Дзён астатніх цяжкія плугі!

1965 г.

* * *

Так цяжка адрываўся самалёт,
З натугі
ледзь не плакалі матары.
Стаяла ты ў натоўпе ля варот
Ў сваім будзённым, просценькім уборы.

Шапталі штось нябесныя вінты,
Але зямля,
зямля не адпускала
Наш белы карабель з свайго прычала,
Не адпускала нас зямля
і — ты.

Я адчуваў бязмернасць прыцягнення
Тваёй усмешкі, вуснаў і павек.
Вось халадок узлётнага імгнення
Пад самым сэрцам...
і наўзбоч пабег

Аэрапорт.
Хіснуліся люстэркі
Луж дажджавых.
Бывай, віхор зямны!
Мне сцюардэса падала цукеркі,

Тваёю мятай веялі яны.
Раскалыханая, плыла зямля,
Зямля гукала ўсімі галасамі.
І ты,
планета светлая мая,
Ужо за тымі сінімі лясамі.

1965 г.

* * *

Вячэрні сад. Над лісцем сонным
Плыло высокае акно.
Святлом бярозавым, зялёным
Мяне так вабіла яно.
Абрыўкі галасоў нябачных...
І сціхла ўсё. Адтуль у сад
Вясёлы юны барабаншчык
Выводзіў з песняй свой атрад.
З дарогі саступалі цені,
Святлелі сілуэты дрэў.
І доўга чуў я ў аддаленні
Непагасаючы напеў.
Густая медзь з галін сцякае.
Спакой садам. Спакой барам.
У сэрцы пошчак не змаўкае,
Грыміць трывожны барабан.

1965 г.

* * *

Ад бяды — да салёнай вады,
Ад салёнай — да воблачнай пены
Самалёты і паязды
Прасвятлелі наскрозь, як рэнтгены.

І прапісана мне цішыня,
Сталы роздум нясу замест леку.
Адчуваю на выкаце дня
Зябкі подых наступнага веку.

Сонца першымі ўбачаць гара
І пастух, што ўзнімаецца з статкам.
Я хацеў бы, нібы ля кастра,
Пастаяць перад новым пачаткам.

1965 г.

* * *

Перада мной лясны абрыў,
Сухога лістападу вогнішчы.
Відаць, не сёння я забыў
Чыесьці адрасы і прозвішчы.

Мае далёкія франты.
Мае палкі. Мае дывізіі.
Не помню ўжо сержантаў тых,
Што пасвячалі ў віцязі,
Не помню рук, што з поля бою ў тыл
На плашч-палатцы вывезлі.

Мая няюная радня
Зямным трывогам падначалена.
Магчыма, не сустрэну я,
Не абдыму аднапалчаніна.

А часам падае руку
З нявіннасцю сяброўскай місіі
Прадажнік той, што на вяку
Ў мяне не вымаліць амністыі:
Між ім і мной — нямы абрыў,
Бо я не ўсё яшчэ забыў...

1965 г.

* * *

На магілках, нашчадкамі забытых,—
I зелень дрэў, і чорныя сукі,
Паўзучы мох на адзінокіх плітах;
Тут «у вайну» гулялі хлапчукі.
Пасля баёў, усталяваўшы згоду,
Ламалі сучча, дыхалі ў касцёр;
Прынеслі бульбы з позняга гароду,
Здаля сыпнулі, быццам у кацёл.
Аж заскакалі іскры, дым вясёлы
Пачаў кружыцца на адной назе.
Хіснуліся мадонны і анёлы
У вапняковым шматвяковым сне.
Занадта жару. Бульба абгарэла.
Счарнелыя дымяцца круглякі.
Бяруць з агнём і — аб сырое дрэва,
I сыплюцца з далоняў светлякі.
Без солі смачна бульбу дзеці елі
Ў сухім святле недагарэўшых дроў.
З-пад пліт, з-пад дрэў гусцей сышліся цені:
Даўно не грэліся каля кастроў.

1965 г.

* * *

На ўзлессі свецяцца наскрозь асіны,
Як перад сонцам юная далонь.
Дубы завуць мяне на імяніны,
І я нясу вітальны свой агонь.

Запалка выбухнула без асечкі,
Матыль гарачы б'ецца паміж рук.
Гары, касцёр. Жывым не ставяць свечкі.
Гары, касцёр, мой даўні светлы друг.

Сягоння дзён былых паліць не будзем,
Каб не панёс чагосьці мутны дым;
І нават жалуды бубняць аб тым,
Што ўсё на свеце застаецца людзям.

Я вучань, першакласнік я нясмелы,
Вучуся ў мудрых дрэў, а не ў магіл.
Хай упадзе мой дзень, як жолуд спелы,
З тугім запасам жыццядзейных сіл.

Аб вечным думаю, амаль цвярозы,
На імянінах векавых дубоў.
Ляпеча штосьці агонь. Іскрынкі-восы
Мільгаюць ля маіх маўклівых броў.

1965 г.



Лісты ў спякоту не жаўцелі —
Згарнуліся у колер свой
І адляцелі без надзеі
На кроплю праўды дажджавой.

Лісты зялёныя шкадую:
Не давялося ўбачыць ім
Свой лістапад — часіну тую,
Дзе зразумела ўсё і ўсім.

1965 г.

* * *

Далёкі тупат кананады.
Бягуць грымоты, як сланы.
Ідзём без строю, без каманды,
Пад балалайку ў тры струны.
Патроны. Антрацыт махоркі.
Адстаў прастуджаны баян
З абозамі. Скорагаворкі
Вясковай песні любы нам.
За ворагам мы будзем гнацца
З гранёнай ярасцю штыкоў.
«Сямёнаўну»
сержант Ігнацьеў
Вядзе з смаленскіх бальшакоў.
З-пад хвояў выступае вёска,
Салёна пахнуць палыны.
«Сямёнаўну»
спявае войска,
Нібы вяртаемся з вайны.
Спяваем мы, пакуль пяецца,
Спявае вецер і сасна;
Не ведаем, дзе абарвецца
Неадспяваўшая струна.
Сухі пясок, сухія гаці,
Сухі туман балтыйскіх вод.
На дзюны ўпаў сержант Ігнацьеў,
Пад біўні зломленых грымот.
Чарнеюць спаленыя дзюны,
Чарнее глыба валуна.
Парваныя сцякаюць струны:
Сямёнаўна,
Іванаўна...

1965 г.

## САБАКА Ў МОРЫ

Скача сабака — радасць кудлатая,
Коціцца чорны клубок.
Скача сабака — мора пад лапаю
І перамыты пясок.

Белая хваля ўдарыць з разбегу
Звонам няскошаных траў.
Скача сабака — ён не з каўчэга,
Не хутаранскі ваўкадаў.

Скача сабака, вельмі знаёмы,
Ці не суседскі Дружок,
Што вераб'ёў выганяў з-пад
саломы,
Люта брахаў на сарок?

Мусіць, сарокі не падзяўбалі
Ўсіх успамінаў маіх:
Бачу маленства млечныя далі,
Постаці сосен нямых.

Быццам вяртаюся ў тое былое,
У дапатопны той век;
Першае поле не ўздыбіў раллёю,
Першае дрэва не ссек.

І пачынаць мне ўсё трэба нанова:
Плакаць, смяяцца, любіць,
З гліны, з праменняў, з роднага
слова
Свет свой па-свойму ляпіць.

Плавае ў блізкіх глыбінях салака,
Хвалі — валошкавы цвет,
Трое нас — мора, я і сабака,
Трое на ўвесь белы свет.

1965 г.

* * *

Я зведаў адставання шлях пакутны,
Хаду пад дых абознага каня...
Ідуць наўпрост мінуты і секунды,
Як сотні радавых на маршы дня.
І кожны новы міг — не невідзімка,
І кожны міг — на ўліку страявым.
І гэткі час, што лішняя затрымка
Мне пагражае лёсам тылавым.
Мой дух, мой крок пяхота гартавала
Агнём і ліўнем, боем нелюдскім.
Вядзі, сучаснасць! Не прашу прывала
Апроч таго, што суджана усім.

1965 г.

* * *

Гул струмністы на небасхілах,
Пах мядовы на ўвесь небасхіл.
Стогнуць пчолы на зрэджаных крылах,
Усё меней нязношаных крыл.
Толькі міля да мыса Піцунда,
Ў гэтай мілі ні ветру, ні хмар:
Ападаюць нязвонка, нячутна,
Не данёсшы міндальны нектар.
Мора чуйна глыбіні гартае,
Коціць іх да ўзбярэжнай грады.
Мора пчол ад сябе не вяртае,
Ды не менее ў ім гаркаты.

1965 г.

* * *

Ступае мора пругкаю ступою,
Ідзе наўпрост, з абедзвюх сее рук.
Лабаты гул чарговага прыбою,
І на жарстве успеніўся паўкруг.

Увысь уступамі сягнулі горы,
Над пераваламі сціхнуў шум сяўбы.
Ды вырастаюць на скале дубы,
І над дубамі даспяваюць зоры...

1965 г.

* * *

Пяць гор, як пяць дарог
У воблачны сабор.
Пясчынкаю сам бог
Перад дыханнем гор.

Няхай кляне гару,
Хто пнецца стаць гарой;
Усмешку гор бяру
У свой зямны настрой.

1965 г.



На свежым пні глыбокія кругі,
У іх, нібы ў пласцінцы грамафоннай,
Схаваны ліўні грамавых сімфоній
І цішыня затоенай тугі.

Над дахамі ў світальныя часы
Дымкі — як разматаныя палотны.
Лятуць ад нас бацькоўскія лясы,
Лятуць ад нас у вырай беззваротны.

Спякотны подых лядаў стаў гусцей,
Кругі на пнях раскручвае трывога:
Ці не лятуць ад нашага парога
Калыскі ненароджаных дзяцей?

1965 г.



Не вясной, а летам дрэвы сохнуць,
Калі чымсьці скрыўджаны былі.
Без пары лісточкі млява жоўкнуць,
Асыпаюцца, як матылі.

Лес, дзе дрэвам суджана валіцца,
Не аплаквае сухія пні.
...Не спазніся, наша навальніца,
Высакосным ліўнем зазвіні!

1965 г.

## ВАДА

Аб чым гамоніць з берагам вада,—
Мне невядома;
Ў яе свая любоў, і правата,
І немата, і мова.

З маленства, з баразён, з калоссяў дня
Паверыў я бязводдзю, што вучыла.
Вада — яна цыганская радня,
Вада — яна з зялёнымі вачыма.

Таму баяўся вешчай варажбы,
Таму баяўся глыбіні відушчай.
Але з упартасцю нямой вярбы
З тых дзён імкнуўся да яе, пявучай.

Вада тапіла двойчы ўжо мяне,
Нібы дасюль ёй мала, мала, мала
Усіх, каго ўзяла не на вайне,
Каго з-пад мяккіх лап не выпускала,

Як звер лагодны, што сваё дзіця
Аблізвае і лашчыць — нежывое...
А ўсё ж страшней было
Да забыцця
Трызніць хоць кропелькаю дажджавою.

1965 г.

* * *

Непазбежнасць адчуўшы, маўкліва,
Непрыкметна знікаюць сланы.
Свет жыве. Пабялела маліна.
Валам коціць суботнік лясны.
Лес да макавак гулам спавіты,
Тоне ў ім непадслуханы крок.
Між дубоў муравей цягавіты
Ношу ў трыста пудоў павалок.

1965 г.

* * *

Бяздомны кот на глінішчы жыве
З вясны, а можа, з той вайны.
Закінуў казкі мудрыя свае
Ў густыя палыны.

Як па канаце, пругкі хвост нясе,
Нябачны замятае след.
Ён чуе гукі ўсе і пахі ўсе,
Якімі грае свет.

Ён бачыць, дзе стамлёна ўпаў жаўрук —
Нябеснай оперы пяюн.
Вузей, вузей, вузей трагічны круг,
І — сплыў за круг
Валун.

І вось тугі, пружыністы скачок
Над сіняй глыбінёй палёў;
Трапеча, б'ецца шэры камячок
У пастцы кіпцюроў.

Вуглі зялёныя ў вачах звярка,
Нібы прачнуўся тыгр у ім.
Над анямелай песняй жаўрука
Падмятых крылаў
Дым.

1965 г.

* * *

Без паклону, без «да пабачэння»
Ветракі бясшумна адплылі.
Мы спазналі жорсткасць прыцягнення
І адчулі ўстойлівасць зямлі.

Каб саломку ўсюды падсцілалі,
То, напэўна б, жолуд не прарос.
Дрэвамі, цыбатымі сцяблами
Лета ўзносіцца ў смугу нябёс.

Камень. Тугаплаўкі пласт пад плугам.
Вострых каранёў знямелы рух.
Пажаданне ёсць: хай будзе пухам...
Што ж — яшчэ праверым гэты пух.

1965 г.

* * *

Дарагія сябры і суседзі
Ў адыходзе не год, не другі.
Рыбакі не ўзялі з сабой сеці,
Хлебаробы забылі плугі.

А салдат — без вінтоўкі, без каскі,
Бы ўляглася вайна на вякі.
Раз у год — даўні звычай славянскі —
Я наведваю вас, землякі.

У галовах грудок папраўляю:
Маці, спі... Свецяць травы твае.
Земляную калыску люляю
І заглядваю сам у яе.

Мо імкнуся пазнаць тайны тыя,
Што вядомы ўсім продкам маім...
Узараны нябёсы густыя,
Толькі думы усе — аб зямным.

1965 г.

* * *

На жалезным кастры самалёта
Ў сорак першым таварыш згарэў.
Дзень памінкаў — такая спякота:
Салаўі асыпаюцца з дрэў.

Неадчэплены дым з пераправы
Ён цягнуў да сваіх, да сваіх.
Спатыкнуўся прапелер кульгавы
У гушчары калоссяў сівых.

Сінява — парашутам раскрытым,
Сінява — асляпляе да слёз.
І хістаецца з полем і жытам
Строгі помнік на стропах бяроз.

1965 г.

* * *

*Сцяпану Гаўрусёву*

Забыта многае ў жыцці,
З дарогі змецена і змыта.
Мне ў жыта хочацца ўвайсці,
Мне вечнасцю здаецца жыта.

Вазьму шурпаты каласок
На чуйным провадзе саломы —
І адзавецца мне здалёк
Мой продак — сейбіт незнаёмы;

Жней невядомых галасы
Ўсплывуць над постаццю сухою.
Раскалыханы каласы
Густой паўдзённаю смугою.

Тут даспявае пад смугой
Зліццё надзей, жаданняў сумесь.
Гудзе жытнёвы провад мой —
Часоў былых і новых сувязь.

І даспявае далягляд
У трапяткім мембранным гуле.
Шукаюць рукі тых зярнят,
Каб нас таксама дзесь пачулі.

1965 г.

* * *

Бы радзіўся я да нашай эры,—
Час з такой імклівасцю ляціць.
Шалясцяць азёрныя аеры,
І само паветра шалясціць.
Пуцявыя светафоры зорак
За бартом касмічным мільгацяць.
На мяне, катораму за сорак,
Як на продка, юныя глядзяць.
Я сваё мінулае гартаю
З першае старонкі буквара,
Я сваё мінулае чытаю,
Як святло дарожнага кастра.
Даляглядаў вострыя прыкметы
У ружовым водбліску вады.
Пакалыхваюцца сілуэты:
Дрэвы, дрэвы ці мае гады?
Не баладаю пра час мінулы —
Нематою, болем ран нямых
Адгукаюцца ў далёкім гуле
Кананады ўсіх франтоў маіх.
У даліне мёртвай сон пячорны
На павекі клаў мне камяні,
І крумкач на чорных крылах чорны
На мяне спускаўся з вышыні.
Можа, адтаго так ненавіджу
Твой хаўтурны колер, варанне!
А люблю вясной глядзець на вішню,
Нават на сырое бервяно.
Як святлее дрэва-аднагодак,
Як спявае, ўзятае ў руку!
Ведайце, зрабіў нямала продак
Неабходных рэчаў на вяку.

Парадзела, адступіла ўзлессе,
Дзе кастры выносіў да вады.
Паўстаюць з камення і жалеза
За спіной высокія гады.
Нават продкам стаў я не учора:
Сто палкоў-нашчадкаў на пасту.
З барадой нябачнай Чарнамора
На спатканне сёння я іду.
На спатканне з векам і любімай,
На спатканне з тым, што век пашле.
Дымнай паласой з пагоды дымнай
Збоку цень кладзецца на святле.
Маладосць мая! Навошта ценем
Так нясмела ходзіш ты за мой?
Час ляціць з імклівым шалясценнем,
Асыпае горы сівізной.

1965 г.

* * *

Свецяцца пявучыя калоны
Быстрых ліўняў і жывых бароў.
Падарылі юныя мадонны
Сінявокіх радасных багоў.
А зямля гудзе не райскім садам,
На зямлі больш сосен і ракіт.
Падаём мы яблык — спелы атам
Ў кошыку, што сплецены з арбіт.
Вы яго бярыце ў свет зялёны
І нясіце з мудрасцю багоў.
Свецяцца пявучыя калоны
Быстрых ліўняў і жывых бароў.

1965 г.

* * *

Не было вясны такой шыкоўнай,
Не было такіх цвярозых свят.
Расцвіла ігруша пад шпакоўняй,
Расцвіла ад макаўкі да пят.
І Алёнка выбегла з партфелем
Па сцяжынцы ўніз — на ўрок пара!
З мудрасцю наіўнай буквара
Ў гэткі час у добрае паверым.

1965 г.

* * *

Пасля ціхіх перастрэлак
І налётаў штурмавых
На плацдармах абгарэлых
Усё менш і менш жывых.

Пад зямлёй сышліся цені
Неданесеных штыкоў.
Як загад аб наступленні —
Век кароткі ў юнакоў...

Зразумець мы хочам мову
Вешчых траў і светлых дрэў:
Можа, тояць тыя словы,
Што сказаць хтось не паспеў.

1965 г.



Свет блакітна-ружова-зялёны,
Ды ўсё меней у сталасці свят.
Паглядзець бы мне ў час заімглёны,
Як з арбіты глядзіць касманаўт.

Перад часам, калі расставацца
З родным долам, з гушчарам людскім,
Я хачу хоць здаля прывітацца
З тым нябачным нашчадкам маім.

У вачах будзе сіняе неба
Ці смуга палявой нематы?
Ўсё ад нас. Зберагчы сёння трэба
Больш святла, цеплыні, дабраты.

Касманаўты бяруць у кабіну
Толькі тое, што дорага ўсім.
Груз няўдач і памылак пакіну
На мяжы — лістападам сухім.

Хай маланка вясёлая спаліць,
Ліўні выметуць пад сіняву.
Не хацеў бы нічым я заплямліць.
Вас, нашчадкі, ў якіх ажыву.

1965 г.

## ВАРОНА

Маладзікі паляцелі
На палявыя капцы.
Крылы ў яе парадзелі,
Крылы — нібы грабянцы.

Пад каруселлю антэны
Вее асмужаны дым.
Роздум няхітры на тэму:
Што у карыце пустым?

З ельніку,
з хмелю ляснога
Ў вёску лятае часцей:
Сумна без смеху людскога,
Сумна без плачу дзяцей.

Можа,
грахі даравалі,
Можа,
забыта віна? —
Яйкі былі пад дрывамі.
І — не гавела яна.

Можа, не ведалі ўдовы,
Чый чарнабровы салдат
Доўга ляжаў ля дубровы,
Цешыў яе варанят...

Воблака — белае свята,
Луг кураслепам цвіце.
Можа, не будзе распята
На старажытным шасце...

1965 г.

* * *

Верталёт — анёл жалезны
Душы нечыя
узнёс.
Я душою незалежны
Ад бязвоблачных нябёс.

Бачыў сосны, бачыў пальмы,
Бачыў чорныя палі.
На зямлю дзяды упалі,
Каб унукі прараслі.

Мы не рэдка, мы не густа,
Мы высока, як сцягі.
Пад вятрамі ліўні гнуцца,
Белы мак таўкуць снягі.

Свет мой, свет! Вясна няпосна
Сцеле лотаць ля ракі.
Пра вянкі мне думаць позна,
Рана думаць пра вянкі.

Лотаць — лугу пазалота,
Непрычэсаны мурог.
Цень анёла-верталёта
Халадком на твар мне лёг.

1965 г.

# СТАНЦЫЯ ГУШЧЫНА

## I

Знікаюць даўнія прыкметы
Ў знаёмых контурах зямлі.
Я пазнаю пагорак гэты,
Хоць травы новыя ўзышлі.
Быў тут бліндаж
Пад збітай цэглаю —
Салон без крэслаў і сталоў.
«Зямлянку» — зімнюю элегію
Спяваў камроты Весялоў.
Пасля мінорных дум аб смерці,
Аб завірухах, што мялі,
Жадаў выслоўем ён, каб дзеці
Ўсе кучаравыя былі.
Далёка да вясны і лета.
А ля разбураных хадоў —
Трафейныя веласіпеды
Ў абрыўках мёрзлых правадоў.

## II

На Марыупаль і Адэсу
Вывозяць поўнач паязды.
О, каб сябрам
З-пад траў
І лесу
Туды —
Да той
Жывой
Вады:
Адмыць з вачэй жарству начную,
Сляды бяссонніц і пакут.
Ад праваднікцы строгай чую:

— Стаіць наш поезд сем мінут!
Дзяўчаткі. Хлопцы без пагонаў.
Гітар лянівы перагуд.
Адкрыты дзверы ўсіх вагонаў
На сем мінут.
За сем мінут — устаць на ногі,
Сабраць мяшок паходны свой.
Але няма, няма трывогі,
Няма трывогі баявой.
Адна
Яна
Іх падымала
З пасцелі ў восені сырой,
З любога мёртвага прывалу
Ў бяссонны
Станавіла
Строй.
Мінута сёмая сцякае,
Пусцее ранішні перон.
Вакзальны
Развітальны
Звон.
А поезд — поезд не чакае.

## III

Вагоны з песнямі і смехам.
Вы, песні юныя і смех,
Былі тады зямлёй і снегам,
Кастром салдацкім пры сасне.
І мы на гэтым кіламетры,
Ля камянёў і ля жарствы,
Пазнаць імкнуліся прыкметы,
Угадвалі — якія вы?
...Быў тут бліндаж
Пад збітай цэглаю —

Салон без крэслаў і сталоў.
«Зямлянку» — зімнюю элегію
Спяваў камроты Весялоў.
І ўсё? І ўсё. І ўсе ўспаміны.
Расце трава. Цвіце язмін.
З усіх, хто едзе сёння міма,
Бліндаж той бачу
Я адзін.

1966 г.

* * *

*Міхасю Стральцову*

Лугоў зялёнае міжброўе,
Вада — славянскай сінявы.
Мне кожны колас Прыдняпроўя
Жадае добрага здароўя
Паклонам русай галавы.

Вось бескапытная дарога
Звініць у бесканечнасць дня.
Нібы на маманта жывога,
Гляджу на рыжага каня.

Зямля — у воблаках і мяце —
Ляці увысь,
Глыбока сей!
Сасна паклікала, як маці,
Працяжна, глуха: «Аляксей...»

1966 г.



Жніво. Смуга над плёсам. Воз снапоў
Уціснуў дзед вяроўкаю тугою.
Конь адбіваўся злосна ад сляпнёў,
Матляў і трос патрэсканай дугою.

Заглядзеўся — і маці ўжо няма.
Бягу за ёю ўслед. Бягу і плачу.
Жадае дзед суцешыць — ды дарма:
Хусцінку белую ў калоссях бачу.

Відаць, хацела маці збыць мяне
З-пад рук занятых — да дзяцей у вёску;
Бо серп ляжаў на зломленым вязьме,
Бо трэба ёй дажаць палоску.

Даўно гудуць над страчаным вятры,
Даўно рачулка не бяжыць да гаю.
А я з тае пары, з тае пары
Цябе, матуля, даганяю.

1966 г.

* * *

Палім мы маршанскую махорку,
Бачым мы Дняпроўскую граду.
Будзе сёння бой. На тым узгорку,
Можа, я таксама упаду.

Будуць травы над курганам. Будуць
Адлятаць у вырай жураўлі.
Нас, напэўна, ў свеце не забудуць,
Ўспомняць, што на свеце мы жылі.

...Я гляджу на даўняе курганне,
На траву, на рыжых мурашоў.
Ведайце: калі мяне не стане —
Я ў сваю дывізію пайшоў.

1966 г.

* * *

Вось п'едэстал —
Як памяці прывал.
Гвардзейскі знак пад зоркаю ў пяць промняў.
Я ўспомніў вас, таварыш генерал,
Я ўспомніў бой,
Той бой пад Полацкам успомніў.
...Пярэдні край зламалі ўжо штыкі,
Ужо за намі бліндажы і доты.
Спазніліся сюды штурмавікі:
Пяхота абагнала самалёты.
Запознена з-пад блізкага крыла
Дыхнулі ўніз нябесныя «кацюшы»;
Пакуль ракета бледная ўсплыла,
Пакуль камбат хрысціў чыесьці душы,—
Ляглі свае... ляглі свае.
Уздрыгвалі пясчынкі перавала.
Па-над Дзвіной, што млела ў сіняве,
Мы пахавалі першым генерала.
Хадзіў з пяхотай ён нярэдка так;
Ён адчуваў няўлоўнае імгненне,
Што вызначыла спеласць наступлення
Перад мяжою зацяжных атак.
Дывізія далей нясла штыкі,
Гарачыя ад дыму і спякоты.
Было — спазніліся штурмавікі:
Пяхота абагнала самалёты.

1966 г.

* * *

Гудкі паравоза ў дрымоце начной
Зайгралі басамі баяна.
Акорды трывогі сягоння са мной,
Як песня, што ўжо адспявана.

Даўно адгрымеў на мастах эшалон,
Над сінню пранёсся крылата.
Пытаюся ў станцый: дзе наш батальён,
Скажыце, хто бачыў камбата?

Няма батальёна. Камбата няма.
Дывізіі хутка не стане.
Звальняе не старасць. На старасць дарма
Крыўдуем у часе расстання.

Сузор'і сплываюць у глыб сінявы,
Ў сузор'яў свае каляіны.
Апошні гвардзеец жывы, радавы
Нашчадкам раздасць успаміны...

1965 г.

## БАЛАДА ПРА КАСКУ

Над Проняй — не вузкай, не мелкай —
Чмяліны малінавы бас.
У касцы рагатай нямецкай
Счарсцвелае гліны запас.

Тут гліна ганчарнай пароды,—
Навобмацак возьме сляпы.
Спусціся, бог сівабароды,
Адама другога зляпі.

Вярні яму белыя бровы,
Вярні яму памяць і зрок;
І пойдзе ён, юны, здаровы,
Дадому па плітах дарог.

«Глядзіце — я з той абароны,
З акопаў, што зніклі ў траве.
Ўвесь полк наш застаўся на Проні,
На беразе правым яе.

Бяздумна паверылі, фюрэр,
Мы ў твой нефанфарны паход,
Бяздумна мы танкі і фуры
Тады павярнулі на ўсход.

Там густа ляглі грэнадзёры,
Аглохшы ад граю «кацюш».
У Рэйне хістаюцца зоры
Ці сінія выраі душ?

На зорах вісяць медальёны,
Вядзе іх нябесны экспрэс.

Мільёны ў нябёсах,
мільёны,
З мільёнаў адзін я ўваскрэс.

Зноў бачу зялёнае поле,
Зноў бачу цябе, фатэрлянд...»
А ў лесе, нібы ў мюзік-холе,
Галоп салаўіных рулад.

У воблаку белым бакала
Гаркавая пена навін.
Аб тым, як старая чакала,—
Пачуе ад некага сын.

«Так доўга хадзіў ты па свеце,—
Абвее нявеста душу.—
Ў калысцы не плакалі дзеці,
Бязмоўных з дзявоцтва пашу.

Павер мне, што гэта нялёгка:
Ёсць дзеці у птушак і траў.
Любімы твой шоўкавы локан
Не ўецца — ён попельным стаў».

Над Проняй — не вузкай,
не мелкай —
Чмяліны малінавы бас.
У касцы рагатай нямецкай
Счарсцвелае гліны запас.

На гліну ганчарнай пароды
Матыль сінякрылы ляціць.

. . . . . . . . . . . . . .

Не можа бог сівабароды
Адама другога зляпіць.

1966 г.

* * *

Пад небам бацькаўшчыны многа
Нямых крыжоў і цёмных пліт.
Хай не ўстрывожыць праўнука зямнога
Мяжой абведзены нябыт.

Пасля дажджу на выспелым пагорку
Чмялі абудзяцца ў расе.
Чыюсьці несвяточную гаворку
Дарога з поля данясе.

Тады падслухаць мне зусім не лішне:
Які на свеце медазбор,
Пачуць — з якім калоссем поле выйшла
Па-лебядзінаму ў дазор?

Бо нават там, пад навіссю карэння
Дубоў і траў, на самым дне
Штось застанецца ад мяне,
І гул жыцця, і гул землетрасення.

Не абмінуць... І муравацъ не трэба
Адзнаку вечнасці, сябры.
Хай нада мною лёгка ходзіць неба
І свецяць ліўні і вятры.

1966 г.

* * *

Жыццё маё ў двухколерным свячэнні,
Як доўгі фільм. Я — аўтар і глядач.
Перада мною пошукі, здзяйсненні
І кіламетры сумныя няўдач.

І ў чымсьці каешся пасля агляндкі,
І знойдзеш, чым сумленне суцяшаць.
Відаць, не першы ты, хто ўсе выдаткі
Хацеў бы на мінулае спісаць.

1966 г.

* * *

Ніпгто не моднае на свеце,
Уся прырода — без прыкрас.
Ліецца дождж і вее вецер
У незалежнасці ад нас.

Хачу застацца старамодным,
Жадаю лёсу аднаго:
Для некага быць неабходным,
Не адчуваючы таго.

1966 г.

## РАЁННЫ АЭРАПОРТ

Аэрапорт.
Паласаты мяшок,
Напяты дыханнем пагоркаў ліловых.
Антэна і домік. І рыжы стажок,
Увенчаны конусам жэрдак яловых.

З спякотным трымценнем, нібы страказа,
Лятун-лапатун апусціўся з узлеску.
І вокам янтарным сівая каза
На крокі людскія глядзіць па-біблейску.

З вазоў і машын
Землякі панаслі
Пакункі дарожныя з пылам дарожным.
Ўжо стала звычайным,
зусім не трывожным —
Вось тут адарвацца ад ціхай зямлі.

Зямля даспяліла ранеты і мёд,
Садамі і мёдам запахнуць нябёсы.
Ў адкрытыя дзверцы,
Туды, ў самалёт,
Ляцяць безбілетныя жоўтыя восы.

1966

* * *

Агонь ці кроў сцякае па дубровах,
І на зямлі сухой агонь ці кроў?
У воблакаў бялявых і ружовых
Ёсць контуры зямных мацерыкоў.

Плывуць так нізка афрыкі і індыі,
Прасвечаныя днём да глыбіні,
І ўжо даступны далечы нявідныя,
І вабяць недаступныя агні.

Над пройдзеным — смалістыя галіны
Здаровых дрэў, без дуплаў для сініц,
І прабіваюцца з пяску і гліны
Сцюдзёныя вулканчыкі крыніц.

І хоць не ўсё паўторыцца на свеце,
Я веру ў гэты лес, я веру ў сад,
Дзе чысціню вясны нясуць суквецці
Праз кожны свой барвовы лістапад.

1966 г.

* * *

Не ўсе лясы мае згарэлі,
Не ўсе пасечаны сады.
Дубоў жывыя каруселі
Ідуць па кругу. Жалуды
Зрываюцца, як небажаты,
Ўзрываюцца, каб прарасці.
Свет неспазнаны, непачаты
Ка мне спяшаецца прыйсці.

1966 г.

* * *

А перад тым, як зняць пагоны,
Вярнуцца да сваёй зямлі,
Ў часіну ціхае пагоды
Фатографа мы нанялі.
Над чорнай бухтаю стаялі.
Чужую слухалі ваду.
І нашы белыя медалі
Былі, як кажуць, на віду.
Усё здавалася нявечным
Пасля баёў і горкіх страт.
На памяць будучым нявестам
Здымаў гвардзейцаў апарат.
Плылі вячэрнія прысады,
Мультанам пахла з позніх град;
І — па фатографу з засады
Ударыў недабіты гад.
Над долам дагаралі сонцы,
Звінеў, кружыўся лістапад.
А мы застылі ў фатаплёнцы
Без аўтаматаў і гранат.
У пірамідзе — аўтаматы
(Камусь паверылі дарма).
І, можа, самі вінаваты,
Што фотаздымкаў тых няма...

1966 г.

* * *

Цябе, як пупічу, адкрываю
У зменах часу і святла.
То ты прамая, то крывая,
То немая, то гаваркая,
То ты — расінка, то — смала.
Калі ты блізка — так малюю,
Адыдзешся — і пазнаю
Бездапаможную, малую
Цябе, былінку палявую,
Былінку горкую маю.

1966 г.

## ДЗЯВОЧАЯ ГАРА Ў МСЦІСЛАВЕ

Самалёт пакружыўся ў нізоўі,
Гайдануўся над дымкай лясной.
«...Давяралі мне тайну князёўны,
Сябравалі студэнткі са мной.
Толькі мне невядома каханне,
Ўсё гляджу праз світальны туман:
Дзесьці там у дняпроўскім тумане
Ёсць вясёлы блакітны курган.
Не сысці са стаптанага лугу,
Не пабегчы па белай траве...»
Разумею, гара, тваю скруху,
Разумею пакуты твае.
Уздыхалі манашкі па волі
Ў манастырскай лампаднай цішы,
Прыняслі цябе ў вузкім прыполе,
Калыхалі ў калысцы душы.
Пад малітву вячэрнюю зорам —
Спавівалі травою нязлой.
І стаіш ты сягоння дакорам
Сноў дзявочых, што сталі зямлёй.

1966 г.

* * *

Бывай, самалёт! Ты вярнуў на зямлю.
Тут межы я знаў
І акопную гліну.
На полі бацькоўскім, якое люблю,
Чытаю свае векавыя ўспаміны.

1966 г.



Пад гарою сады ў свежым лісці,
Над гарою ўзлятаюць стрыжы.
Гэты свет ты, дачка, беражы,
Як зялёны свой шарык святочны.

Ўсё, што бачыш ты сёння пад небам,
Ўсё, што выдыхам стала маім,
Вузялком завязаў я тугім
І аддаў табе тонкую нітку.

1966 г.

* * *

Рэдка бачым мы птушак сваіх.
А ці помніцца тое світанне,
Калі чуў ты зязюль кукаванне
У глыбокіх сутоннях лясных?

Адлятаюць ад нас жураўлі
З лістападам, з сухімі вятрамі.
За якімі лясамі, барамі
Вы, крылатыя душы, жылі?

Ланцужок карацей, карацей,
І цішэй развітальныя гукі...
Часам так бачым добрых людзей
У імгненне апошняй разлукі.

1966 г.

# ПЯЧЭРСКІ ПАРК

Асыпаецца высь. Пляж пусты,
Толькі цень на пясок упадзе.
Дубравенка калыша лісты —
Жоўты вырай на спелай вадзе.

Ты, рачулка, шнурочак Дняпра,
Гэты лес ціхім смуткам абві!
Адплыла на праспекты пара
Уздыханняў, чаканняў, любві.

На дарозе дажджынак іртуць,
Белы вырыс шпітальнай сцяны;
Ноччу ў сне інваліды вайны
Зябка ў маршавых ротах ідуць.

1966 г.



Лямпачка — паўночнае свяціла,
Спелы німб і цень.
Ноч імжыстая не пагасіла
Незакатны дзень.

Свеціць камень. Свеціць дух сасновы.
Свеціць даўні след.
Свецяць летуценні. Свецяць словы,
Што імкнуцца ў свет.

1966 г.

* * *

Зімні вецер — ветразь палатняны
Зноў пяе, трапеча над страхой.
На акне сібірскія ліяны
Хтось малюе смелаю рукой.

Прыгажэй, рэльефней з кожным рухам
Свет зімы над згорбленым мастком.
Быў я ў добрай дружбе з гэтым русым,
З гэтым вечна юным мастаком.

Паважаючы закон сяброўства,
Асцярожна падаю руку.
Белы снег — рыпучая бяроста
На маім жывым мацерыку.

Можа, будзе холад небывалы,
Ды сябе суцешваю ўсур'ёз:
Вось адсюль, здаецца, два прывалы
Да высокай зелені бяроз.

1966 г.

* * *

Шлях да пагоста размяталі,
Мы на таварыша глядзім.
І дакументы, і медалі
Ужо не з ім, не з ім...

На дрэвах воблачкі парошы,
Знямеласць неба і снягоў.
Вось так хадзілі ў тыл варожы,
Аддаўшы прозвішча на схоў.

Пасля часіны развітальнай,
Калі сляды ўсе замяце,
Сябры на лініі нейтральнай
Чакаюць ноч, чакаюць дзве.

Агонь не зводзіцца ў зямлянцы,
Гудзе пры змене вартавых,
Святы запас (па поўнай шклянцы) —
На ўсіх жывых і нежывых.

Зямлю калонамі таптталі
І — адыходзім па адным.
І дакументы, і медалі
Ужо не з ім, не з ім...

Чырвоны птах згінае зверху
Суквецце мёрзлай бузіны.
Няўжо —
Праводзім у разведку
Без кажуха
Сярод зімы?

Няўжо ні сцюж, ні адтавання
Ў бясконцым пошуку начным?
Туды дарога без вяртання...
А хто наступны следам тым?

1965 г.

* * *

У смузе над поймаю дняпроўскай
Дзесь згубіліся сляды твае.
Пачынаць вясну, відаць, няпроста,
Як няпроста выдумаць яе.
Над вадою граюць пераправы,
Ўздрыгваюць нямыя берагі.
Зноў дымяцца леташнія травы,
Што не ўпалі ў цёплыя стагі.
Даўняе з сягонняшнім сплялося.
След пад следам. І вядома мне:
Гэта ўсё са мною, ўсё збылося,
Аж да белай ластаўкі ў акне.

1966 г.

* * *

З'явіся, новы дзень, пачаткам новым
З світальнай запаведнай чысцінёй,
З забытай песняй, з халадком сасновым
І юны свет адкрый перада мной.

Травой і лесам узышла дарога,
Травой і лесам выспела ў цішы.
Я ведаю: ні сум, ні боль душы
Не вернуць мне, не вернуць мне нічога.

З вышынь гадоў,
з жыццёвага ўзвышэння
Цяпер гляджу ў стамлёную душу;
І забыццё — прадмовы ўваскрашэння —
Ў цябе, наш век грымотны, не прашу.

Бяру з сабой нялёгкія дарогі,
Сляды пакут, што не датлелі там,
Бяру з сабой бяссонныя трывогі,
А юны свет — я юным перадам.

1966 г.

# ДЗЕД ЯРОШКА

Па-дзіцячаму малы і гнуткі.
Жонка прыгарнулася к чалу:
«Ты зялёныя круціў бы дудкі,
Пад ігрушай гадаваў пчалу...»

Дзед Ярошка аб дудзе не марыў
На парозе сотае вясны.
Перад ім — тамы мемуараў
Маршалаў нядаўняе вайны.

За сцяною цёмных дрэў уздыхі,
Чуцен поезд на другой вярсце.
Дзед над выдыхам раскрытай кнігі
Белым адуванчыкам цвіце.

Пачакай жа, вецярок нязнаны,
Не дзьмухні, нязваны вецярок! —
Можа, смерць таксама ёсць экзамен:
Дзед яшчэ не вывучыў урок.

1966 г.

# НОЧ У ТАШКЕНЦЕ

Ведаць мы не ведалі, што змеі
Пакідаюць тайную нару,
Што ўмеюць змеі ў падзямеллі
Адчуваць нядобрую пару.

Горліцы над дрэвамі ўзляцелі,
Быццам штось сказалі ім лісты.
Спаў Ташкент у бэзавай пасцелі,
Мы дарожныя глядзелі сны.

Гул скразны. Скрыгочуць нема сцены.
Ноч плыве ці белы дзень пагас?
Можа, зараз стане гмах каменны
Брацкаю магілаю для нас.

Можа, нечых душ перасяленне
Тоіць непрыдуманы абвал.
Падымаецца землетрасенне
На вышэйшы, на наступны бал.

Бліскавіцы ў правадах. Раскаты.
Ўжо ляжаць дувалы на зямлі.
Драма —
Не ў адным пустым тэатры
Імя Алішэра Наваі.

Веюць двух пачаткаў паралелі,
І святло і цені —
Заадно.
Ўспомні гарады, што адгрымелі
І якіх няма ужо даўно.

Дзесьці пад вятрамі, пад дажджамі
Ціха вочы сінія цвітуць;
З тымі нежурботнымі вачамі
Развітацца, памяць, не забудзь!

Цішыня ўсплыла — як адпяванне,
Цішыня — як камень на стале.
З сіплымі сірэнамі світанне
Пакацілася па бітым шкле.

Промняў, музыкі птушынай гамы,
І руіны —
Цяжкая цана
Ісціны, што глеба ёсць пад намі,
Хоць часамі зыбкая яна.

1966 г.

# ЗМЕСТ

Рыгор Бярозкін. Лірыка сейбіта і салдата 3

ВЕРШЫ

Вузел . . . . . . . . . . 19
Шлях Гастэлы . . . . . . . . . . 20
Крэмень . . . . . . . . . . 21
Помнік у Лясной . . . . . . . . . . 22
Медаль . . . . . . . . . . 23
Навырост . . . . . . . . . . 24
*** Па-над высокаю страхою... . . . . . 25
Наш дзень . . . . . . . . . . 26
Летапіс . . . . . . . . . . 27
Плыты . . . . . . . . . . 28
Наваселле . . . . . . . . . . 29
Мост . . . . . . . . . . 30
Сняжынкі . . . . . . . . . . 31
Жалуды . . . . . . . . . . 32
Серп . . . . . . . . . . 33
Сож . . . . . . . . . . 34
Хлопчык дрэўца насадзіў . . . . . . . . . . 36
За рулём . . . . . . . . . . 37
Насценная газета . . . . . . . . . . 38
Рэха . . . . . . . . . . 40
Ручнікі . . . . . . . . . . 42
Вяснянкі . . . . . . . . . . 43
*** Сок бяроз і начлежны дымок... . . . . 44
Кабардзінка . . . . . . . . . . 45
Начоўкі . . . . . . . . . . 47
Дзявочыя хусткі . . . . . . . . . . 48
Наборшчыцы . . . . . . . . . . 49

Рабіны . . . . . . . . . . . . . . . . . 50
Крыніца . . . . . . . . . . . . . . . . 51
*** Чаўны зімуюць над ракой... . . . . . 52
*** Снег пушысты... . . . . . . . . . . . 53
Напрадвесні . . . . . . . . . . . . . . 54
*** На лузе кветкі... . . . . . . . . . . 55
Усмешка . . . . . . . . . . . . . . . . 56
*** Нізка над вадой схіліўся явар... . . . . 58
Над возерам . . . . . . . . . . . . . . 59
*** Шумяць бары... . . . . . . . . . . . 60
Сланечнік . . . . . . . . . . . . . . . 61
Драч у вырай пайшоў . . . . . . . . . . 62
Дочкі . . . . . . . . . . . . . . . . . 63
Будзільнік . . . . . . . . . . . . . . 64
Твае прыкметы . . . . . . . . . . . . . 65
Магілёўскія дзяўчаты . . . . . . . . . 66
Першамайская вуліца . . . . . . . . . . 67
Да сонца . . . . . . . . . . . . . . . 68
Вынослівасць . . . . . . . . . . . . . 69
Крэмль . . . . . . . . . . . . . . . . 70
Гвардзейскай дарогай . . . . . . . . . 71
Проня . . . . . . . . . . . . . . . . 72
Сябру . . . . . . . . . . . . . . . . 73
Цеплаход «Ісачанка» . . . . . . . . . . 74
Дуб . . . . . . . . . . . . . . . . . 75
Гарніст . . . . . . . . . . . . . . . . 76
*** Перад фатографам жанчына... . . . . 77
У разведцы . . . . . . . . . . . . . . 78
Станцыя метро «Беларуская» . . . . . . 79
Паром . . . . . . . . . . . . . . . . 80
Саракташ . . . . . . . . . . . . . . . 81
Барометр . . . . . . . . . . . . . . . 83
Дарога . . . . . . . . . . . . . . . . 84
Жорны . . . . . . . . . . . . . . . . 85
Хлебасольства . . . . . . . . . . . . 86
Выбухі над ракой . . . . . . . . . . . 87
*** За палямі лугі і лясы... . . . . . . 88
Мой зялёны горад . . . . . . . . . . . 90
Побач з Расіяй . . . . . . . . . . . . 92
Роздум . . . . . . . . . . . . . . . . 93
Падмаскоўе . . . . . . . . . . . . . . 94
Краснаполле . . . . . . . . . . . . . . 95
*** Шчасце так не даецца... . . . . . . . 97
Адпачынак . . . . . . . . . . . . . . . 98
*** Была бранёю гімнасцёрка... . . . . . 100

*** Базар паладзілі гракі... 101
Карабельныя сосны 102
*** Раскінуў пляж дрымотныя пасцелі... 104
Артылерыст Сірацінін 105
Рабінавая ноч 107
*** Леглі сябры ва ўсім паходным... 108
Крылы 109
*** Як быццам камякі блакіту 110
Удзячнасць 111
Сябры, з якімі развітаўся 113
*** Кажуць, што арэхі не абпалены... 115
Магілёўская шаша 116
Курганы 117
*** Маленства. Пыл ганялі крэглямі... 119
*** Не пялёсткі ганак усцілаюць... 120
*** Яшчэ мне верыцца... 121
*** Не сумаваў я аб пярыне... 122
Пісьмо на Рыжскае ўзмор'е 123
*** У лесе знайшоў я... 124
Цыганка 125
Надпіс на плоце 127
*** Балота патушыла аганькі... 129
*** Надыходзіць часамі... 130
*** У мяне аж мільён адрасоў... 131
Балкон суседкі 132
Сны 133
*** Ты спытала... 134
*** Я зноў іду у свет... 135
*** На ўзлессі дуб... 137
*** Перуны ў сто гармат ударылі... 138
*** Зноў у зямлі ўзарвалася... 139
Любуж 140
*** Рухавічок туркоча... 142
*** Хто бачыў... 143
*** Каму агнямі свеціш... 144
Байцам не сняцца пантэоны... 145
Асвейскія ручнікі 146
Вішня капітана Гальпіна 147
Калінінскія сопкі 148
*** Не ўсе бацькі забіты на вайне... 149
Знойдзены патрон 150
*** Вятры і дождж... 151
*** Нямала на планеце ёсць... 152
*** Аддавалі мы маткам бушлаты... 153
Пяро фазана 154

Сарбайскі руднік . . . . . . . . . . . 156
Мост над Таболам . . . . . . . . . . 157
*** Паклонімся калодзежу вядром... . . . . 158
Над возерам Саркуль . . . . . . . . 159
Гасцініца ў саўгасе «Мінскі» . . . . . . 161
*** Каля мора спее жыта... . . . . . . . 163
*** З Карпат і Случчыны прыехалі... . . . 164
Перакаці-поле . . . . . . . . . . . . 165
Сосны . . . . . . . . . . . . . . . 166
Магілёўская гаворка . . . . . . . . . 167
*** Над ракой казахскаю Табол... . . . . 168
*** Гул вентылятараў чмяліны... . . . . . 170
*** Бачыў у Мінску... . . . . . . . . . 171
*** Адчыняйце вокны... . . . . . . . . . 172
*** Байцам спявае рэквіем сасоннік... . . 173
*** Пяць патронаў у абойме... . . . . . . 174
*** Зямля усё глыбей... . . . . . . . . 175
У смузе асядалі дубровы... . . . . . . . 176
*** Яшчэ не скончана дарога... . . . . . . 177
Цішыня Брэсцкай крэпасці . . . . . . . 178
Колеры граніцы . . . . . . . . . . . 179
Алёшка . . . . . . . . . . . . . . 180
Над Бугам . . . . . . . . . . . . . 181
*** У вёсцы непрыкметнай... . . . . . . 182
Яблыні на заставе . . . . . . . . . . 183
*** На граніцы паласу... . . . . . . . . 184
*** І чаму не стаў я лесніком... . . . . . 185
*** Вятры мае... . . . . . . . . . . . 186
Іван-чай . . . . . . . . . . . . . . 187
*** У акне маім... . . . . . . . . . . 188
*** Дала мне маці гэту мову... . . . . . . 189
*** Пярэдні край... . . . . . . . . . . 190
Цень матылька . . . . . . . . . . . 191
Раберціна Ларэці . . . . . . . . . . 193
*** Калі зара на досвітку... . . . . . . . 194
*** Калі рачулкі абмялеюць... . . . . . . 195
Жураўліныя трубы . . . . . . . . . . 196
*** У тралейбусаў кароткі сон... . . . . . 197
*** Я ў плёсах быў... . . . . . . . . . 198
*** Не прадавалі ў нас ніколі... . . . . . 199
*** Танцуюць недарэмна... . . . . . . . 200
*** У лузе скошаным... . . . . . . . . 201
*** І чаму не ў пашане асіна... . . . . . 202
Баркалабаўскія салаўі . . . . . . . . . 203
*** Чагосьці ў вёсцы роднай не знаходзіш... 205

Да партрэта Янкі Купалы . . . . . . . . 206
*** Гул вакзалаў... . . . . . . . . . . . . 207
*** Праз шчыліны... . . . . . . . . . . . 208
*** На волатаўскі луг... . . . . . . . . . 209
Знаёмства з морам . . . . . . . . . . . 210
*** Свяцілася зялёнае акно... . . . . . . 211
Домскі арган . . . . . . . . . . . . . 212
*** Зямля Лачплесіса... . . . . . . . . . 213
*** Прывітанне тваім каравелам... . . . . 215
*** На схіле дня... . . . . . . . . . . . 216
*** О сэрца адчувальнейшая памяць... . . 217
*** Звіні, прыбой... . . . . . . . . . . . 218
*** Бывай, прыморскі светлы гарадок!.. . 219
*** Напэўна, буду сумаваць... . . . . . . 220
*** Асенні лес... . . . . . . . . . . . . 221
Снег . . . . . . . . . . . . . . . . . . 222
*** Я веру, быццам сваякам... . . . . . . 223
*** Птушыныя гнёзды пад снегам... . . . . 224
*** Над полем, над стаўком... . . . . . . 225
*** На лугах зіма... . . . . . . . . . . . 226
Варажская балада . . . . . . . . . . . 227
*** У дубах салаўі адсвісталі... . . . . . 228
*** Куды спяшаюцца... . . . . . . . . . . 229
*** Навошта нам гарлачыкі былі... . . . . 230
*** Мы верылі ў жалезныя масты... . . . . 231
*** Адцвітае і нямее... . . . . . . . . . 232
*** Прырода — скульптар... . . . . . . . . 233
*** Помняцца барозны і світанні... . . . . 234
*** Так цяжка адрываўся самалёт... . . . . 235
*** Вячэрні сад... . . . . . . . . . . . . 236
*** Ад бяды — ад салёнай вады... . . . . . 237
*** Перада мной лясны абрыў... . . . . . . 238
*** На могілках, нашчадкамі забытых... 239
*** На ўзлессі свеціцца... . . . . . . . . 240
*** Лісты ў спякоту не жаўцелі... . . . . 241
*** Далёкі тупат кананады... . . . . . . . 242
Сабака ў моры . . . . . . . . . . . . . 243
*** Я зведаў адставання шлях... . . . . . 245
*** Гул струмністы... . . . . . . . . . . 246
*** Ступае мора... . . . . . . . . . . . . 247
*** Пяць гор, як пяць дарог... . . . . . . 248
*** На свежым пні... . . . . . . . . . . . 249
*** Не вясной, а летам дрэвы сохнуць... 250
Вада . . . . . . . . . . . . . . . . . . 251
*** Непазбежнасць адчуўшы... . . . . . . 252

*** Бяздомны кот на гліпішчы жыве... . . . 253
*** Без паклону... . . . . . . . . . . . . . 254
*** Дарагія сябры і суседзі... . . . . . . . 255
*** На жалезным кастры самалёта... . . . . 256
*** Забыта многае ў жыцці... . . . . . . . 257
*** Бы радзіўся я да нашай эры... . . . . 258
*** Свецяцца пявучыя калоны... . . . . . 260
*** Не было вясны такой... . . . . . . . . 261
*** Пасля ціхіх перастрэлак... . . . . . . 262
*** Свет блакітна-ружова-зялёны... . . . . 263
Варона . . . . . . . . . . . . . . . . . 264
*** Верталёт — анёл жалезны... . . . . . 265
Станцыя Гушчына . . . . . . . . . . . 266
*** Лугоў зялёнае міжброўе... . . . . . . 269
*** Жніво. Смуга над плёсам... . . . . . . 270
*** Палім мы маршанскую махорку... . . . 271
*** Вось п'едэстал... . . . . . . . . . . . 272
*** Гудкі паравоза ў дрымоце... . . . . . 273
Балада пра каску . . . . . . . . . . . 274
*** Пад небам бацькаўшчыны... . . . . . 276
*** Жыццё маё ў двухколерным свячэнні... 277
*** Нішто не моднае на свеце... . . . . . 278
Раённы аэрапорт . . . . . . . . . . . 279
*** Агонь ці кроў сцякае... . . . . . . . 280
*** Не ўсе лясы мае згарэлі... . . . . . . 281
*** А перад тым, як зняць пагоны... . . . 282
*** Цябе, як пушчу, адкрываю... . . . . . 283
Дзявочая гара ў Мсціславе . . . . . . . 284
*** Бывай, самалёт!.. . . . . . . . . . . 285
*** Пад гарою сады... . . . . . . . . . . 286
*** Рэдка бачым мы птушак сваіх... . . . 287
Пячэрскі парк . . . . . . . . . . . . . 288
*** Лямпачка — паўночнае свяціла... . . . 289
*** Зімні вецер — ветразь палатняны... . . 290
*** Шлях да пагоста размяталі... . . . . . 291
*** У смузе над поймаю... . . . . . . . . 293
*** З'явіся, новы дзень... . . . . . . . . 294
✓ Дзед Ярошка . . . . . . . . . . . . . 295
Ноч у Ташкенце . . . . . . . . . . . . 296

**Пысін А.**

П 94 Выбраныя творы. У 2-х т. Т. І. Вершы/[Прадм. Р. Бярозкіна].— Мн.: Маст. літ., 1980.— 304 с., 1 л. іл.

У пер.: 1 р.

Першы том двухтомніка лаўрэата Дзяржаўнай прэміі БССР Аляксея Пысіна знаёміць чытача з лепшымі творамі аднаго з таленавітых і самабытных паэтаў нашай роднай паэзіі.

Том склалі вершы 1948—1966 гадоў.

ББК 84 Бел 7
Бел 2

П $\frac{70403-203}{М 302(05)-80}$ 104—80 4702120200

Алексей Васильевич Пысин

Избранные произведения в двух томах

ТОМ 1

Стихи

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»

На белорусском языке

Рэдактар Р. І. Барадулін. Мастак Р. Ф. Клікушын. Мастацкі рэдактар Л. Я. Прагін. Тэхнічны рэдактар С. А. Абрамчук. Карэктар Л. С. Зіза.

ІБ № 559

Здадзена ў набор 02.01.80. Падп. да друку 14.10.80. АТ 05212. Фармат 70×100¹/₃₂. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 12,26+0,08 укл. Ул.-выд. арк. 8,41. Тыраж 8000 экз. Зак. 117. Цэна 1 р.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, Паркавая магістраль, 11.

Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.